

*Ян Матэйка. Грунвальдская бітва.*
*1878 г. Палатно, алей. 426x987 см.*
*Нацыянальны музей, Варшава.*



* * *

*Мінскай архікатэдры*
*ахвярую*

У гэтым краі, далёкім ад раю,
дзе нішчылі душы і храмы,
дзе шмат руінаў, болю і драмаў,
дзе плачуць так, як спяваюць.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
дзе памяць крывавіць, як рана,
дзе гэтулькі знішчана і забрана,
дзе ўзятае рэдка вяртаюць.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
насуперак здзекам і кпінам,
сваю святыню ўзняў з руінаў
люд верны роднага краю.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
у самым цэнтры сталіцы,
зайдзі ў святыню, каб памаліцца
і дакрануцца да раю.

*05.09.2010 г.*

*Крыстына Лялько*



## У нумары 3/2010

НАША ВЕРА



# Ян Матэйка. Грунвальдская бітва

Ёсць у культуры народаў творы, у якіх вялікія таленты як бы вывелі формулу нацыянальнага існавання, паказваючы народнае жыццё ў адзін з найярчэйшых яго момантаў. На такіх творах пакаленне за пакаленнем вучацца патрыятызму. Імі натхняюцца ў пару міру і стваральнай працы. А ў цёмныя гады прыгнёту, вайны і няшчасцяў яны становяцца крыніцай аптымізму і апірышчам нацыянальнага духу. Часцей за ўсё гэта творы гістарычнай тэматыкі і батальнага жанру, бо гісторыя — гэта біяграфія народа, а ваенная драма з яе экстрэмальнымі абставінамі напоўніцу раскрывае чалавечыя характары і народныя сілы. Так, сімвалам культурнай велічы радзімы Рэнесанса — горада Фларэнцыі — яе дзяржаўнай моцы і незалежнасці з'явілася ў свой час скульптура Мікеланджэло «Давід» (1501–1504). Для ўкраінцаў творам, які ўвасабляе іх народны аптымізм і нязломнасць духу, з'яўляецца карціна Ільі Рэпіна «Запарожцы пішуць ліст турэцкаму султану» (1880–1891). З агульнага жанравага правіла ёсць выключэнні. Многія нарвежцы падчас нямецкай акупацыі вешалі ў дамах рэпрадукцыю пейзажнай карціны свайго класіка Юхана Хрысціяна Даля «Бяроза пасярод навальніцы» (1849). Магутнае дрэва на вяршыні скалы, якое супрацьстаіць буры, учапіўшыся каранямі ў камяні на ўскрайку бездані, — такой успрымалі людзі сваю радзіму ў ліхалецце сусветнай вайны. У польскай культуры ёсць шэраг выдатных твораў, якія выконваюць народаўтваральную функцыю. Але, на наш погляд, карціна Яна Матэйкі «Грунвальдская бітва» і раман Генрыка Сянкевіча «Крыжакі» — гэта найвышэйшыя з'явы мастацкага самаасэнсавання і самаацэнкі для цэлага народа. І не выпадкова, што абодва шэдэўры прысвечаны адной тэме.

Ян Матэйка (1838–1893) нарадзіўся ў Кракаве. У старажытнай сталіцы Польшчы прайшла асноўная частка ягонага жыцця. Бацька мастака быў чэхам, які прыбыў у Кракаў, каб працаваць гувернёрам і настаўнікам музыкі. Маці паходзіла з заможнай польска-нямецкай сям'і. Ужо ў школе Ян праявіў незвычайныя здольнасці ў маляванні, а ў 13-гадовым узросце яго прынялі ў кракаўскую Вышэйшую школу выяўленчых мастацтваў. Найбольшы ўплыў на станаўленне мастака аказалі ягоныя настаўнікі Юзэф Крэмэр і Уладзіслаў Лушчкевіч. Менавіта яны натхнілі юнака на гістарычную тэму, навучылі рабіць эскізы з кракаўскіх помнікаў, працаваць з гістарычнымі матэрыяламі. У 1858 годзе Ян Матэйка атрымаў стыпендыю на навучанне ў Мюнхенскай акадэміі мастацтваў, у той час прызнаным цэнтры еўрапейскай мастацкай адукацыі. Маладога студэнта ўразілі гістарычныя палотны Паўля Дэляроша і Карла фон Пілоці, якія ён убачыў у баварскай сталіцы. У 1860 годзе Ян Матэйка некаторы час вучыўся ў Вене. Ужо дэбютная карціна «Станчык» (прысвечаная каралеўскаму блазну пры двары каралевы Боны, які сумуе з прычыны згубы Смаленска, захопленага расейцамі), выкананая 24-гадовым мастаком у 1862 годзе, стала важнай падзеяй не толькі ў жыцці пакалення сучаснікаў мастака, але і яркай старонкай гісторыі ўсяго польскага мастацтва. Калі пачалося паўстанне 1863–1864 гадоў, Ян не мог пайсці на бітву разам з двума сваімі братамі, бо меў вельмі слабы зрок. Але ён здабываў для паўстанцаў зброю і дапамагаў народнай справе грашыма.

З маладых гадоў Яна Матэйку суправаджаў поспех. Ягоныя карціны захаплялі людзей не толькі ў Польшчы. На парыжскім Салоне 1865 года ён атрымаў Залаты медаль, а ў 1870 годзе быў узнагароджаны за карціну «Люблінская Унія» французскім ордэнам Гана-

ровага Легіёну. Ягоныя творы купляліся за высокія цэны. Ян Матэйка стаў дырэктарам кракаўскай Вышэйшай школы выяўленчых мастацтваў. Свой аўтарытэт ён выкарыстоўваў для спрыяння развіцццю роднага горада, захавання ягоных помнікаў, дапамагаў таксама бедным, дэманстраваў свае творы бясплатна. Слава не пакідала яго да канца жыцця. Мастак быў ганаровым акадэмікам некалькіх еўрапейскіх акадэмій мастацтваў. Калі Ян Матэйка паміраў, апошнімі яго словамі былі: «Молімся за Айчыну! Божа благаслаўлёны!» У апошні шлях мастака праводзіў увесь горад...

На наш погляд, «Грунвальдская бітва» — найлепшае дасягненне мастака. І ў еўрапейскім батальным жывапісе таго часу цяжка знайсці нешта блізкае па духу і мастацкім ўвасабленні. Агромністае панарамнае палатно ўражвала сучаснікаў мастака ў многіх краінах, дзе яно экспанавалася на працягу некалькіх гадоў пасля стварэння. Расповед мастака пра адну з найвялікшых бітваў Сярэднявечча сапраўды шматслоўны, і многія даследчыкі па-рознаму трактавалі і нават расшыфроўвалі розныя часткі кампазіцыі, постаці яе ўдзельнікаў, сімвалічныя дэталі. Але не паддаецца карэкцыі і перагляду галоўнае ў карціне — каласальная драма сутыкнення дзвюх цывілізацый: славянскі Усход бароніцца ад агрэсіі германскага Захаду і перамагае магутнага ворага.

Мастак не спыняецца на нейкім канкрэтным моманце бітвы. Даследчыкі чытаюць прынамсі тры злучаныя разам асноўныя эпізоды баталіі, вядомыя з пераказу польскага гісторыка Яна Длугаша (на якім грунтаваў свой сюжэт Ян Матэйка). Але самае важнае ў вобразным ладзе — гэта апафеоз перамогі над магутным ворагам. Галоўным героем Яна Матэйкі становіцца Вітаўт Вялікі, постаць якога на кані ўзвышаецца ў самым цэнтры палатна. Гэтая фігура самая стабільная пасярод віру сечы. Яна — як манумент, як сведчанне дзеяння найвышэйшага Закону, надчалавечай моцы, якая кіруе лёсамі народаў. Вітаўт у чырвоным жупане трыумфальна ўзнімае меч і чырвоны шчыт. Справа ад яго прастору пранізвае дрэўка, на якім лунае чырвоны сцяг з белым арлом Рэчы Паспалітай. У кантрасце з гэтым вертыкалізмам проста над галавой Вітаўта хіліцца да зямлі тэўтонскі штандар — белае палотнішча з чорным арлом і залатым крыжам. За плячыма беларускага палкаводца польскія рыцары адбіваюць штандар у крыжакоў.

Праваруч ад Вітаўта мастак змясціў другі па важнасці цэнтр кампазіцыі — гэта сцэна гібелі магістра Тэўтонскага ордэна Ульрыха фон Юнгінгена. Барадаты магістр адбіваецца ад нападаючых мячом. Ягоны белы конь зрываецца наўтапыркі, а над магістрам узмывае, як хваля, белы плашч (далёкі водгук дынамічнага ўсплеску ў выяве сцяга Рэчы Паспалітай). Матэйка трактуе гібель нямецкага военачальніка як акт заслужанага пакарання. Магістра атакуюць два ваяры. Адзін з іх — напаўаголены язычнік-жмудзін. Волат размахваецца мускулістымі рукамі і накіроўвае ў сэрца ворага дзіду. Доўгі час лічылася, што мастак уклаў у рукі ваяра дзіду Лангіна (адну з найважнейшых хрысціянскіх рэліквіяў). Але цяпер даследчыкі бачаць у гэтай дэталі дзіду св. Маўрыцыя, якую германскі імператар Атон III у 1000 годзе ўручыў у знак дружбы і хрысціянскай еднасці польскаму каралю Баляславу Храбраму. Крыжаку, які парушыў старажытны хаўрус, які замест хрысціянізацыі паганцаў твары ў зло і гвалт, наносіць смяротны ўдар той, каго бязлітасна знішчалі немцы. Другі ваяр гатовы нанесці ўдар сякерай. Ён апрануты ў чырвоны каптур і мае на пасе «ялмужнічку», невялікую торбачку, у якую перад пакараннем смерцю кат клаў сімвалічны грош, атрыманы ад злачынцы. У канцэпцыі Яна Матэйкі нямецкага лідэра забівае кат, які выконвае прысуд пакрыўджаных народаў. Сучаснікі мастака былі перакананыя, што пад чырвоным каптуром ката быў схаваны сам Ян Матэйка, які перажываў даўнюю драму антынямецкага змагання з асаблівай вастрынёй. Гэта не дзіва — мастак у дзяцінстве быў сведкам паўстання 1848 года ў Кракаве супраць аўстрыйскай акупацыі і жорсткага артылерыйскага абстрэлу горада ворагам.

Дынаміка кампазіцыі батальнага палатна неверагодная. У карціне ёсць шэраг партрэтных выяваў гістарычных персанажаў, якія ўдзельнічалі ў бітве. Ёсць шэраг крывавых эпізодаў змагання. Але кампазіцыя не распадаецца на фрагменты. Гэта сама стыхія вайны. Справядлівай вайны для польскага і беларускага рыцарства, для сялянскіх атрадаў, што 600 гадоў таму гераічна баранілі цывілізацыю Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Упэўнены, што велічны жывапісны расповед нашым беларускім геніем пра Грунвальд яшчэ наперадзе. Грунвальд — наша слава і веліч — абавязкова ўвасобіцца ў шэдэўрах нацыянальнага мастацтва. Каб жыла памяць пра подзвігі нашых дзядоў, каб народ ніколі больш не страчваў свае духоўныя каштоўнасці.

*Валеры Буйвал*

**Валеры Буйвал** – мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б’ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.




Глыбокапаважаныя чытачы!

Вы трымаеце ў руках нумар часопіса «Наша вера», у якім шмат матэрыялаў прысвечана галоўнай пастырскай падзеі ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі — 300-годдзю кансэкрацыі былога езумцкага касцёла — цяперашняй мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

Гісторыя гэтай святыні ў многім напамінае шматвяковую гісторыю Каталіцкага Касцёла на Беларусі. Ён перажыў не толькі часы свайго росквіту, але таксама часы ганенняў і знявагі, а цяпер перажывае час свайго адраджэння. Гісторыя яшчэ раз паказала, што Хрыстус ёсць яе Панам, што Ён піша проста на пакручастых лініях гісторыі, і што менавіта Ён расстаўляе ўсе кропкі над «і». Зняважаная і перабудаваная пад спартыўныя мэты ў часы ваяўнічага атэізму, у 90-я гады мінулага стагоддзя катэдра ізноў набыла сваё першаснае прызначэнне — быць біскупскай катэдрай — месцам, з якога навучае біскуп, а таксама быць Домам малітвы і месцам спаткання чалавека з Богам. У катэдры адбываюцца ўсе галоўныя набажэнствы, яна адыгрывае вялікую ролю ў навуковым і культурным жыцці сталіцы Беларусі. Катэдра — гэта не толькі адноўлены помнік архітэктуры, які ўпрыгожвае горад. У ёй праводзяцца розныя канферэнцыі і сімпозіумы, выставы, конкурсы і канцэрты духоўнай музыкі.

У гэтым нумары часопіса «Наша вера» вы знойдзеце матэрыялы пра багатую і трагічную гісторыю мінскай катэдры Імя Найсвяцешай Панны Марыі, пра змаганне за яе вяртанне, пра яе рэстаўрацыю і сучаснае жыццё.

«Historia — magistra vitae est» — «Гісторыя з’яўляецца настаўніцай жыцця» — так кажа вядомае лацінскае выслоў’е. Гісторыя таксама з’яўляецца нашымі каранямі. А без каранёў ніякае дрэва не можа расці. Калі мы хочам быць заўсёды жывым і пладаносным дрэвам, мы павінны памятаць сваю гісторыю і вучыцца ў яе.

Спадзяюся, што змешчаныя ў гэтым нумары «Нашай веры» матэрыялы дапамогуць лепей усвядоміць нашу поўную змаганняў за духоўныя каштоўнасці гісторыю, цаніць яе і на ёй, як на падмурку, з Божаю дапамогаю на прынцыпах Евангелля будаваць будучыню. Няхай памяць пра тых, хто будаваў сучасную мінскую катэдру, на працягу стагоддзяў клапаціўся пра яе, бараніў ад закрыцця, змагаўся за яе вяртанне і праводзіў рэканструкцыю, дапаможа нам, сучасным людзям XXI стагоддзя, быць вартымі нашчадкамі нашых продкаў, імкнуцца ў гэтым святым месцы спаткацца з Хрыстом, каб умацоўваць сваю веру, надзею і любоў і быць сапраўднымі сведкамі Евангелля.

Дзякуючы аўтарам змешчаных у гэтым нумары матэрыялаў і рэдакцыі за іх падрыхтоўку да друку і выданне часопіса, давяраю ўсіх чытачоў і супрацоўнікаў рэдакцыі апецы Марыі, Імя якой носіць мінская архікатэдра, і ад усяго сэрца благаслаўляю.

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.*
*Мінск, 8 верасня 2010 г.*
Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі

Ці зможа хто сёння палічыць бясконцыя гадзіны іх трывання на каленях з ружанцамі ў руках пад знявечаным Божым домам?



# Каб называць сябе дзецьмі Божымі...

Самая старэйшая каталіцкая святыня ў Мінску, цяперашняя архікатэдра Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, адзначае сваё 300-годдзе. Пра яе старажытную гісторыю напісана нямала: пачынаючы ад Уладзіслава Сыракомлі і Ежы Пашэнды і заканчваючы сучаснымі беларускімі гісторыкамі, архітэктарамі, архівістамі, рэстаўратарамі — Святланаю Адамовіч, Тамарай Габрусь, Вольгаю Бажэнавай, Уладзімірам Дзянісавым, Аляксеем Яроменкам, Юрасём Лаўрыкам, Аркадзем Шпунтам… Дзякуючы гэтым і іншым даследчыкам мы ведаем пра ўсе асноўныя перыяды жыцця святыні, уяўляем, якою яна была, як выглядаў яе інтэр'ер, ведаем, хто былі яе фундатары і дабрадзеі, якія святары ў ёй служылі... У гісторыі кожнага касцёла хапае розных перыядаў — шчаслівых і не вельмі. У гісторыі нашага — таксама: ад пабудовы і росквіту да знішчэння пажарам і новай адбудовы, ад надання годнасці біскупскай катэдры да самага жахлівага — перыяду бальшавіцкай прафанацыі Божага дому, ператварэння яго спачатку ў склад для тэатральных дэкарацый, а пасля, амаль на паўвеку, у Дом фізкультуры...

І толькі ў 90-я гады гісторыя зрабіла новы паварот — і пачаўся перыяд адраджэння. Але перад адраджэннем быў яшчэ адзін — перыяд змагання вернікаў за сваю святыню. Ці зможа хто сёння палічыць бясконцыя гадзіны іх трывання на каленях з ружанцамі ў руках пад знявечаным Божым домам? На марозе і снезе, пад дажджом і слотаю штодня маліліся вернікі сталіцы разам з ксяндзом Уладзіславам Завальнюком за сваю галоўную святыню і абівалі парогі чыноўніцкіх кабінетаў...

Тады, на пачатку 90-х, у высакароднай і нялёгкай справе вяртання катэдры мінскіх католікаў падтрымалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Быў напісаны «Адкрыты ліст» на імя Старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча і іншых кіруючых асобаў з абгрунтаваным патрабаваннем неадкладна вярнуць святыню яе законным гаспадарам. 8 мая 1993 года ліст быў надрукаваны ў газеце «Звязда» з ласкавай згоды яе галоўнага рэдактара Уладзіміра Браніслававіча Наркевіча і меў шырокі грамадскі рэзананс, бо яго падпісалі народныя пісьменнікі Беларусі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, такія вядомыя творцы як Вячаслаў Адамчык, Аляксей Дудараў, Уладзімір Конан, мастак Аляксей Марачкін, іншыя паэты і пісьменнікі... Слушнымі парадамі ініцыятыву ліста падтрымаў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, які ў той час узначальваў Пастаянную камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ў Вярхоўным Савеце.

Той ліст, як сведчанне грамадскай неабыякавасці і выразны дакумент свайго часу, мы вырашалі змясціць у гэтым нумары часопіса.

9 снежня 1993 года пастановаю Савета Міністраў Беларусі будынак катэдры быў вернуты католікам Мінска. Пачаўся перыяд адраджэння...

Некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што цяпер адбываецца паскарэнне гістарычнага часу, што жыццё і яго працэсы становяцца больш імклівымі — час галопам імчыць наперад, а гісторыя, адпаведна, гэтак жа хутка ад нас аддаляецца. І ці не слабее ў звязку з гэтым наша гістарычная памяць? Таму кожны юбілей, кожная дата, якая змушае нас хоць крыху прыпыніцца, каб успомніць, каб прыгадаць сваё мінулае, дадзена нам як асаблівая Божая ласка для вяртання ўдзячнай памяці пра сваіх папярэднікаў, пра нашу гісторыю — гераічную і драматычную, часам такую балючую, але непазбыўна дарагую і неабходную для таго, каб мець права называць сябе дзецьмі Божымі і дзецьмі свае Айчыны.

*Крыстына Лялько*

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ,
СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ РБ ВЯЧАСЛАВУ КЕБІЧУ, ПАРЛАМЕНТУ РЭСПУБЛІКІ,
САВЕТУ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІІ ПРЫ СМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, МІНГАРВЫКАНКАМУ.

ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫ!

Неаднойчы з высокіх урадавых трыбун мы чулі заявы, што кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь ставіць сабе за мэту пабудову прававой дзяржавы, якая задаволіла б не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя патрэбы сваіх грамадзян. Адраджэнне нацыі, яе культуры і ў немалой ступені яе дабрабыту немагчымы без адраджэння духоўнасці. Вось ужо тысячу гадоў Беларусь жыве паводле хрысціянскіх традыцый. Нават у часы, калі вера абвяшчалася цемрашальствам, калі зачыняліся і разбураліся храмы, наш народ збярог у душы любоў да Бога.

Можна прывесці шмат прыкладаў таго, як сённяшнія ўлады імкнуцца выправіць памылкі сваіх папярэднікаў. Сведчанне таму — новыя храмы на Беларусі, афіцыйнае прызнанне хрысціянскіх святаў. Але нас непакоіць лёс былога катэдральнага сабора ў сталіцы нашай рэспублікі. Гэты шэдэўр беларускага дойлідства быў пабудаваны як езуіцкі касцёл у XVIII ст. на ахвяраванні нашых продкаў. На працягу апошніх стагоддзяў езуіцкі касцёл упрыгожваў Менск і быў галоўнай дамінантай горада. Велічны выгляд касцёла адлюстроўвалі ў сваіх працах мастакі, і ў свядомасці людзей спічастыя вежы святыні сталі своеасаблівым сімвалам Менска. Касцёл славіўся ракаю з мошчамі святога Феліцыяна, апекуна Літвы. У 1798 г. указам імператара Паўла I езуіцкаму касцёлу была нададзена годнасць катэдральнага касцёла. Дзякуючы Божай ласцы касцёл захаваўся і ў ліхалецце, і ў часы ваяўнічай бязбожнасці, аднак і да гэтага часу святыня не служыць свайму святому прызначэнню. У храме, дзе людзі павінны праз малітву яднацца з Богам, ачышчаць свае душы, знаходзіць суцяшэнне і надзею, дзе павінна гучаць хвала Богу, пануе культ сілы: тут на працягу многіх гадоў знаходзіцца Дом фізкультуры. Што можа быць больш абразлівым для верніка? Выкарыстанне святыні ў якасці спартыўнай залы — абраза таксама нацыянальнага пачуцця і гонару народа.

Беларусь ідзе ў Еўропу, ідзе ў свет. У Менску ўжо знаходзяцца прадстаўніцтвы многіх еўрапейскіх краін. Нядаўна наладжаны дыпламатычныя стасункі Рэспублікі Беларусь з Ватыканам. Неўзабаве сваё дыпламатычнае прадстаўніцтва ў сталіцы Беларусі адкрые папскі нунцый. Але як жа мы будзем выглядаць перад сусветным грамадствам, калі ў нашай сталіцы катэдральны сабор — сэрца каталіцтва Беларусі — служыць не вернікам, а тым, хто дбае толькі пра свае матэрыяльныя інтарэсы. Тут, апрача курсаў навучання розным відам спартыўнай барацьбы, месцяцца шэраг кааператываў. Не хочацца думаць, што ўсё гэта — сведчанне нізкай культуры тых людзей, ад волі якіх залежыць лёс катэдральнага сабора. Вельмі балюча, што сапраўдныя гаспадары святыні — парафіяне-каталікі — вымушаны арандаваць невялікую залу для правядзення набажэнстваў. Знятае ў арэнду памяшканне не ўмяшчае ўсіх жадаючых удзельнічаць у святой Імшы, асабліва ў часе святаў, калі ў катэдры збіраецца вялікая колькасць людзей. У такія дні існуе яўная небяспека для іх жыцця, бо занядбаны, даведзены да аварыйнага стану храм, яго лесвіцы, памяшканні могуць у любы момант абваліцца. І каго тады будзем вінаваціць? Дый хіба можна спакойна глядзець, як старыя, нямоглыя бабулькі падымаюцца па стромкіх прыступках на трэці паверх, каб памаліцца. Каб упрасіць Божае ласкі не толькі для сябе, але для ўсяго нашага шматпакутнага народу.

Усе намаганні вернікаў вярнуць святыню застаюцца, на жаль, безвыніковымі. Тым часам упартасць адміністрацыі Дома фізкультуры ў захаванні катэдры як сродка іх матэрыяльнага забеспячэння прыносіць вялікую шкоду дзецям і моладзі, якія там займаюцца спортам. Жахлівая антысанітарыя, адсутнасць вентыляцыі, пажарная небяспека, аварыйны стан каналізацыі — усё гэта адмоўна ўплывае на здароўе, а не спрыяе фізічнаму ўдасканаленню. Шкада, што гэтага не разумеюць або не хочуць разумець бацькі, якія выпраўляюць сваіх дзяцей у Святыню развіваць мускулатуру, не кажучы ўжо пра маральны аспект пытання.

Мы спадзяёмся, што ўрад РБ і тыя адказныя асобы, ад якіх залежыць вырашэнне гэтай надзвычай важнай праблемы, нарэшце яе вырашаць станоўча. Заклікаем усіх, каму неабыякавы лёс духоўнай нацыянальнай спадчыны, усіх вернікаў і людзей добрай волі адгукнуцца на гэты ліст і выказаць сваю думку. Вяртанне катэдры — справа гонару ўсяго нашага народа.

ХАЙ ДАПАМОЖА НАМ БОГ!

*Аляксей МАРАЧКІН, мастак. Пісьменнікі Васіль БЫКАЎ, Рыгор БАРАДУЛІН, Вячаслаў АДАМЧЫК, Уладзімір АРЛОЎ, Таіса БОНДАР, Аляксей ДУДАРАЎ, Мар'ян ДУКСА, Ірына ЖАРНАСЕК, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Уладзімір КАЗБЯРУК, Уладзімір КОНАН, Хрысціна ЛЯЛЬКО, Уладзімір МАРХЕЛЬ, Ала СЯМЁНАВА, Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ, Віктар ЧАРОПКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК.*

*«Звязда», 83, 8 мая 1993 г.*

Аркадзь Шпунт

# У промнях іншага неба

## *Нататкі рэстаўратара*



Касцёл і забудовы езуітаў на Высокім рынку.
Акварэль Н. Орды. 1864 г.

Быў час, і Няміга была ракою.

І цякла яна ў берагах, як і ўсе рэкі. І калі гаварылі «на Нямізе», то мелі на ўвазе не назву магазіна.

З веку ў век вада, якая плыла «з варагаў у грэкі», адлюстроўвала ў сабе чалавечыя справы, і калі б гэтую «стужку» пракруціць назад, атрымалася б вельмі цікавае кіно. У Мінску няма нічога больш старажытнага, чым гэта пахаваная жыўцом рака, імем якой названая вуліца. З 1926 года рака зняволеная пад зямлёю. Але падчас праліўных дажджоў яна вырываецца з калектарных берагоў і запаўняе асфальтавае рэчышча сваёй вуліцы, нагадваючы гараджанам пра летапіснае мінулае Айчыны.

Рака Няміга — быццам вобраз усёй беларускай гісторыі.

Гісторыя наша, пісаная-перапісаная, асабліва за апошнія 70 гадоў, сфабрыкаваная на патрэбу прэтэндэнтам на ўладаранне, амаль пазбаўленая асобаў і герояў. Да 1917 года яна займае ўсяго дзесяць старонак у школьным падручніку. Адным словам — цёмная гісторыя. Але час ад часу ў ёй усё ж адкрываецца неаспрэчнае мінулае, як раскрытыя роспісы архікатэдральнага касцёла, і сапраўднае XVIII стагоддзе асвятляе парафіянаў XXI стагоддзя... і мы ўсё разумеем, таму што бачым на свае вочы — і тры сотні гадоў назад было жыццё на зямлі. Ды яшчэ якое!

...Жыхары Мінскага ваяводства, сабраўшыся аднойчы на свой соймік, пастанавілі «даць па дзесяць польскіх грошаў з дыма на пабудову касцёла».

І ў 1700 годзе, у дзень святога Марка Евангеліста, быў закладзены і асвячоны камень у вугле будучай пабудовы на тым самым месцы, дзе некалі Уладзіслаў Ягайла заснаваў першую каталіцкую святыню. А 16 сакавіка 1710 года быў асвячоны езуіцкі касцёл пад тытулам Езуса, Марыі і святой Барбары. І ўжо праз 20 гадоў гучныя галасы св. Феліцыяна, св. Казіміра, св. Паўла і св. Якуба — званоў новага касцёла — уліліся ў агульны перазвон над

---

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

горадам, радуючы шляхціцаў, якія не пашкадавалі «па дзесяць грошаў з дыма» на ўзвядзенне такога касцёла...

Потым была гісторыя, у якой чаго толькі ні было за тры сотні гадоў... Трыста гадоў — даўно гэта ці не вельмі? Зухаваты фашысцкі афіцэр на фоне яшчэ не знішчаных, але ўжо двойчы паноўленых роспісаў касцёла нібы ўчора пазіраваў фатографу. Гэта гісторыя амаль побач з намі, калі згадаць пра біскупа Сангушку, які за 800 злотых купіў у мешчаніна Гегера маёнтак у цэнтры Мінска і падарыў яго манахам каталіцкага ордэну езуітаў.

Гісторыю расказваюць і будуць расказваць розныя вучоныя, якія прабіваюцца праз папяровыя нетры, глытаючы векавы архіўны пыл, каб аднавіць карціну мінулага жыцця і імёны святароў, жыццё якіх было звязана з мінскім касцёлам. Таму што гісторыя — гэта асобы, якія яе насяляюць і якіх пакуль амаль пазбаўленая наша гісторыя. Але вядомыя ўжо імёны:



Галоўны алтар і фрагмент інтэр'ера катэдры. Фота пачатку XX ст.

***Першыя айцы езуіты, якія працавалі ў Мінску (каля 1656–1681 гг.)***

*Кс. Лукаш Залускі*
*Кс. Ігнацы Бэкерт*

***1798–1869 гг.***

*Кс. бп Якуб Дадэрка*
*Кс. Стэфан Пазняк*
*Кс. Юзаф Камінскі*
*Кс. бп Матэвуш Ліпскі*
*Кс. Павел Рава (1839–1853)*
*Кс. бп Адам Вайткевіч*
*Кс. Пётр Валіцкі*
*Кс. Бонавентура Лаўрыновіч*
*Кс. Фелікс Мараўскі*
*Кс. Уладзіслаў Пяткевіч*

***1872–1873 гг.***

*Кс. Дабкевіч*
*Кс. Віктар Войдаг*
*Кс. Аляксандр Сіпайла*
*Кс. Антоні Малецкі*
*Кс. Юзаф Ваяводскі*
*Кс. Ян Грынкевіч*
*Кс. Павел Твароўскі*
*Кс. Ян Віткевіч*
*Кс. Адам Акка*
*Кс. Зыгмунт Лазінскі*
*Кс. Міхал Маеўскі*
*Кс. Міхал Сяўрук*
*Кс. Вітальд Чачот*
*Кс. Баляслаў Ягеловіч*

***1917–1934 гг.***

*Кс. бп Зыгмунт Лазінскі*
*Кс. Адам Лісоўскі*
*Кс. Эдвард Вайцяхоўскі*
*Кс. Чэслаў Снарскі*
*Кс. Адам Пучкар-Хмялеўскі*

***1944–1945 гг.***

*Кс. Антоні Барысовіч*
*Кс. Віктар Шутовіч*

Кожнае з гэтых імёнаў вартае даследавання жыцця, звязанага з касцёлам і яго гісторыяй. Але што б ні адкрылася вучоным у мінулым, гісторыя непазбежна прывядзе іх да таго, што аднойчы яны возьмуць у рукі гістарычны дакумент — «Запрашэнне» — і прачытаюць: «Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі мае гонар запрасіць на ўрачыстасць, прысвечаную кансэкрацыі мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, якая адбудзецца 21 кастрычніка 1997 года».

Здаецца, гэта было ўчора, але вось мы ўжо святкуем 300-годдзе касцёла. Як жа не згадаць у хвіліны ўрачыстасці і тых, пра каго застаўся толькі запіс у архіўным дакуменце, і тых, хто жыве і будзе жыць вечна ў людской памяці.

Слугу Божага Зыгмунта Лазінскага — у першую чаргу.

У 1905–1906 гг. ён быў пробашчам касцёла. У 1917 г., пасля аднаўлення Мінскай дыяцэзіі, стаў яе біскупам.

Сёння людзі гавораць пра яго не інакш як пра святога і моляць Найсвяцейшую Панну Марыю: «Няхай Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі дасягне хвалы благаслаўлёных і паўстане перад Маці Касцёла як вялікі заступнік перад Айцом, Сынам і Духам Святым».

Бальшавікі не аглядаліся на папярэджанні сваіх тэарэтыкаў пра тое, што спробы забараніць рэлігію прывядуць да яе ўмацавання і ўвянчаюць яе служыце-

ляў арэолам пакутніцтва. Пра якія «арэолы» ідзе гаворка? Не будзе ж ні служыцеляў, ні веры, ні вернікаў і, натуральна, не будзе ніякіх «арэолаў» — вось так просценька разважалі стваральнікі «новага свету». І для таго, каб усё было напэўна ды найхутчэй — пачалі з іерархаў і ксяндзоў. Няма ксяндза — і няма касцёла, так разважалі яны.



Так выглядаў прэзбітэрый у канцы 1940-х гг. — грузавік на месцы алтара.

Біскупа Зыгмунта Лазінскага арыштавалі ў 1920 годзе. Кінулі ў засценкі НКВД. Здароўе, вядома ж, аднялі, але хіба ёсць сіла, здольная адабраць веру ў сапраўднага верніка? Працэй пазбавіць самога жыцця — і пазбавілі б без усялякіх сумненняў. Пабаяліся грамадскай думкі, галоўным чынам у замежжы... Былі яшчэ Бутыркі. Потым апынуўся ў Польшчы, потым стаў біскупам новай дыяцэзіі — Пінскай. Але гэта ўжо асобная гісторыя.

А з ксяндзом Адамам Пучкаром-Хмялеўскім абышліся так, як абыходзіліся звычайна — ён жа быў усяго толькі вельмі любімым і паважаным сваімі парафіянамі пастырам. Ён быў пробашчам касцёла ў нядобрай памяці трыццатых...

Трыццатыя... Адцягнуць увагу чалавека ад жыцця душы, зрынуць яго ў бязвер'е, загнаць у статак, у шарэнгу, у лагеры — піянерскія і канцэнтрацыйныя, зрабіць цацкаю для ўладаў, запалоханым робатам. Каб, паміраючы ад голаду і холаду, ён быў сыты і абагрэты сузіраннем кінакарцінкі ўсеагульнага дастатку, працвітання і весялосці. Каб не заўважаў раптоўнага знікнення суседзяў і не дзівіўся з таго, што яшчэ ўчора яго сумленны сябра — сёння вораг народа.

Змрок і хлусня двайнога жыцця прыгняталі душу кожнага, хто быў здольны думаць. Хрысціянін адчуваў усё гэта найвастрэй, яму было найбольш балюча, і няпраўду камуністаў ён спасцігаў раней за многіх, падманутых заклікамі да светлай будучыні.

Нямая малітва зрабілася нормаю жыцця для верніка... Было б дзіўна, калі б такі чалавек, як ксёндз Пучкар-Хмялеўскі, не апынуўся на «чорнай лаве», на лаве падсудных. Добры чалавек, да ўсяго ж яшчэ і ксёндз... Яго арыштавалі ў 1934-м — выслалі ў Сібір, а катэдру зачынілі.

Правакацыі, шантаж, спробы схіліць да сакрэтнага супрацоўніцтва, фальшывыя абвінавачванні — усё было прыдатным, але чамусьці не спрацавала, і ў 1937-м ксяндза Адама зноў арыштавалі і расстралялі. Жыццё ў касцёле замерла.

Да 1941 года заставалася тры гады, і яшчэ шмат каго з тых, хто ўдзень і ўначы маліў бы Бога за сваю Айчыну або аддаў бы сваё жыццё за яе ў змаганні з фашызмам — шмат каго з іх паспелі знішчыць у лагерах і засценках НКВД...

Вайна... Глядзіш, як стракочуць і мільгаюць кадры кінахронікі, і міжволі ўсклікаеш: Божа літасцівы! Калі гісторыя — гэта рух чалавецтва, які кіруецца Табою, і чалавецтва рухаецца ў адпаведнасці з планам, які людзям не дадзена ведаць, то, напэўна, гісторык, перабіраючы пажоўклыя дакументы і раздумваючы пра мінулае, павінен спасцігнуць неспасцігальнае — Провід Божы... Ці ж не цуд, што ў разбураным бамбардзіроўкамі горадзе ацалелі, узвышаючыся над яго чорнымі руінамі, дамы Божыя?!

Наколькі менш было б клопату ў барацьбітоў з рэлігіяй, калі б нашы святыні зніклі з твару зямлі пад бамбёжкамі і артабстрэламі! Не давялося б галовы ламаць, пісаць дысертацыі пра тое, якім чынам можна прыстасаваць для патрэбаў народнай гаспадаркі Дом малітвы: касцёл, царкву, сінагогу, мячэць... Пасля некалькіх спробаў прыстасаваць касцёл рашэннем ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР у 1948 годзе мінскую катэдру перадалі спартыўнаму таварыству «Спартак». Напэўна, хацелі даказаць, што ў здаровым целе, забяспечаным



Выгляд вернутай католікам мінскай архікатэдры ў 1994 г.

спартыўнымі заняткамі, зусім не Дух, але здаровы дух утвараецца — і без «рэлігійнага дурману»...

Абезгалоўленая, закрытая каростаю фальшывага фасада катэдра... Цяжка здагадацца, гледзячы на фатаграфію, што гэта той самы езуіцкі касцёл XVIII стагоддзя... Фальш наслойваўся на фальш... Фальшывы фасад «упрыгожваў» фальш плакату, які прапаноўваў свае арыенціры ў акіяне бездухоўнасці — так жыло грамадства.

...Толькі адзін раз у Евангеллі Хрыстус паказаны нязвыкла рэзкім, узбуджаным — проста ўвайшоў, перакуліў лавы і сталы і выгнаў з дому Айца ліхвяроў. Не адно пакаленне савецкіх дзетак прайшло праз спартзалу пад асвячоным стагоддзямі скляпеннямі катэдры. І ніхто не памятаў ужо і не мог уявіць сабе, што гэтыя скляпенні распісаныя, і пад слаямі зафарбовак хаваецца жывапіс трохсотгадовай даўніны, і што менавіта гэты сюжэт пастаянна лунаў над галовамі, але яго ўбачылі толькі тады, калі прыйшоў «час збіраць камяні».

Будынак катэдры католікам вярнулі 9 снежня 1993 года. 5 лютага 1994 года над сталінскім фасадам быў узняты крыж...

Ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк ведае, як нялёгка каціць тачку з бетонам. Яму, святару, які не здрадзіў пастырскаму пакліканню і за калючым дротам ГУЛАГу, шмат вядома пра цярпенне і цярплівасць. І як ніхто іншы ён ведае, што не гэта было самым цяжкім у справе адраджэння святыні. Жадаючы аднавіць катэдру, ён звярнуўся па дапамогу і параду да кангрэгацыяў і кардыналаў, і яму было сказана: «Мы маем уяўленне пра вашы матэрыяльныя цяжкасці і думаем, што ў вашым становішчы дастаткова ўстанавіць крыж на вернутым будынку, абсталяваць унутры алтар і гэтым задаволіцца»... пакуль.

Але ён не згадзіўся са, здавалася б, разумнаю парадаю і звярнуўся да Папы Рымскага — Яна Паўла II. І сабраў розных вучоных-даследчыкаў, архітэктараў, будаўнікоў, рэстаўратараў. І людзі з розных краінаў і з рознымі мовамі знайшлі агульную мову. Іх аб'ядналі благаслаўленне Папы, справа і энергія галавы Каталіцкага Касцёла на Беларусі.

...І вось мы аглядаемся на сакавіцкую раніцу трохсотгадовай даўніны. І бачым блакітнаваты, яшчэ не расталы снег каля сцяны новай пабудовы. І ўдыхаем свежы пах вапны...

Далёка гэта ці блізка, але сёння катэдра ззяе ў промнях сонца і ўзвышаецца, як і тады, калі Няміга была ракою, што адлюстроўвала ў сваім ціхім цячэнні зусім іншае неба...

І «хвала на вышынях Богу» ў гэты вялікі святочны юбілей!



# Каралева, адроджаная з руінаў

Першая палова XX стагоддзя прынесла чалавецтву выпрабаванне дзвюма жудаснымі войнамі. У спадчыну пасля Другой сусветнай вайны нам застаўся бязлітасны таталітарызм, які накінуў сваё ярмо амаль на ўсю Цэнтральную Еўропу. У той час нароўні з жорсткімі забойствамі, знявольваннем народаў і дзяржаваў пашыралася з'ява няшчаднай барацьбы з каталіцкаю вераю. На працягу доўгіх гадоў ліхалецця лёсы людзей незвычайным чынам перапляталіся з лёсамі бясцэнных старажытных святыняў, толькі з тою розніцаю, што святыняў нельга было вывезці ў Сібір, зачыніць у лагерах. Людзей мучылі, прыніжалі, пазбаўлялі чалавечай годнасці, забівалі ў вязніцах, а месцы культу ператваралі ў крамы, хлявы, сховішчы для ўгнаенняў. Усё вырашалі мясцовыя кіраўнікі, якія намагаліся пераўзысці адно аднаго ў «арыгінальнасці» і «вынаходніцтве» знішчэння. З цягам часу гэты тэрор станавіўся крыху больш «лагодным», асабліва ў вялікіх гарадах. Тады сакральныя будынкі бралі на сябе функцыі дамоў культуры, канцэртных, музычных, спартовых залаў. Вядома, прыстасоўваючы іх для выканання новай функцыі, чыноўнікі не асабліва лічыліся з гістарычнымі і рэлігійнымі каштоўнасцямі.

Такі лёс напаткаў мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і ўвесь касцёльны комплекс. Пасля вайны, а дакладней у 1951 годзе, катэдру бяздумна перабудавалі, паздымалі крыжы, званы, зруйнавалі вежы, вы-

везлі прадметы сакральнага культу. Такой была савецкая рэчаіснасць...

У снежні 1993 года ў Грубежаў, што на Любліншчыне, з Кракава да сваёй састарэлай мамы прыязджае на Божае Нараджэнне прафесар архітэктуры Віктар Зін, добры знаёмы і, можна сказаць, сябра Яго Эксцэленцыі арцыбіскупа Казіміра Свёнтка. Калі перад святамі я складаў віншаванні прафесару і яго сям'і, ён сказаў мне: «Віктар, ты вучыўся ў мяне на архітэктурным факультэце Кракаўскага політэхнічнага універсітэта. Я апекаваўся табою падчас атрымання паслядыпломнай адукацыі, а вось цяпер надышоў час, каб паказаць тое, на што ты здатны, і выратаваць адну прыгожую святыню на Беларусі. Арцыбіскуп Свёнтэк шукае выканаўцу рэстаўрацыйных працаў у Мінску. У цябе ёсць свае прадпрыемства па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, то і бярыся за гэту працу!»

Ранняй вясной 1994 года мне патэлефанаваў арцыбіскуп Казімір Свёнтэк і запрасіў у Мінск, каб на свае вочы ўбачыць тое, што засталося ад старажытнай святыні, і паразмаўляць пра магчымасць яе рэстаўрацыі.



Так выглядаў касцёл...

Сустрэча адбылася ў красавіку. Перад катэдраю мяне чакаў ксёндз Ян Шуткевіч, тагачасны яе пробашч. Прывітаўшыся, ксёндз Ян павёў мяне ў пакой, дзе сядзеў сталы, але з добрым целаскладам мужчына (святар, вызначыў я па каларатцы).

— Арцыбіскуп Казімір Свёнтэк, — назваўся і прывітаўся ён. — Запрашаю на каву. Прафесар Зін мне шмат пра Вас распавядаў, і пасля яго рэкамендацый я гатовы даручыць Вам выратаванне гэтага аб'екта — каралевы касцёлаў Беларусі, нашай архікатэдры.



Пачатак працаў па аднаўленні святыні.

Пасля кароткай размовы арцыбіскуп апрануў пацёртую карычневую куртку і берэт і павёў паказваць мне святыню, дакладней, тое, што ад яе засталося. Я глядзеў на гэты вобраз бяды і роспачы і мне станавілася не па сабе. У даху віднеліся вялікія дзіркі, скляпенне было пакрытае слоем галубінага памёту, месцамі звісалі кроквы. Архікатэдра была падзеленая сталёва-бетоннымі перакрыццямі. Цяжка было ўявіць, што раней гэта быў касцёл. Я адскроб палачкаю фарбу, пад якой былі фрэскі. На шчасце, тынкоўку не знішчылі, а толькі памалявалі рознымі фарбамі. У бочных навах тагачасныя «гаспадары» зрабілі балконы з масіўнымі выступамі, не было відаць і следу ад касцёльных карнізаў, капітэляў, перагародак. Уздоўж усяго касцёла праходзіў сцёкавы канал, стаяў жудасны смурод. Пад прэзбітэрыем былі рэшткі нейкай кухні. Усюды асыпалася тынкоўка, сцены былі пакрытыя дзіўным налётам, ад якога агідна смярдзела (гэты пах будзе мяне пераследаваць да канца працаў).

Мы вярнуліся ў кабінет, моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Ксёндз арцыбіскуп быў сур'ёзны, засяроджаны і ў той жа час велічны, як скульптуры Фідзія. Раптам

ён запытаўся:

— Што Вы можаце сказаць пра стан будынка? Ці можаце назваць прыкладны кошт рэстаўрацыі і тэрмін яе рэалізацыі?

Я збянтэжыўся, бо не мог у гэты момант даць адказ, мне патрэбны быў час.

— Эксцэленцыя, гэта сур'ёзная справа, адразу цяжка вызначыць суму і тэрміны.

— Я не прашу дакладнасці, цяпер мне трэба ведаць больш-менш прыблізныя дадзеныя, а потым будзем думаць пра будучыню.

Такіх цяжкасцяў за час маёй прафесійнай дзейнасці з усімі інвестарамі, разам узятымі, у мяне ніколі не было.

— Прашу Вас, дазвольце мне даць адказ хаця б праз дзень, ці хаця б праз некалькі гадзінаў!

— Не, прашу адказаць цяпер.

У галаве лічу кубатуру, блытаюцца метры, матэрыялы, дэкор... Адным словам — трагедыя. Урэшце я кажу, што не хачу браць за гэта адказнасці, бо магу выглядаць непрафесіяналам.

— Колькі? — Гучыць рэзкае пытанне.

— Рызыкую сказаць, што недзе каля ...



Кардынал Казімір Свёнтэк з групай будаўнікоў з польскай майстэрні «Rehabit», якія выконвалі рэстаўрацыйныя працы ў мінскай архікатэдры.

Адразу ж са строгага твару знікаюць сур'ёзнасць і засяроджанасць і сыходзяць цяпло, зычлівасць і такая незвычайная для сённяшняга дня дабрыня! Я гляджу ў гэты твар і застываю ў нерухомасці і роздуме. З гэтай напружанасці вырываецца мяккі голас арцыбіскупа:

— Яшчэ паведамляю пра тэрміны, бо не хачу ўтойваць , што для мяне вельмі важна, каб архікатэдра пачала дзейнічаць у 1997 годзе.

Падчас сваёй збянтэжанасці, аслупянення, страху і адначасова здзіўлення я не ўсведамляў, што ў гэты момант гісторыя з дапамогаю ксяндза арцыбіскупа адкрывае перада мною шырокія далягляды і дае магчымасць праявіць сябе, што гэта справа пакіне ўва мне след на ўсё жыццё.

Тады я яшчэ не ведаў, што арцыбіскуп размаўляў ужо з рэстаўратарамі з Санкт-Пецярбурга, якія вызначылі папярэдні кошт-арыс у тры разы большы і тэрмін рэалізацыі працы да 9-ці гадоў. А таксама я не ведаў тады галоўнага: што размаўляў з чалавекам, які праз некалькі месяцаў стане першым у гісторыі Беларусі кардыналам.

16 жніўня была падпісаная дамова, і так пачалося будаўнічарэстаўрацыйнае жыццё касцёла пад строгім, прафесійным і патрабавальным кіраўніцтвам кардынала Казіміра Свёнтка. Я не хачу згадваць мноства праблемаў, цяжкасцяў, прыемных і непрыемных момантаў. Згадаю толькі, што наладжанае ў той час супрацоўніцтва з Яго Эмінэнцы-



Выгляд прэзбітэрыя і галоўнай навы святыні, у якой некалькі дзесяцігоддзяў мясціўся спартыўны клуб.

яй працягваецца да сённяшняга дня. Ніхто тады не ведаў, што Яго Эмінэнцыя ў зацішку пакоя ў доме па вуліцы Шаўчэнкі ў Пінску створыць касцёльныя структуры для Беларусі, што адбудуе мінскую архікатэдру, пінскі пафранцішканскі катэдральны комплекс, адчыніць Вышэйшую духоўную семінарыю ў Пінску, якую ён сам закончыў увесну 1939 года.

Не магу абмінуць самага значнага моманту, які ўвянчаў нашую цяжкую працу, нашыя радасці і трывогі, — гэта рэкансэкрацыя мінскага архікатэдральнага касцёла ў кастрычніку 1997 года. Замежныя госці, Папскі легат, нунцый, кардыналы, арцыбіскупы, біскупы, касэкраваныя асобы і вернікі сабраліся тады на вялікае свята, гістарычную ўрачыстасць, пра якую заўсёды будуць памятаць і духавенства, і вернікі. На твары Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка былі бачныя слёзы радасці, бо збылося дадзенае ім вернікам абяцанне: «Не пакіну гэтай святыні „сіратою“, прыкладу ўсе намаганні, каб сцены прамаўлялі адкрытымі фрэскамі, гучала арганная музыка, а з галоўнага алтара ў прэзбітэрыі на нас глядзела Найсвяцейшая Панна Марыя, Маці нашага Збаўцы». І ён стрымаў свае слова, як і заўсёды робіць гэта, калі бярэцца за справу.

Ваша Эмінэнцыя, няхай Бог узнагародзіць Вас за любоў, дапамогу, дабрыню, урокі пакоры і трываласці, за недасягальны прыклад для нас усіх. Няхай Маці Божая Вастрабрамская і Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі падтрымліваюць Вас і благаслаўляюць Вашыя справы на хвалу Бога на доўгія гады жыцця.

*Архітэктар-рэстаўратар* ***Віктар Вільк**,*
*дырэктар майстэрні*
*па рэстаўрацыі помнікаў*
*архітэктуры «Renovator-Wilk».*

*Пераклад з польскай мовы*
*Іны Ламакі.*

*Данута Бічэль*

## Малюнак

*«Максім Багдановіч і Зоська Верас*
*(Л. А. Сівіцкая) у Мінску, восень, 1916 г.»*
*Малюнак мастака Івана Пратасені.*

...Максім з Людвікай у ваенным Мінску.
Зіма суровая. Расстанне блізка.
Не даў ім Божа ні вясны, ні лета.
*Але пакуль не думаюць пра гэта...*

...Максім з Людвікай... Паміж імі вершы.
Галуб з галубкай на касцёльнай вежы.
А Мінск заснуў. І будзе доўга спаць...
Прачнуцца людзі... А яны стаяць.

...Так узвышаў мяне малюнак светлы
да вежаў, што гайдаліся ў паветры,
так сграваў мяне цяплом і болем
малюнак, на якім яны абое...

...Святыняў вежы бачныя здалёку!
Ды наляцела груганнё са змроку.
І той касцёл, які я так любіла,
знявечаны пакутаваў бяскрыла.

З-за воблакаў узняўся вецер свежы,
збудзіў званы на катэдральнай вежы.
Лятуць малітвы ўвысь, як зоркі з прыску.
...*Максім з Людвікай у ваенным Мінску...*

*22.04.2010.*



Малюнак з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Папера, аловак. 50х37,5.

*Мар'ян Дукса*

## МІНСКАЯ АРХІКАТЭДРА

Цёпла высішся ў паветры,
ад цябе ў душы святлей.
Ззяе, мінская катэдра,
твой вялікі юбілей.

Ты праменішся празрыста,
сонцам вышытая ўся.
Ну няхай табе і трыста —
свеціцца твая краса.

Ля цябе мы крок суцішым
і сагрэем позірк свой.
Воблачкі плывуць над крыжам,
як анёлы над табой.

Моцна ў час умуравана,
не адпусціць час ніяк.
Ты, як сімвал ласкі Пана,
як апекі Панны знак.

З ветрам плыць і супраць ветру
хіба зможа, хто нядуж?..
Ці лічыла ты, катэдра,
колькі ўратавала душ?

Колькі добрых спраў стварыла —
тым не ўсцешыцца чаму ж?
Ах, як многа падарыла
Богу найчысцейшых душ!

*Ірына Багдановіч*

## У КАТЭДРЫ

Любові ў Хлеб уцелаўленне,
Баранак Божы раны коіць,
Святар дае благаслаўленне,
Гучыць: «Ідзіце ў супакоі...»

Пасля Імшы ў малітве ціхай
Яшчэ раз кленчу і ў пакоры
Прашу аб развітанні з ліхам,
Страсаю крыўды і дакоры.

Блакітным покрывам Марыя
Мяне атульвае, здаецца,
І нішчацца грахі старыя,
Вітай, Марыя, — з сэрца л'ецца...

Тут, у намоленай святыні,
Душа свабодна ад растэркі.
Глядзяць з-пад купала святыя,
А прывід біскупа Дадэркі

Блукае незаўважны ў навах,
Благаслаўляе люд – тут новы,
Усцешны, што праз буры нават
Заўжды праменіць Шлях Хрыстовы.

*Напісана ў катэдры*
*30.04.2010.*



Высокая плошча.Фрагмент акварэлі Ю. Пешкі.

# Там, дзе няма змроку…
# Sacrum надвечаровай радасці



Галоўнае тут — не варушыцца. Нічым не хочацца парушаць цішыню гэтага надвячорку. Калі табе так спакойна, нават драўляная лава здаецца ўтульнейшай за канапу, і ногі на каменных плітах падлогі зусім не стынуць. Да таго ж, калі дачакацца хвіліны, калі промні захаду пяройдуць вунь цераз тую лінію, пачнецца самае цікавае. А пакуль я пачуваюся даволі арганічнаю часткаю наваколля.

Калі ў спякотны дзень зайсці сюды з гаманкой вуліцы, цябе спачатку ахутае халаднаватым змрокам, а пасля, калі вочы звыкнуцца і адпачнуць ад зыркага сонца, ты ўбачыш, што змроку, як здалося звонку, насамрэч і няма. А ёсць, наадварот, святло ў высокіх вокнах, пяшчота ружовага і зялёнага, тонкія твары, што глядзяць на цябе з амаль акварэльных фрэсак, і яшчэ паветра, і ў ім — цёплы васковы водар свята або святасці, дый ці не ўсё адно?

Крокі. Адразу іх і не пачуць, такой маленькай і сухенькай, як травінка, бабульцы яны належаць. Яе твар быццам выразаны з цёмнага дрэва, толькі блакіт вачэй прыцягвае ўвагу. Штодзённы абрад. Яна нізка ўкленчвае, амаль дакранаючыся ілбом да каменных плітаў, і сядае. Праз хвіліну ў тонкіх пальцах ужо бегаюць бліскучыя «слёзкі» ружанца і ціха звіняць, калі выпадкова бабулька дакранаецца імі да лавы. Хутка да яе далучаецца яшчэ адна, і яшчэ, а дробны звон ружанцаў амаль зліваецца ў мелодыю, трошкі нязладжаную, але чамусьці ад яе забірае дыханне і хочацца стаць лепш, чым ты ёсць цяпер...

Яшчэ крокі. Увайшлі вельмі ціха, каб не перашкодзіць, прыселі каля самага ўваходу. Яна — невысокая, цёмнавалосая, ён — вялікі і крыху нязграбны. Ім утульна проста сядзець вось так, утраіх, і маўчаць. Ён здымае куртку і кладзе ёй на плечы, яна ж сядзіць, паклаўшы рукі на жывот, дзе ўжо некалькі месяцаў амаль побач б'юцца два сэрцы, і працяглым позіркам глядзіць на Тую, што наперадзе, якая таксама — Маці. Ім ёсць пра што пагаварыць:

— Скажы, а што Ты адчувала тады? Ці праўда, што ўсё адно, што скрозь усё — радасць?..

Людзей навокал большае. Ужо цяжка разгледзець усіх, хто ўваходзіць, кленчыць, сядае... Вунь стары з масіўным кіем цяжка апускаецца на калені, ды так і стаіць, а сухія вусны шэпчуць нешта, ужо не пачуць з-за гулкіх крокаў, якія напоўнілі прастору. Вось маладая жанчына спрабуе ўтрымаць малога, які адчайна рвецца зазірнуць у вакенца высокай разьбяной спавядніцы, той аглядаецца, і абое пырскаюць ціхім смехам. Сярэдняга веку кабета ў чорным кідае на іх грозны позірк, але таксама не ўтрымліваецца ад усмешкі. Вось на дыбачках праходзяць дзве студэнткі. А там, збоку, бачны востры профіль мужчыны ў акулярах, ён заплюшчыў вочы і моцна сцяў тонкія вусны.

Чую побач шэпт: «Тата, тата... што мы будзем рабіць?» «Будзем маліцца, прасіць Пана Бога». «Не-е-е, я не хачу сёння прасіць! А то Ён жа стаміўся, напэўна, ужо...» «Дык што ж тады?» «А я прыдумаў, ведаеш што? А давай сёння не будзем прасіць, давай мы сёння проста прыйдзем да Яго ў госці, будзем сядзець і размаўляць. І вячэраць таксама будзем...»

Запрошаныя ўжо амаль сабраліся. Яны ўваходзяць, апошнія спяшаюцца, каб паспець на Тваю гасціну.

Божа, з якіх камянёў ты будуеш Касцёл свой?..

*Юлія Шэдзько*

# ПРЫСВЕЧАНЫ




# АРХІКАТЭДРЫ

У альбоме «In nomine Domini» («У імя Пана»), які выйшаў у выдавецтве «Pro Christo» з нагоды 300-годдзя кансэкрацыі касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску, адлюстравана гісторыя святыні, якая за тры стагоддзі свайго існавання перажыла і перыяды росквіту, і заняпад, але з волі Божай цудам захаваліся ў віры бурлівых падзеяў і сёння, адбудаваная і ўзноўленая ў сваім велічным архітэктурным абліччы, з'яўляецца яскравым знакам адраджэння Каталіцкага Касцёла на Беларусі.

У першай частцы альбома — «Гісторыя» — змешчаны звесткі пра святыню з часу яе пабудовы езуітамі і кансэкрацыі ў 1710 г. і да канца мінулага стагоддзя, калі будынак касцёла, моцна знявечаны і цалкам перабудаваны, выкарыстоўваўся як Дом фізкультуры. Літаграфіі, творы мастакоў, фотаздымкі, а таксама дакументы і апісанні мінскай катэдры, захаваныя ў архівах розных краінаў, дапамагаюць убачыць святыню такой, якой бачылі яе мінулыя пакаленні вернікаў.

У раздзеле «Вяртанне» расказваецца пра намаганні католікаў Мінска вярнуць належны статус знявечанаму дому Божаму і пра вялізны аб'ём рэстаўрацыйных працаў, здзейсненых беларускімі і польскімі спецыялістамі для адраджэння і аднаўлення галоўнай каталіцкай святыні Беларусі, якая з'яўляецца помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя.

У апошняй частцы альбома, якая носіць назву «Сучаснасць», апавядаецца пра найважнейшыя падзеі, што адбыліся ў мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі пасля яго рэкансэкрацыі, а таксама пра жыццё архікатэдральнай парафіі.

Тэксты да ілюстрацый даюцца на беларускай і англійскай мовах.

Юры Лаўрык

# СЛАВУТЫ ПРАПАВЕДНІК

## *Пра ксяндза Міхала Карповіча*

У зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі знаходзіцца цікавае выданне, звязанае з мінулым мінскай архікатэдры. Гэта — публікацыя фунэбральнага (пахавальнага) казання, прамоўленага 22 сакавіка 1779 г. «w Kosciele jmienia Maryi po-jezuickim» у Менску і надрукаванага ў тым жа годзе ў Вільні[1]. Тады касцёл быў ужо забраны ў езуітаў у сувязі са скасаваннем іх закону, але яшчэ не зрабіўся біскупскай святыняй — Менск на той час не меў уласнай курыі, а беларускія парафіі ўваходзілі ў склад новастворанай Кацярынай II пасля раздзелу Рэчы Паспалітай беларускай дыяцэзіі з цэнтрам у Магілёве.


NA POGRZEBIE
SWIĘTEY PAMIĘCI
ANTONIEGO
NA ŁOHOYSKU y BERDYCZEWIE
HRABI
TYSZKIEWICZA
GENERAŁA LEYTENANTA
w WOYSKU, KOMENDANTA JAZDY NARODOWEY,
KAWALERYI BRYGADY USSARSKIEY
WIELKIEGO XIĘSTWA LITEWSKIEGO
KAZANIE
X. MICHAŁA
KARPOWICZA
DNIA 22. MARCA 1779.
w MINSKU.
w KOSCIELE JMIENIA MARYI PO-JEZUICKIM
w WILNIE
w Drukarni Królewskiey przy Akademij.

Тытульны аркуш казання кс. Міхала Карповіча над труной графа Антона Тышкевіча ў мінскай катэдры (са збораў НГМ РБ).

Гэта досыць цёмны і мала даследаваны перыяд у па-езуіцкай гісторыі касцёла, які ахоплівае амаль чвэрць стагоддзя. Аўтарытэтная «Encyklopedia wiedzy o jezuitach» паведамляе, што пасля выгнання езуітаў у 1773 г. святыня стала парафіяльнай і заставалася такой аж да ўтварэння менскай дыяцэзіі, калі яна набыла статус катэдры[2]. З гэтага факту можна зрабіць выснову, што напрыканцы XVIII ст. колькасць католікаў лацінскага абраду ў Менску настолькі вырасла, што побач з колішняй свята-траецкай з'явілася патрэба ў заснаванні новай парафіі з уласным касцёлам.

Так ці інакш, але пасля скасавання закону езуітаў святыня працягвала дзейнічаць: у ёй вялася звычайная душпастырская праца і забяспечваліся рэлігій-

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

ныя патрэбы парафіянаў, дый, зрэшты, не толькі іх...

Згаданае на пачатку артыкула казанне было прамоўленае ксяндзом Міхалам Карповічам на пахаванні Антона Тышкевіча, графа на Лагойску і Бярдычаве. Абодва гэтыя імёны — і святара, і графа — некалі славутыя, але сёння амаль забытыя, на першы погляд, ніякіх повязяў з Менскам не маюць. У архіўных матэрыялах не захавалася звестак пра тое, што яны тут жылі або выконвалі нейкія абавязкі. Як жа тады адбылося, што менавіта тут, а не ў Лагойску адыходзіў у апошні шлях нашчадак даўняга роду, гусар, генерал-лейтэнант і «камендант гусарскай брыгады ВКЛ нацыянальнай кавалерыі» Антон Тышкевіч? Якія шляхі прывялі ў Менск славутага прапаведніка, прафесара тэалогіі і пазнейшага біскупа Вігерскага Міхала Францішка Карповіча, які сказаў над труной арыстакрата сваё развітальнае слова? Паспрабуем паразважаць над гэтымі пытаннямі.

Лагойск адышоў у маёмасць Тышкевічаў у 1517 г., калі ваявода падляскі Васіль Тышка ажаніўся з дачкой князя Сямёна Чартарыйскага, якой мястэчка засталося ў спадчыну па бацьку. У 1531 г. ваявода адбудаваў зруйнаваны татарамі лагойскі замак і заклаў там сталую рэзідэнцыю. Ён спрабаваў нават заснаваць у Лагойску ардынацыю, дзеля чаго атрымаў прывілей ад Жыгімонта Аўгуста, аднак ужо пасля смерці ягонага наступніка Юрыя Васільевіча спадчынныя ўладанні былі падзеленыя паміж шасцю сынамі апошняга, і тым самым маярат быў скасаваны. Тым не менш, з гэтага часу мястэчка зрабілася родавым гняздом Тышкевічаў, а Юры, які наследаваў пэўную маёмасць і на Украіне, пачаў тытулаваць сябе панам на Лагойску і Бярдычаве. Паводле веравызнання род Тышкевічаў напачатку быў праваслаўным, пакуль адзін з унукаў Васіля, Аляксандр Юр'евіч, якому і застаўся ў спадчыну Лагойск, не перайшоў у каталіцтва. У 1609 г. ён вымураваў у мястэчку фарны касцёл, у якім з часам быў пахаваны сам і які пазней неаднойчы служыў апошнім прытулкам для ягоных нашчадкаў рымакаталіцкага вызнання[3].


CENSURA.

SPrawiedliwe wysławienie Godnych i Cnotliwych Mężów w oczach naszych schodzących, nayżywszą jest żyjącym do chwalebnych dzieł pobudką: zwłaszcza, kiedy wielbiąc ich cnoty, gruntowne i wyborne Mówca słuchającym umie podać uwagi. Wypełnił to doskonale w tym Kazaniu znajomy wszystkim z sławy swojey Autor; niewątpię zatym, że drukowanie jego z powszechnym ukontentowaniem przyjęte będzie. Datt w Wilnie w Domu S. Jgnacego. Roku 1779. Dnia 31. Miesiąca Marca.

X. HUSSARZEWSKI
*Congr: Mission: Regens Seminarii Diœc: Vilnensis.*

*JMPRIMATUR.*
FRANCISCUS GZOWSKI
*Canon: Cathedr: Judex Surrog: Consist: Gener: Vilnensis.*

НМГіКБ
КП 45150
г. Мінск

Audite, quæso, sermones meos.... Iste moritur robustus, & sanus, & dives, & felix, alius moritur in amaritudine animæ absq; ullis opibus, & tamen simul in pulvere dormient, & vermes operient eos.
*Job: 21,*

*Posłuchaycie, proszę, mowy moiey.... Oto ten umiera silny, zdrowy, bogaty, szczęśliwy. Drugi umiera w gorzkości duszy swey bez żadnego maiątku. Obydwa jednak równie w prochu spoczywać będą i robactwem okryci zostaną.* z ksiąg Swiętych Joba z Rozdziału 21.

Gdyby nie było inszych dowodow, o nikczemności ludzkiego życia, prócz śmierci porównywaiącey proch naypotężnieyszych Mocarzow, z popiołem ciał naymizernieyszych ludzi; czyjaż śmierć mocnieyszym w tey mierze, i żywiey czułym dla nas mogłaby

Разгортка выдання з дазволам на друк і пачаткам казання кс. Карповіча (са збораў НГМ РБ).

Не адно пакаленне Тышкевічаў нарадзілася і было пахавана ў Лагойску. У сувязі з гэтым, на першы погляд, можа здзіўляць паведамленне пра тое, што жалобнае набажэнства па Антону Тышкевічу цэлебравалася не ў лагойскім касцёле, а ў Менску. Аднак гэтаму ёсць тлумачэнне. Менск быў значна больш атракцыйным для беларускіх арыстакратаў, чым іх прыватнаўласніцкія мястэчкі: тут збіралася велікасвецкая публіка, мелі свае дамы Радзівілы, Сапегі і іншыя слынныя ў гісторыі роды, сярод якіх былі і Тышкевічы.

Цалкам зразумела, што прадстаўнікі гэтага роду, які валодаў абшырнымі ўладаннямі ў Менскім ваяводстве, не маглі не мець цесных і частых дачыненняў з яго сталіцай — так на самай справе і было. Напрыклад, толькі ў менскім гродскім судзе штогод актыкававаліся дзесяткі дакументаў, у якіх з той ці іншай нагоды фігуруе прозвішча Тышкевічаў. У прыватнасці, у 1600 г. у судовых кнігах у якасці пісара выступае Дзмітры Скумін-Тышкевіч, а ў дакументах рэгулярна сустракаюцца імёны смаленскага кашталяна Астафія, зямянаў Марціна і Язэпа Тышкевічаў, прычым кожнае з іх неаднойчы[4].

Больш за тое, прадстаўнікі гэтага роду, займаючы высокія пасады ў ваяводстве і павеце (згаданы вышэй Васіль быў і старостам менскім), атачалі сваім клопатам места і дбалі пра яго духоўны і эканамічны росквіт. Яскравым прыкладам гэтага з'яўляецца той факт, што менскі кашталян, а пазней ваявода Пётр

Тышкевіч выступіў у 1615 г. фундатарам нядаўна прыбылых у Менск дамініканаў і падараваў ім у горадзе пляц ды немалую суму грошай на ўзвядзенне мураванага касцёла[5].

У гэтым святле становіцца зразумелым, што Менск стаўся месцам развітання з гусарскім генерал-лейтэнантам не так ужо і выпадкова — як, зрэшты, не выпадкова быў выбраны для гэтага і касцёл. Велічныя вежы паезуіцкай святыні ўзносіліся на Высокім рынку — у самым прэстыжным, як мы сказалі б сёння, раёне горада, і панавалі над наваколлем. Менская ж фара мясцілася за Свіслаччу, на аддаленай ад цэнтру Траецкай гары, а яе стары драўляны будынак ані знешнім выглядам, ані пышнасцю ўнутранага роспісу ды ўбранства не мог раўняцца з мураванай па-езуіцкай святыняй.

Невыпадковым здаецца і запрашэнне кс. Міхала Францішка Карповіча ў якасці прапаведніка, які меўся сказаць развітальнае слова. Ксёндз Міхал Карповіч славіўся як прамоўца — нездарма нават у рэкамендацыі да друку цэнзар называе яго «знаёмым усім дзякуючы сваёй славе аўтарам»[6].

Паходзіў будучы святар з асяроддзя дробнай, але радавітай беларускай шляхты, якая выводзіла свае пачаткі з XV ст. і здобіла шчыты гербам «Карабель»[7]. Нарадзіўся Міхал Карповіч 4 кастрычніка 1744 г. у мястэчку Камянец Берасцейскага ваяводства. З 13 гадоў навучаўся ў езуіцкім калегіуме ў Берасці, у 1761 г. уступіў у Кангрэгацыю ксяндзоў місіянераў і далейшую навуку атрымліваў у Варшаве на студыях тэалагічных.

Дзякуючы прыроджанаму таленту красамоўніцтва Міхал Карповіч у 1766 г., будучы яшчэ клерыкам, атрымаў права прамаўляць казанні ў варшаўскім касцёле Святога Крыжа. Пасля заканчэння навукі і высвячэння ў 1766 г. ён спачатку выкладае філасофію ў Варшаве, а затым — тэалогію ў Кракаве. Нарэшце ў 1772 г. кс. Міхал Карповіч пераводзіцца ў Вільню, дзе чытае курсы па тэалогіі і гісторыі хрысціянства ў дыяцэзіяльнай семінарыі пры катэдры св. Яна, а пазней, з 1783 г., — па дагматычнай тэалогіі ў Галоўнай школе Адукацыйнай камісіі. Неўзабаве пасля пераезду ў Вільню і ўбачылі свет ягоныя першыя друкаваныя казанні.

Яшчэ на пачатку сваёй прапаведніцкай дзейнасці, у 1774 г., кс. Міхал Карповіч быў дэлегаваны на сабор правінцыі ў Варшаву, дзе трапіў у канфлікт з уладамі і мусіў пакінуць Кангрэгацыю. Прычыны гэтага канфлікту сёння невядомыя; можна толькі меркаваць, што яны былі звязаныя з поглядамі святара, якія часта не супадалі з пазіцыяй кансерватыўна настроеных іерархаў. Ужо на пачатку наступнага года ён выступае з прамовай (неўзабаве апублікаванай) «Kazanie w kaplicy Collegij Nobilium XX Piarów do kawalerów tam edukujących się», у якой выкладае сваю праграму маральнага і грамадзянскага выхавання, адначасова крытыкуючы як лібертынізм, так і прадпісаны статутамі розных ордэнаў аскетызм.

З гэтага ж года, і ўсё часцей, кс. Міхал прамаўляе перад Галоўным літоўскім трыбуналам, не раз узнімаючы актуальныя палітычныя праблемы, а крыху пазней, у 1776 г., выступае з шэрагам «юбілейных» казанняў па праблеме стаўлення пануючага класа да сялянства. Хаця погляды кс. Карповіча не пярэчылі каталіцкай дагматыцы і адпавядалі павевам часу, яны не маглі не выклікаць адмоўнай рэакцыі кансерватыўнай часткі духавенства і шляхты, што вылівалася ў вострыя дыскусіі і канфлікты. Аднак кс. Карповіча падтрымліваў біскуп Віленскі Ігнацы Якуб Масальскі, а сам кароль неаднойчы ўзнагароджваў яго за заслугі — у тым ліку медалём «Merentibus» у 1778 годзе.

Выкладчыцкую і прапаведніцкую дзейнасць кс. Міхал Карповіч спалучаў з палітычнай актыўнасцю. Больш за тое, боль за лёс раздзіранай драпежнымі суседзямі на часткі Айчыны нават змусіў яго ўзяць удзел у паўстанні 1794 года, і ён быў прызначаны Тадэвушам Касцюшкам намеснікам радцы ў аддзеле інструкцый. Тэксты прамоваў кс. Карповіча (як, напрыклад, казання, прамоўленага 20 траўня 1794 г. на жалобнай Імшы па палеглых) распаўсюджваліся паўстанцамі як улёткі. Пасля паразы паўстання кс. Міхала расшуквалі расейскія акупацыйныя войскі, і святар нейкі час хаваўся ў Варшаве, потым паўлегальна жыў у маёнтку Грыжашкі на Сувалкаўшчыне, які атрымаў ад біскупа І. Масальскага. Там ён сабраў багатую бібліятэку, дзе было шмат кніг на французскай мове. Праз нейкі час кс. Карповіч прыняў сан біскупа новай дыяцэзіі ў Віграх і з вялікай энергіяй працаваў на гэтым духоўным палетку аж да сваёй смерці ў 1803 годзе.

Аднак вернемся ў 1779 год і згадаем узніклае ў нас пытанне: чаму менавіта кс. Міхал Карповіч прамаўляў на пахаванні графа Антона Тышкевіча? Хутчэй за ўсё, у яго былі асабістыя сувязі з Тышкевічамі. Узгадаем, што ў XVIII ст. на нашых землях кожная больш ці менш значная падзея звычайна суправаджалася цэлебрацыяй Імшы ў адпаведнай інтэнцыі, і таму сярод заможнай шляхты і магнатэрыі

быў пашыраны звычай запрашаць для прамаўлення пропаведзяў слынных прамоўцаў (а пасля нярэдка і фінансаваць выданне іх казанняў).

Ксёндз Міхал Карповіч быў ужо знаным на той час прамоўцам, а паводле сваіх поглядаў ён, як і Тышкевічы, належаў да адкрытай на рэформы каралеўскай партыі. Таму ўжо ў Вільні яму даводзілася прамаўляць казанні з нагоды сямейных падзеяў гэтага роду: у прыватнасці, 27 ліпеня 1775 года ён сказаў пропаведзь у касцёле св. Кацярыны на імянінах мсціслаўскай кашталянавай Ганны. І менавіта таму ён быў запрошаны Тышкевічамі ў Менск, каб абвясціць казанне над труной генерал-лейтэнанта.

Дзякуючы гэтай падзеі наша айчынная гамілетыка папоўнілася яшчэ адным казаннем славутага аўтара, а сам кс. Міхал Карповіч запісаў сваё імя на старонках гісторыі мінскай архікатэдры, 300-годдзе якой мы сёлета адзначаем.



*Ксёндз Міхал КАРПОВІЧ*

# КАЗАННЕ НА ПАХАВАННІ АНТОНА ТЫШКЕВІЧА, ГРАФА НА ЛАГОЙСКУ І БЯРДЫЧАВЕ

*Audite, quaeso, sermones meos… Iste moritur robustus, & sanus, & dives, et felix, alius moritur in amaritudine animae absq[ue]; ullis opibus, & tamen simul in pulvere dormient & vermes operient eos.*

Job 21

*Прыслухайцеся, калі ласка, да словаў маіх… Вось адзін паміраe — моцны, здаровы, багаты і шчаслівы; другі ж паміраe з засмучанаю душою, так і не здабыўшы дастатку. Аднак жа абодва яны аднолькавым чынам ператворацца ў прах і дастануцца чарвям на спажыву.*

Ёў 21[1]

Калі б не было іншых доказаў нікчэмнасці чалавечага жыцця, апрача смерці, якая ўраўноўвае прах наймацнейшых уладароў з пылам целаў наймізэрнейшых людзей, дык чыя ж смерць магла б быць наймацнейшым у гэтым сэнсе і найжывей адчуваным для нас пераконам за тыя смяротныя парэшткі, якім мы сёння сумную ў набажэнстве перад Богам апошнюю паслугу пахавання ўчыняем? Пра каго ж найслушней было б сказаць, што вось паміраe мужны і моцны — *ille moritur robustus, & sanus?* Сказаць, што паміраe, аточаны празмернасцю ўладанняў, багацця і ўсялякага дастатку — *ille moritur dives?* Што паміраe ён, бачачы [працяг і] кроў сваю як у сыне найулюбёнейшым, так і ў братах сваіх, і ва ўсёй сям'і сваёй? Што паміраe, дажыўшы да хвіліны, якую можна параўнаць з найшчаслівейшымі дому ягонага часамі — *ille moritur felix?* Ці ж гэтыя прыкметы не акрэсліваюць дакладна смерць аплакванага грамадствам мужа — Яснавяльможнага Ягамосці пана Антона Тышкевіча, графа на Лагойску і Бярдычаве, генерал-лейтэнанта, каменданта гусарскай брыгады ВКЛ Нацыянальнае кавалерыі?

Але, разам з тым, чым жа па-

---

[1] Karpowicz M. Na pogrzebie Swiętey Pamięci Antoniego na Łohoysku i Berdyczewie Hrabi Tyszkiewicza ... Kazanie... – Wilno, 1779 (dr-nia Królewska przy Akademij). 44 s. Правапіс падаецца паводле арыгіналу.

[2] Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy (1564–1995) / Oprac. L. Grzebień SJ. – Kraków, 1996. – S. 426.

3 Jelski A. Łohojsk // Słownik Geograficzny Krókewstwa Polskiego/ Pod red. F. Sulimierskiego i in. T. 5. – Warszawa, 1888. – S. 683.

[4] Гл. асабовы паказальнік да кніг менскага гродскага суда, ф. 1727 воп. 1 спр. 1. За прадстаўленую інфармацыю шчыра дзякую загадчыцы аддзела старажытных актаў НГАБ В. Бабковай.

[5] Wołyniak. Wykaz klasztorów dominikańskich Prowincyi ruskiej. Cz. II. –Kraków, 1923. – S. 185.

[6] Karpowicz M. Na pogrzebie Swiętey Pamięci Antoniego na Łohoysku i Berdyczewie Hrabi Tyszkiewicza ..., с. 2 нн.

[7] Беларускія даследчыкі, як здаецца, пра кс. Міхала Карповіча не пісалі, але існуе польскамоўная літаратура аб жыцці і дзейнасці святара. Найбольш дакладна і падрабязна яго біяграфія пададзена ў артыкуле «Польскага біяграфічнага слоўніка», гл.: Rabowicz E. Karpowicz Michał // Polski Słownik Biograficzny. T. 12. – Wrocław etc., 1967. S. 117–121.

водле сваёй істоты адрозніваецца ягоны прах ад праху чалавека, які адышоў у бядзе і нястачы; ад праху чалавека, які быў пахаваны ў апошняй мізэрнасці; урэшце, чалавека, памерлага пры ўсеагульным забыцці? — *Alius moritur in amaritudine animae absque; ullis opibus.* Канец у абодвух адзін — прах ды нябыт: *simul in pulvere dormient*; здабытак абодвух аднолькавы — чэрві ды гной: *vermes operient eos!* О як жа, слушна аплакваючы марнасць нашага жыцця — *Dies mei transierunt!*,[2] адной толькі надзеяй жыцця вечнага мы можам асалоджваць мізэрнасць нашых мінаючых дзён: *et rursum post tenebras spero lucem*[3].

Калі б так было, як тое ў вачах чалавечае прыдумкі здаецца, што нейкая высокая асоба можа здзейсніць штосьці насамрэч велічнае, дык дзе ж цяпер усе тыя вялікія продкі дому с[вятое] п[амяці] графа Антона Тышкевіча? Дзе той вялікі ваяр Васіль, ваявода смаленскі і староста менскі, які ў 1561 годзе стаўся главою Дому Тышкевічаў Лагойскіх, прадстаўленага ў асобе сыноў, што нарадзіліся ад яго і князёўны Чартарыйскай? Дзе ж той вялікі [дзяржаўны дзеяч] Януш, ваявода кіеўскі, што прыйшоў на свет ад шлюбу [Фёдара Іванавіча Тышкевіча] з князёўнай Заслаўскай, і пра якога так часта згадваюць [соймавыя] Канстытуцыі? Дзе ж той Пётра, ваявода ды староста менскі, які пабраўся з князёўнай Галаўчынскай? Дзе Аляксандр, злучаны шлюбам з князёўнай Крошынскай; дзе Яўстах, вялікі рыцар і сенатар, які з князёўнай Вішнявецкай даў свету шматлікае патомства? Дзе ж той Казімір, вялікі жаўнер, што меў жонку з роду Трызнаў; дзе Уладзіслаў, крайчы літоўскі, які пабраўся з дачкою Тызенгаўзаў; дзе Феліцыян, што злучыў сваё жыццё з Сапяжанкай? Дзе ж найдастойнейшыя мужы біскуп жамойцкі і віленскі Юры ды ваявода чарнігаўскі Крыштап? Дзе Марцін і Язэп, што ажаніліся з Пацоўнамі; дзе Эмануэль, які валодаў Венцлаўкам і стаў бацькам біскупа жамойцкага Антона, старосты стралкоўскага Міхала, а таксама Казіміра і Тодара? Усе яны былі ў простай лініі продкамі с[вятое] п[амяці] Генерала, што паходзіў з роду Тышкевічаў Лагойскіх.

Дык чым жа, скажэце дзеля Бога, будзе розніцца смяротны прах такіх вялікіх у народзе мужоў ад гнілі звычайных трупаў пасля таго, як пралятуць мітусныя хвіліны гэтага жыцця? *Simul in pulvere dormient & vermes operient eos.* Прамінулі іх дні на зямлі, прамільгнула як цень мімалётная слава іх, зрынуліся ў бездань вечнасці гады іх жыцця. Дасягненні іншыя сыходзяць у нябыт, а смяротны прах целаў іхных, выклікаючы нястрымныя слёзы на нашых вачах, пераконвае розумы і сэрцы чалавечыя, што няма нічога больш мізэрнага за наша жыццё, як тое паказвае нам прырода. *Dies mei transierunt!* І разам з тым мы пераконваемся, што няма нічога больш велічнага за канец нашага жыцця, як пра тое вучыць вера: *et rursum post tenebras spero lucem!*

Таму сёння мы стаім тут, над труною гэтага цнатлівага патомка вялікіх продкаў, што закончыў свой зямны шлях, будучы яшчэ ў веку мужным і здаровым. Чалавека, што меў абшырныя ўладанні, якія цнатлівым і годным свайго стану стараннем ўтрымліваў. Мужа, што, перапоўнены такой найвялікшай радасцю, якую толькі можа адчуць сэрца любага бацькі з прычыны шчасця свайго патомства, калі бачыць ён Дом свой за спадчынныя шляхетнага Роду цноты шчодра [Богам] благаслаўлёны, калі даведваецца, што з Каралеўскага Дому князёўна Панятоўская, аўстрыйскага генерала дачка, ужо шчаслівa з сынам ягоным адзіным шлюбам святым злучылася...

Перарвалася ўвязаная на кроснах прамінуўшае весялосці аснова, праляцела жыццё як сон кароткі, як уцеха цела. *Dies mei transierunt!* Засталася толькі сярод людзей салодкая памяць цнотаў яго хрысціянскіх і грамадзянскіх; засталася толькі непадманутая ў веры перад Богам надзея — дасягнуць вечнае святлыні. *Rursum post tenebras spero lucem!* Застаўся доказ на павучэнне патомкам, што Бог за яго справядлівасць і беззаганнае жыццё, за ягоную прывязанасць да сапраўднае пабожнасці і цноты, свецкай нават шчаслівасцю на ўцеху ўсяго найшляхетнейшага роду благаславіў дом ягоны ў асобе такога патомка. *Dilexisti justitiam. — Propterea delectaverunt te Filiae Regum in honore tuo*[4].

Таму сёння, стаючы над труною гэтага дастойнага пана, мы бачым канец усякае свецкае велічы ў гэтых нікчэмных парэштках, якія гэтая труна ў вечнасці зачыняе. Сабралася тут залітая слязьмі найшляхетнейшая сям'я [нябожчыка], а грамадзяне земляў вялікалітоўскіх смуткуюць тут над адыходам цнатлівага і дабрадзейнага сына Айчыны. Найдастойнейшыя браты [памерлага] гаротна аплакваюць утрату гэтакай прыўкраснай дому свайго аздобы і памочніка. Прысутная тут жонка ў няў-

тольнай жалобе плача над [прамінулым] шчасцем сваіх дзён, з такім дабрадзейным сужэнцам пражытых. У найвялікшай роспачы стаіць над труною найлюбейшага бацькі сын яго высокародны, што, абодвух бацькоў страціўшы, цнотаў вялікага айца імкнецца быць жывым прыкладам. *Mortuus Pater ejus, similem sibi reliquit post se*[5]. [Пакінуў сына], які быў адзіным суцяшэннем бацькі свайго пры ягоным жыцці. *In vita sua vidit eum & laetatus est*.[6] [Пакінуў сына,] які прагнуў дні апошнія свайго бацькі асалоджваць выпешчанай да яго любоўю і сведчаннем Боскага благаславенства ў прызначаным яму Богам шлюбе. *In obitu suo non est constristatus*[7]. [Пакінуў сына], які бачыць у смяротных парэштках свайго ўлюбёнага бацькі ўсю марнасць жыцця чалавечага, але і бачыць у яго дабрадзейным жыцці спадчыннасць заслугаў для Айчыны ды заахвочванне наследаваць вялікія прыклады. *Magna paravit ad titulos Exempla Pater*[8]. Усе нарэшце тут [сабраныя], кідаючы позіркі нясмелыя на жахлівыя сумнага пахавання абрады, узносяць да неба ўздыханні, заклікаючы Божую міласэрнасць да душы с[вятое] п[амяці] Антона, а для сябе ці не чакаючы неўзабаве (бо хто пра тое ведае?!) падобнага смяротнага лёсу. Ці працінае ўсё гэта нашыя сэрцы дзеля спазнання нікчэмнасці жыцця чалавечага і дзеля веры ў жыцця вечнага надзею?

Дык жа задумаемся над заўвагамі тымі і кінем сёння на састылыя парэшткі Антона не іншыя, слязьмі пакропленыя, кветкі, але толькі тыя, што, уладкоўваючы дабрадзейнае жыццё, да пабожнай нас рыхтуюць смерці ды прыкрасці мінуўшага жыцця шчаслівай вечнасці надзеяй асалоджваюць.

Закончыў ужо жыццё сваё зямное с[вятое] п[амяці] Антон — вось доказ нашае нікчэмнасці.

Пачаў ён перад Богам вечнае жыццё — вось адзіная сярод мінулых прыкрасцяў надзея наша.

У жыцці зямным, якое ён закончыў, маем мы ўзор падрыхтоўкі да жыцця вечнага. У жыцці вечным, якое ён распачаў, маем мы заахвочанне да дасканаласці ў жыцці мінулым.

Дык заўважма ж, каб мы пазналі жыцця чалавечага нікчэмнасць: што чыніць смерць, заканчваючы дні ягоныя мінуўшыя? *Dies mei transierunt!* Гэта будзе заўвага першая.

І заўважма яшчэ, каб мы пазналі стварэння нашага веліч: што смерць пабожная яму прыносіць, адчыняючы браму жыцця вечнага? *Et rursum post tenebras spero lucem!* Гэта будзе заўвага другая.

О суддзя страшны, о моцны Божа! Калі Ты праз скон людзей дабрадзейных пазбаўляеш нас узораў цнотаў хрысціянскіх, дык пратні нас, прынамсі, з прычыны іхнай смерці лязом боязі блізкага Суду Твайго дзеля збаўлення нашага і дзеля ўшанавання вялікага Імя Твайго!

*Пераклад з польскай мовы Юрыя Лаўрыка.*
*Паводле: Karpowicz, M. Na pogrzebie Swiętej Pamięci Antoniego na Łohoysku i Berdyczewie Hrabi Tyszkiewicza Generała Leytenanta w Woysku, Komendanta Jazdy Narodowey, Kawaleryi Brygady Ussarskiey Wielkiego Xięstwa Litewskiego Kazanie X. Michała Karpowicza Dnia 22 Marca 1779. w Mińsku. w Kosciele jmienia Maryi po-jezuickim. Wilno, 1779 (dr-nia Królewska przy Akademij). 44 s.*



[1] Гл.: Ёў 21, 2 і Ёў 21, 23–26. Пераклад лацінскіх фрагментаў з Вульгаты тут і далей Ю. Лаўрыка, бо адзіная на сёння апублікаваная беларускамоўная версія Бібліі (мастацкае перастварэнне аўтарства В. Сёмухі, заснаванае на тэксце Сінадальнага перакладу) найчасцей не перадае таго сэнсу, які кс. Міхал Карповіч укладаў у эпіграф і іншыя цытаты са Святога Пісання. Апрача таго, у Сёмухавым перакладзе адсутнічаюць дэўтэракананічныя кнігі (як, напрыклад, «Мудрасць Сіраха»), на якія таксама спасылаецца аўтар.
[2] «Дні мае прамінулі» (Ёў 17, 11)
[3] «І зноў пасля цемры я чакаю святла» (парафраза да радка: «Калі я чакаў святла, прыйшла цемра», Ёў 30, 26)
[4] «Ты ўзлюбіў справядлівасць» — «Таму ўпадабалі цябе каралеўскія дачкі ў велічы тваёй» (Пс 44, 8 і Пс 44, 10).
[5] «Памёр бацька ягоны, але ... падобнага да сябе пакінуў па сабе» (Сір 30, 4).
[6] «У часе жыцця свайго бачыць яго і цешыцца» (Сір 30, 5).
[7] «Падчас смерці сваёй не засмучаецца» (Сір 30, 5).
[8] «Шматлікія прыклады даў бацька для наследавання» (цытата не выяўленая).



«Мостам паміж Мінскам і Парыжам» назваў сябе Мішэль Рэнеры ў адным з першых інтэрв'ю беларускай рэспубліканскай прэсе. Ён — вопытны дыпламат з дваццацігадовым стажам працы на розных дыпламатычных пляцоўках. Працаваў Першым сакратаром Пасольства Францыі ў Варшаве, Саветнікам дыпламатычнай місіі ў Дакары, Генеральным консулам і дырэктарам Французскага інстытута ў Кракаве... Са снежня 2009 года Мішэль Рэнеры — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Французскай Рэспублікі ў Беларусі. Валодае некалькімі замежнымі мовамі: англійскай, рускай, польскай, іспанскай; захапляецца спортам, любіць падарожнічаць. За кароткі час побыту ў Беларусі спадар Пасол паспеў пабываць у многіх гарадах і мястэчках нашага краю.

Рэдакцыя часопіса «Наша вера» ўдзячная Мішэлю Рэнеры за цікавасць да нашых выданняў і за ініцыятыву гэтай гутаркі, якая яшчэ раз пацвердзіла, што вера таксама можа служыць мостам не толькі паміж асобнымі людзьмі, але і паміж цэлымі народамі.

Асаблівы дзякуй прэс-сакратару Пасольства Францыі спадарані Вераніцы Кавалёвай за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага інтэрв'ю.

# «Я МАЛЮСЯ КОЖНЫ ДЗЕНЬ...»

## Інтэрв'ю з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Французскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэлем Рэнеры

*— Спадар Пасол, прыемна было даведацца з Вашых папярэдніх інтэрв'ю, што Вы веруючы чалавек. Калі і дзе былі закладзены асновы Вашай веры, і якое месца практыка веры займае ў Вашым штодзённым жыцці?*

— Дзякуй за пытанне. Перш за ўсё я хацеў бы падкрэсліць, што цяжка гаварыць пра сваю веру. Я думаю, што гэтак жа, як пра сваю малітву. Вы памятаеце, што напісана ў Евангеллі ад Мацвея: «Калі молішся, не будзь, як крывадушнікі. Бо яны любяць маліцца, стоячы ў сінагогах і на рагах вуліц, каб паказацца перад людзьмі». Цяжка гаварыць пра веру — гэта вельмі інтымная сфера, таму трэба захоўваць сціпласць, адказваючы на такое пытанне. Рэлігійную адукацыю, асновы веры я атрымаў дзякуючы сваім бацькам. Яны накіравалі мяне на ўрокі рэлігіі ў касцёл, дзе я вывучаў катэхізіс, быў падрыхтаваны да сакрамэнту пакаяння і паяднання, прыняў Першую святую Камунію. Потым быў даволі доўгі перапынак. Божы заклік я зноў пачуў праз пятнаццаць гадоў, калі ў мяне нарадзіўся сын. Я заўсёды хацеў, каб ён быў веруючым чалавекам. Але было цяжка сказаць дзіцяці: «Ты павінен ісці на святую Імшу, а я застануся дома». Даводзілася хадзіць у касцёл разам. Так у маім жыцці зноў аднавілася практыка веры. Цяпер я малюся кожны дзень, асабліва падчас заняткаў спортам, якому ўдзяляю шмат увагі.

*— А якім відам спорту Вы займаецеся?*

— Займаюся бегам і вельмі люблю ездзіць на веласіпедзе. Гэта для мяне час своеасаблівага адасаблення, час для малітвы. Я магу размаўляць з Богам у любым месцы: гэта можа быць каталіцкі касцёл або праваслаўная царква, для мяне няма розніцы. У нядзелю я хаджу на святую Імшу ў архікатэдральны касцёл, а раз або два разы на тыдзень, калі дазваляюць службовыя абавязкі, у аўторак ці сераду, стараюся бываць у касцёле на ранішняй Імшы.

*— У сваім выступленні на адкрыцці XVI Міжнародных Кірыла-Мятодыеўскіх чытанняў Вы сказалі, што «рэлігія — гэта будучыня незалежнай Беларусі». Як Вы ацэньваеце ўзровень рэлігійнасці беларускага грамадства?*

— Па-першае, я заўважыў, што семдзесят гадоў атэістычнага рэжыму ды і апошнія

дваццаць гадоў цяжкасцяў з-за недахопу святароў і сакральных будынкаў не знішчылі веру ў вашай краіне і не спалохалі вернікаў. Гэтыя факты сведчаць найперш пра моц веры і з'яўляюцца відавочным знакам прысутнасці тут Бога. Па-другое, кожны дзень у Беларусі я чую, што самым важным для краіны з'яўляецца незалежнасць і нацыянальная самасвядомасць. Я лічу, што рэлігія таксама з'яўляецца важнаю паказальнаю рысаю нацыянальнай самасвядомасці і незалежнасці, гэтак жа як мова (адна альбо некалькі), культура, гісторыя. Але, калі я кажу пра гісторыю, то маю на ўвазе сапраўдную гісторыю, а не ідэалагічную, штучна створаную, сапраўдную гісторыю, неад'емнаю часткаю якой заўсёды былі рэлігія і вера. Асаблівасць веры ў Беларусі ў яе экуменізме. У вашай краіне наогул знаходзяць агульную мову прадстаўнікі розных канфесій, не так, як у некаторых іншых краінах. Калі казаць пра мірнае суіснаванне Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы ў вашай краіне, то я лічу, што ў гэтым вялікая заслуга двух іерархаў — Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча і Мітрапаліта Філарэта. На маю думку, экуменізм — важны элемент нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, без якога немагчыма ўявіць Беларусі; менавіта ў рэлігійнай талерантнасці яе сіла і яе будучыня як магутнай незалежнай краіны ў цэнтры Еўропы. Вось чаму я кажу, што рэлігія — гэта будучыня незалежнай Беларусі.

*— Францыя — традыцыйна каталіцкая краіна і ў той жа час гэта адна з самых свецкіх дзяржаваў у Еўропе. У якім становішчы цяпер знаходзіцца Каталіцкі Касцёл у Францыі, якія перспектывы яго развіцця ў сучасным французскім грамадстве і якая роля свецкіх вернікаў у жыцці Касцёла?*

— Становішча Касцёла ў Францыі вельмі складанае, але не толькі ў Францыі, яно такое ж і ў некаторых нашых суседзяў. У святынях стала, на жаль, менш вернікаў. Аднак плюсам гэтага мінуса з'яўляецца той факт, што сёння ў Францыі ў касцёл людзі ходзяць не па звычцы, не таму, што захоўваюць традыцыі, а таму, што па-сапраўднаму вераць і добра ведаюць, што робяць. Гэта адна з характарыстыкаў сучаснага становішча Касцёла ў маёй краіне. Таксама праўда, што ў нас усё менш і менш святароў. З гэтага вынікае адказ на пытанне пра ролю свецкіх у жыцці Касцёла, асабліва ў справе катэхізацыі. У нас святары не маюць часу на вядзенне катэхезы, на падрыхтоўку нарачоных. Святар толькі ў апошні момант сустракаецца з нарачонымі, каб паблагаславіць іх шлюб... Свецкія таксама дапамагаюць у правядзенні літургіі. Напрыклад, яны чытаюць Евангелле, раздаюць святую Камунію. Калі на Імшы прысутнічае 500 чалавек, то святару вельмі цяжка ўдзяліць усім Камунію, і тады на дапамогу яму прыходзяць свецкія. Удзяляць Камунію могуць нават жанчыны. Папа Рымскі не заўсёды вітае такую практыку. Як вядома, дазвол на гэта даецца толькі ў выключных выпадках, але ў Францыі такія выпадкі здараюцца фактычна кожную нядзелю.

*— Нядаўна ў французскай каталіцкай газеце «La Croix» была змешчана інфармацыя пра тое, што кожны другі з дыяцэзіяльных святароў у Францыі мае больш за 75 гадоў...*

— Так, у нас вельмі шмат пажылых святароў. Сярэдні ўзрост складае недзе каля 66–68 гадоў. Тым часам штогод з'яўляецца толькі 110 новапасвечаных святароў. Гэта вельмі мала — усяго па адным святары на дыяцэзію. Як бачыце, калі свецкія не будуць актыўна заангажаваныя ў жыццё Касцёла, то яно занікне. Бывае і так, што ў нас вернікі сустракаюцца ў касцёлах без святара: хтосьці чытае Евангелле, хтосьці праводзіць супольную малітву; дазволена выкарыстоўваць св. Камунію, кансэкраваную падчас папярэдняй святой Імшы. У вёсках часта проста немагчыма знайсці святара для цэлебрацыі літургіі.

*— Падобная сітуацыя была і ў нас, у Беларусі, падчас атэістычнага рэжыму, калі не хапала святароў. Вернікі самі збіраліся ў ацалелых святынях, клалі на алтары арнат і самі праводзілі нядзельнае або святочнае набажэнства...*

— У гісторыі розных краінаў часта можна знайсці падобныя эпізоды...

*— У католікаў усяго свету вялікай папулярнасцю карыстаецца Люрд, многія беларускія вернікі таксама там пабывалі, вельмі многія мараць туды паехаць. Ці здзяйсняеце Вы пілігрымкі ў святыя месцы?*

— Дваццаць гадоў таму назад я даў сабе абяцанне больш не ездзіць у Люрд, бо ён стаў не цэнтрам паломніцтва, а ператварыўся ў сапраўдны шопінг-цэнтр, дзе ўсё падпарадкавана камерцыйным мэтам. Для мяне гэта было проста непрымальным, і я не бачыў больш сэнсу ў такім пілігрымаванні. Але з часам я стаў мудрэйшым і вырашыў паспрабаваць не акцэнтаваць увагі

на знешнім, камерцыйным баку справы. У мінулым годзе я сказаў маме: «Калі ты хочаш, мы можам паехаць у Люрд разам». Паездка адбылася і атрымалася вельмі духоўнаю. Дзякуй Богу, я змог абстрагавацца ад камерцыйных мінусаў і цалкам засяродзіцца на малітве. Я сустрэў там шмат людзей, якія прыехалі здалёк, каб разам маліцца да Божай Маці. І гэта самае важнае! Вы бачыце, як я змяніў свой погляд: гэта эвалюцыя толькі апошніх гадоў.

Два гады назад я таксама быў у Фаціме. Што самае важнае для мяне ў гэтых месцах? Сведчанне веры пілігрымаў — вось што самае важнае! Калі я знаходжуся ў такіх месцах, як Люрд, Фаціма, я не засяроджваюся на тым, што тут адбылося. Шчыра кажучы, сам я не веру ў цуды. Чаму? Дзякуй Богу, мне не трэба бачыць цудаў, каб верыць. Але я не асуджаю людзей, якія думаюць інакш. Некаторыя едуць у святыя месцы ў пошуках цуду. Магчыма, нехта хворы і шукае аздараўлення, а хтосьці паабяцаў нешта вельмі важнае Богу або за нешта Яму ўдзячны... Для мяне ўсё роўна, як людзі прыйшлі да Бога. Факт, што яны тут, — самы важны. І так адбываецца ў Фаціме, у Люрдзе, Чэнстахове, Меджугор'і, бо гэта іх сустрэча з Богам, відавочны знак іх глыбокай веры.

*— Святая Тэрэза з Лізьё, святы Ян Марыя Віянэй, вядомыя французскія тэолагі, кардыналы Іў Конгар і Жан Мары Люсціжэ — іх імёны вядомыя ўсяму свету. Ці адчуваецца ўплыў гэтых выдатных асобаў на сучаснае французскае грамадства?*

— Для сябе і для сваёй веры я спасцігнуў ролю святой Тэрэзы з Лізьё чатыры-пяць гадоў таму назад. Гэта было сапраўднае адкрыццё. Ведаеце чаму? Яна памерла вельмі маладою, але, нягледзячы на гэта, паспела стаць доктарам Касцёла. Мне здаецца, што сярод многіх святых за ўсю гісторыю Касцёла яна найлепш зразумела пасланне Езуса Хрыста. Менавіта дзякуючы ёй я навучыўся бачыць сэрцам тое, што нельга ўбачыць вачыма. Памятаеце выпадак са статуэткай? Яна ніколі не казала, што статуэтка Маці Божай усміхнулася. Тэрэза казала, што яна бачыла, як Марыя ёй усміхнулася. Гэта зусім не адно і тое ж. Яна змагла адчуць усмешку... Гэта вельмі важны нюанс.

Цяжка сказаць, якія святыя зрабілі такі ж вялікі ўплыў на французскае грамадства, як кардынал Жан Мары Люсціжэ. Ён быў габрэйскага паходжання. Яго маці загінула ў Асвенціме, а сам Люсціжэ юнаком прыняў каталіцтва і вырашыў прысвяціць сябе Богу. Ён больш за чвэрць веку быў арцыбіскупам Парыжа і карыстаўся вялікім аўтарытэтам. Для большасці французаў ён адыгрываў таксама вялікую палітычную ролю. Нават няверуючыя людзі яго вельмі паважалі. Экуменічныя пасланні кардынала Люсціжэ для многіх, таксама і па-за Касцёлам, былі добра зразумелыя. А Вы ведалі Люсціжэ?

*— Я ведаю яго кнігі: «Першыя крокі ў малітве» і «Меса» — пра вялікую каштоўнасць і значэнне святой Імшы, асабліва нядзельнай, у жыцці вернікаў.*

— Я быў знаёмы з ім асабіста. Аднойчы Люсціжэ цэлебраваў літургію ў Кракаве толькі для мяне (я ў той час быў там консулам). З-за складанага і насычанага графіка візіту ў кардынала не было магчымасці ўдзень цэлебраваць нядзельную святую Імшу, і ён папрасіў у святара бэрнардына дазволу цэлебраваць літургію асобна, у зручны час. Мы пасадзейнічалі яму ў гэтым. Кардынал запытаўся ў мяне: «Спадар консул, Вы — католік?» Я адказаў: «Так». «Тады запрашаю Вас да ўдзелу ў Імшы». На наступны дзень раніцаю кардынал павінен быў ляцець у Рым, каб прыняць удзел у канклаве па выбары Папы. Гэта адбывалася вясною 2005 года, калі пайшоў з жыцця Ян Павел II.

*— Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу прыняў пастанову адносна таго, што выява крыжа ў школах — гэта «парушэнне правоў бацькоў у выхаванні іх дзяцей...». Тая пастанова датычыла сітуацыі ў Італіі, але яна выклікала вострую палеміку ў многіх грамадскіх і рэлігійных асяродках ва ўсёй Еўропе. Цікава было б ведаць Вашу думку па гэтым пытанні.*

— Францыя — свецкая краіна, і я выхаваны ў гэтай традыцыі, таму лічу, што неабавязкова, каб рэлігійныя сімвалы былі ва ўсіх публічных месцах, дастаткова мець веру ў сэрцы і імкнуцца да яе ўсёю душою... Мне не цяжка раздзяліць сферу веры і сферу працы. Для мяне відавочна, што я не павінен дэманстраваць сваёй веры падчас прафесійнай дзейнасці. І, наадварот, у касцёле я ніколі не выкарыстоўваю свайго становішча дыпламата. Напрыклад, я ніколі не сядаю на прывілеяваныя месцы ў часе службы, хіба толькі ў выпадку, калі сам святар запросіць мяне.

*— Што для Вас як для хрысціяніна і дыпламата з'яўляецца мяжою кампрамісу ў палітыцы і ў жыцці ўвогуле?*

— Мяркую, гэта пытанне датычыць сумлення. Кожнаму з нас сумленне падказвае, што рабіць і як сябе паводзіць. Напэўна, вы памятаеце, як Ян Павел II заўсёды казаў, што перад прыняццем нейкага важнага рашэння ён моліцца. Для кожнага веруючага чалавека характэрна тое самае. Менавіта такім чынам мы можам убачыць і адчуць мяжу кампрамісу. Вы маеце рацыю — мы штодзённа ідзём на кампрамісы, але колькасць нявырашаных пытанняў, на жаль, не змяншаецца... Напрыклад, праблема абортаў па сённяшні дзень выклікае палеміку паміж рэлігійнымі і грамадскімі дзеячамі. Захаваць жыццё ці зрабіць аборт? Думаю, Вам цікава ведаць мае адносіны да такога важнага пытання.



Мішэль Рэнеры з кардыналам Казімірам Свёнткам, якога ён называе маральным сумленнем Беларусі.

*— Несумненна, спадар Пасол. Праблема абароны жыцця ненароджаных дзяцей вельмі актуальная сёння ў свеце і, нягледзячы на адназначную пазіцыю Касцёла, шырока дыскутуецца на розных узроўнях таксама і ў каталіцкіх краінах...*

— Дык вось я як каталік абсалютна супраць абортаў. Аднак для мяне не такая вялікая праблема, што аборты не забароненыя. Скажу больш: я не лічу, што дадзеная праблема знікне, калі да яе вырашэння падысці заканадаўчым шляхам. Кожны чалавек павінен сам зрабіць свядомы выбар і трымаць за яго адказ перад сабою і перад Богам. Мы не маем права ні асуджаць, ні прымаць рашэння за іншых. Напрыклад, калі раптам мая дачка апынецца перад выбарам: захаваць жыццё будучага дзіцяці або не, то якою павінна быць мая роля пры гэтым як каталіка і яе бацькі? Калі я заяўлю ёй, што я катэгарычна супраць абортаў, то такая мая пазіцыя завядзе яе ў тупік. Я думаю, што мая задача — зрабіць усё магчымае для таго, каб яна пазбегла аборту. Я павінен сказаць дачцы, што дапамагу ёй, і што мы мусім зрабіць усё, каб захаваць жыццё дзіцяці. Вось што падказвае маё сумленне. Але ў рэшце рэшт рашэнне павінна быць за ёю — пасля маіх словаў яна сама зробіць свой выбар. Калі толькі казаць, што Бог забараняе адбіраць жыццё, — гэта сітуацыі не зменіць. Хрысціянская пазіцыя каталіка павінна быць актыўнаю, дзейснаю. На маю думку, найперш усе вернікі павінны спрабаваць дапамагчы тым людзям, якія трапілі ў цяжкае становішча, змагацца з праблемамі.

*— «Свабода, роўнасць, братэрства» — дэвіз Вялікай французскай рэвалюцыі. Наколькі адпавядае гэты дэвіз сучаснай Францыі?*

— Мне здаецца, што дэвіз Французскай рэвалюцыі захаваў сваю актуальнасць, а ў мяне асабіста з ім звязаны пэўны перыяд жыцця — вучоба ў Нацыянальнай школе адміністрацыі. Кожнаму выпуску студэнтаў школы штогод прысвойваецца якая-небудзь назва. Напрыклад, выпуск 1972 года насіў імя Шарля дэ Голя... Прычым назву выбіраюць не выкладчыкі, а самі студэнты, і, як правіла, бяруць для гэтага імёны вядомых асобаў. А калі ў 1989 годзе я заканчваў гэтую ўстанову, то мы ўзялі сабе не імя асобы, а менавіта дэвіз

Французскай рэвалюцыі: «Свабода, роўнасць, братэрства». Праўда, сёння цяжка казаць пра братэрства, цяпер мы гаворым пра салідарнасць. І хіба ж гэта не адпаведны дэвіз для хрысціянаў?! Уявіце сабе, Францыя — свецкая рэспубліка, але яе дэвіз увасабляе хрысціянскія каштоўнасці...

*— Вярхоўны камісарыят ААН па справах бежанцаў у сваім рапарце за 2009 год прыводзіць звесткі пра тое, што ў мінулым годзе ва ўсім свеце 43,3 мільёны людзей былі вымушаныя пакінуць свае родныя мясціны па прычынах розных праследаў, ваенных і этнічных канфліктаў і парушэнняў правоў чалавека. Гэта самая вялікая лічба бежанцаў у свеце за апошняе 20-годдзе, а гэта значыць, што і ў Вашай краіне іх колькасць павялічылася. Дзе, на Вашу думку, знаходзіцца «мяжа талерантнасці», за якою ўзнікае небяспека для культурнай, рэлігійнай і нацыянальнай самабытнасці народа?*

— Вельмі складанае і важнае пытанне. Вядома, я не магу падаць дакладнай статыстыкі, але ў Францыі колькасць бежанцаў і эмігрантаў сапраўды павялічылася за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў. Я не кажу, дрэнна гэта ці добра, я не абмяркоўваю падобнага пытання ўвогуле, бо гэта факт. Гісторыя паказала нам, што калі працэнт некарэннага насельніцтва вельмі значна ўзрастае, то ў краіне ўзнікаюць складанасці. Гэта таксама факт. Як католік, як грамадзянін я лічу абсалютна нармальным, што багатыя краіны дапамагаюць бедным, што Францыя прымае бежанцаў. Але Вы таксама правы ў тым, што ёсць мяжа талерантнасці. Мне здаецца, што яна залежыць ад канкрэтнай сітуацыі. Галоўнае, каб празмерная талерантнасць не стала катастрофаю для нацыянальнага адзінства і культуры, а таксама для эканомікі і стабільнасці ў дзяржаве. У крытычнай сітуацыі любы выратавальнік павінен пры ратаванні пацярпелых думаць таксама пра сябе. Яму трэба карміць сябе, хоць ён бачыць людзей, якія пакутуюць і паміраюць з голаду або холаду. Памятаеце, святы Марцін аддаў толькі палову свайго плашча, бо мусіў штосьці пакінуць для сябе. Вось такое ў мяне крыху вобразнае бачанне сітуацыі.

*— Францыя падарыла свету вельмі шмат выдатных пісьменнікаў, мысляроў, мастакоў, музыкантаў, актораў. Ва ўсе часы Ваша краіна прыцягвала да сябе людзей культуры і мастацтва з розных куткоў свету і ў цяжкі перыяд многім давала прыстанак, замяняючы радзіму. Тут дарэчы будзе згадаць, што французскі паэт Гіём Апалінэр — выхадзец з вядомага беларускага роду Кастравіцкіх (яго дзядуля быў беларускім паўстанцам), а віцябчанін Марк Шагал належыць і беларускаму, і французскаму мастацтву. Хацелася б даведацца, якія перспектывы франка-беларускага супрацоўніцтва ў сферы культуры бачацца Вам сёння?*

— Хацелася б растлумачыць Вам мой падыход да гэтага пытання. Я лічу, што ініцыятыва павінна сыходзіць ад беларускага боку. Многае залежыць менавіта ад вашых дзеячаў, якія працуюць у галіне культуры. Калі вы жадаеце супрацоўнічаць з Францыяй, данясіце да нас свае ідэі, сфармулюйце свае прапановы. Я заўсёды адкрыты да супрацоўніцтва і пастараюся дапамагчы парадаю. Будзьце, калі ласка, больш актыўныя! Гэта маё пажаданне. З пачатку маёй місіі ў Беларусі я зрабіў шмат прапановаў па супрацоўніцтве, але, на жаль, яны не былі падтрыманыя. Я гэтым вельмі засмучаны і нават злуюся, таму што задумкі вельмі цікавыя. На жаль, я заўважыў таксама ў Беларусі (хоць гэта «хвароба» і многіх краінаў Заходняй Еўропы) шмат бюракратыі. Часам даходзіць да абсурду і проста апускаюцца рукі, бо замест таго, каб сумесна працаваць над рэалізацыяй канкрэтнага праекта вельмі шмат часу трацiцца на фармальнасці — на падпісанне дамоваў, на атрыманне дазволаў і гэтак далей.

*— У кожнай краіне адно і тое ж веравызнанне мае свае асаблівасці і свае традыцыі. І калі, зыходзячы з мудрага выказвання былога дэкана Гарвардскай школы тэалогіі Крыстэра Стэндаля, «не параўноўваць таго, што самае лепшае ў сваёй традыцыі, з тым, што самае горшае ў чужой», што б Вы маглі сказаць пра асаблівасці каталіцкіх традыцый у Францыі і ў Беларусі: ці моцна яны адрозніваюцца?*

— Па-першае, у Каталіцкім Касцёле ў Францыі няма культу абразоў. Я думаю, што на беларускіх землях гэта ўплыў праваслаўнай традыцыі. Для мяне такі культ быў нечаканасцю. Хоць упершыню я сутыкнуўся з гэтым, калі працаваў у Польшчы. Абраз Маці Божай у Чэнстахове... Для мяне гэта было чымсьці незвычайным. Па-другое, у Францыі вельмі рэдка напярэдадні Пасхі адбываецца адарацыя крыжа. Французы ўвогуле не прызвычаеныя да канкрэтных жэстаў — цалаваць крыжы, абразы. Спачатку мне нават цяжка было пацалаваць крыж, але цяпер я ўжо прыз-

вычаіўся і сам гэта раблю. Напэўна, я ўжо стаў сапраўдным «беларускім католікам». Я заўважыў яшчэ адну асаблівасць. Мне здаецца, у Францыі хрысціяне навучыліся не ўплываць праз рэлігію на грамадска-палітычнае жыццё ў краіне. У Беларусі, на жаль, мне даводзілася чуць, што нават святары казалі пра вялікую колькасць чарнаскурых у Еўропе, праблемы з мусульманамі, і гаварылася пра гэта не дзе-небудзь, а ў святынях. Ведаеце, мы можам, мы нават павінны, размаўляць пра такія праблемы ў пэўных межах, але ў доме Божым такое недапушчальна... Таму мне хацелася б пажадаць усім веруючым цвёрда засвоіць адну вельмі важную ісціну: усе людзі — дзеці Божыя. Бог так вырашыў, што ў свеце існуюць беласкурыя і чарнаскурыя, хрысціяне і мусульмане, вялікія і малыя, мужчыны і жанчыны, хворыя і здаровыя, старыя і маладыя — такі Божы парадак свету. Калі хтосьці з гэтым нязгодны, то я гэтага нават не абмяркоўваю, тым больш, калі размаўляю з католікам або праваслаўным.

*— А ці адрозніваюцца традыцыі святкавання Пасхі і Божага Нараджэння ў Францыі і ў Беларусі?*

— Як у вас, так і ў нас большасць вернікаў прыходзіць у святыні толькі на вялікія святы, і тады касцёлы аднолькава перапоўненыя. Зрэшты, такая з'ява, мабыць, назіраецца ўсюды ў свеце. Думаю, што і многія будысты, і мусульмане ходзяць у свае святыні толькі па вялікіх святах. Гэта характэрна для чалавечай прыроды ўвогуле. Мы не маем права гэтага асуджаць. Калісьці Хрыстус сказаў пра апошніх і першых... Магчыма, вы і мы ходзім у касцёл тры разы на тыдзень, а хтосьці прыйдзе ўсяго адзін раз у жыцці, і ён будзе першым, а мы — апошнімі. Ды гэта ўжо пытанне іншага парадку...

*— Сапраўды. А вяртаючыся да гаворкі пра традыцыі, думаю, нельга абмінуць таксама традыцый французскай кухні, бо Францыя — калыска не толькі моды, але і гастраноміі. Кажуць, што ёсць дзве вялікія кухні: кітайская і французская. Асаблівасць кітайскай кухні ў тым, каб не даць вам адчуць, што вы ясцё, асаблівасць французскай, наадварот, у тым, каб падкрэсліць непаўторнасць кожнай стравы. А што Вы больш за ўсё любіце і цэніце ў французскай кухні?*

— Цяжка адказаць на гэта пытанне ў рамках нашага інтэрв'ю. *(Смяецца.)* Я люблю ўсё. Сапраўды, кожны дзень я радуюся, калі бачу штосьці на талерцы. Напрыклад, калі мяне запрашаюць у госці беларусы, то яны заўсёды просяць у мяне прабачэння: маўляў, у нас сціплая беларуская кухня, а Вы прызвычаіліся да вытанчанай французскай... Я ж заўсёды ўдзячны за запрашэнне і люблю ўсе стравы, а галоўнае — рады быць побач з добрымі людзьмі.

*— І ўсё ж, напэўна, ёсць у Вас нешта ўлюбёнае з французскіх страваў, чаго Вам асабліва тут не хапае, па чым сумуеце?*

— Я люблю рыбу, вустрыцы і іншыя морапрадукты. Тыдзень назад я вярнуўся з адпачынку, быў у мамы. Яна заўсёды частуе мяне чым-небудзь смачненькім, на гэты раз яна прыгатавала слімакоў — гэта мая любімая святочная страва. А тут, у Беларусі, я паспеў палюбіць дранікі...

*— У гэтым годзе наша галоўная каталіцкая святыня — мінскі архікатэдральны касцёл — адзначае сваё 300-годдзе. Пасольства Францыі знаходзіцца ў будынку, узведзеным на месцы былога езуіцкага калегіума, зусім блізка ад катэдры. Якія Вашы адчуванні ад гэтага суседства?*

— Перш за ўсё, я хачу сказаць, што такое суседства — гэта благаслаўленне для мяне, бо дае мне магчымасць маліцца ў любы час. На жаль, не так часта, як хацелася б. І ўсё ж я маю магчымасць хадзіць на святую Імшу а 8-й раніцы перад працаю. Імша якраз заканчваецца ў 8.30, калі ў нас пачынаецца працоўны дзень. Я лічу, што гэта Божы знак.

Архікатэдральны касцёл — прыгожы будынак, помнік архітэктуры XVIII стагоддзя з багатаю і драматычнаю гісторыяй. Я вельмі люблю гэтую святыню і спадзяюся, што яна дапаможа беларускім католікам развіваць сваю веру і паспрыяе новым пакліканням, бо, як сказана ў Евангеллі, — «Жніво багатае, а працаўнікоў мала». Спадзяюся, што архікатэдральны касцёл стане яшчэ больш моцным цэнтрам духоўнага і рэлігійнага адраджэння і будзе аб'ядноўваць вакол сябе ўсё больш і больш вернікаў... Насупраць архікатэдры знаходзіцца праваслаўны сабор — і гэта таксама здаецца знакавым суседствам у развіцці экуменічнага дыялогу паміж дзвюма галоўнымі хрысціянскімі канфесіямі ў Беларусі.

*— Вялікі дзякуй, спадар Пасол, за цікавую гутарку.*

*Размаўляла Крыстына Лялько.*



Анатоль Крывенка.
Партрэт Язэпа Германовіча
(Вінцук Адважны).

Ірына Багдановіч

# «Зайграю для Божае хвалы...»

## Да 120-годдзя з дня нараджэння Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага)

У сённяшнім беларускім Касцёле падчас святой Імшы часта можна пачуць шчыра-прачулыя словы малітоўнага верша-гімна, які з ахвотаю співаюць вернікі:

*Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць.*
*Тваёю ласкай захавай ад грэху.*
*К Табе ўздыхае маё сэрца, плачыць.*
*Дай у Тваёй сіле мне знайсці пацеху….*

Кожны вернік ведае і любіць гэтую песню, але не кожны, пэўна ж, ведае, што яе словы напісаў паэт Вінцук Адважны, ён жа каталіцкі святар Язэп Германовіч, і што з'яўляюцца яны аўтарскай пераробкай аднаго з малітоўных вершаў нашага паслаўтага асветніка XII ст. Кірылы Тураўскага.

Язэп Германовіч (1890–1978) належыць да той слаўнай кагорты беларускіх ксяндзоў адраджэнцаў, якія актыўна і самаахвярна працавалі на ніве нацыянальнай культуры і духоўнасці ў першай трэці XX ст. Яго найбліжэйшымі сябрамі былі ксяндзы Адам Станкевіч і Кастусь Стэповіч (паэт Казімір Сваяк), айцы марыяне Фабіян Абрантовіч і Андрэй Цікота, аднадумцамі-паплечнікамі былі таксама ксяндзы паэты Янка Семашкевіч (Янка Быліна) і Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля). Язэпу Германовічу, у адрозненне ад сяброў, пераважная большасць якіх заўчасна памерла ад хваробаў або трагічна загінула ў сталінскіх лагерах, удалося прайсці праз усе пакуты і выправаванні, выжыць і пражыць доўгае жыццё, скончыўшы яго ў апошняй чвэрці XX ст. на эміграцыі, у Лондане.

Апрача душпастырскага паклікання, Язэп Германовіч быў адораны немалым літаратурным талентам і стаўся вядомым беларускім пісьменнікам са сваім непаўторным стылем, які выявіўся ў розных жанравых формах. Як сведчаць бібліяграфічныя і мемуарныя крыніцы, ён пачаў свой літаратурны шлях у 1919 г. з публіцыстычнага артыкула, дасланага ў газету «Крыніца», але найбольш вядомым і папулярным як пісьменнік ён стаў у канцы 1920–1930-я гады, калі адзін за другім, пераважна ў Вільні, пачалі выходзіць асобныя выданні яго твораў — паэзія і проза, якія папярэдне звычайна друкаваліся ў той жа «Беларускай крыніцы». Жывую цікавасць на той час у заходнебеларускага чытача выклікалі яго аповесці-гутаркі «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928) і «Казюкова жанімства» (1929), дзе ставіліся пытанні маральнага выхавання моладзі ў духу вернасці хрысціянскім ідэалам любові і дабрачыннасці, супрацьстаяння распуснасці і апушчанасці чалавечых памкненняў. Аўтар без залішняй дыдактыкі на жывых прыкладах з жыцця свайго героя даводзіў праз літаратурны твор тыя ісціны, якія ён прамаўляў і падчас касцёльных казанняў, тлумачачы праўды веры і сутнасць хрысціянскіх прынцыпаў жыцця.

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборніка «Выбраныя творы» Казіміра Сваяка (2010). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

Творы выходзілі пад крыптанімам В.А., а наступныя выданні — вершаваная гутарка «Як Ганулю збіралася ў Аргентыну» (1930) і апавяданне «Адам і Анэлька» (1931) — пад поўным псеўданімам Вінцук Адважны, з якім аўтар фактычна і ўвайшоў у беларускую літаратуру. У наступныя гады былі выдадзены вольная вершаваная апрацоўка вядомай расійскай казкі «Канёк-гарбунёк» (1932), палемічная вершаваная гутарка «Унія на Палессі» (Альбертын, 1932), зборнік вершаў «Беларускія цымбалы» (1933), аповесць «Хлапец» (1935). Адам Станкевіч, як правіла, быў першым крытыкам і даследчыкам творчасці сваіх калегаў — ксяндзоў пісьменнікаў. Хто ж, як не ён, таксама ксёндз пісьменнік, мог як найлепш адчуць і зразумець ідэйна-мастацкую сутнасць іх твораў? Менавіта А.Станкевіч напісаў у якасці прадмовы да кнігі «Беларускія цымбалы» крытычны нарыс «Аб жыцці і творстве В.А. (Вінцука Адважнага)», дзе зрабіў першы найбольш поўны агляд і аналіз яго творчасці. Першая частка нарыса была «аб жыцці», другая — «аб творстве», і ў апошняй паслядоўна разглядаліся ўсе выдадзеныя на той час творы В.Адважнага. Адносна яго месца ў літаратуры і псеўданіма А.Станкевіч пісаў наступнае: «Сярод беларускіх сучасных у Зах.[одняй] Беларусі пісьменнікаў і паэтаў В.А. займае адно з найбольш пачэсных мяйсцоў. З-пад пяра В.А. вышаў дагэтуль значны лік твораў, якія сапраўды маюць літэратурную, а также і грамадзка-народную вартасць. В.А. — гэта ў Беларусаў, здаецца, адзіны літэрат, які сяння йшчэ ня то што ня хоча, але ня можа назвацца ўласным імем і мусіць крыцца пад азначанай у загалоўку мянюшкай. У гэткіх жывём мы грамадзка-палітычных варунках!...»[1].

Далей Адам Станкевіч упершыню ў друку падаваў кароткі жыццяпіс Вінцука Адважнага, падкрэсліваючы яго статус каталіцкага духоўніка і тую мэтанакіраванасць, з якой той ішоў па абранай сцяжыне свайго жыцця, слухаючыся пакліканьня: «В.А. гэта каталіцкі духоўнік. Радзіўся ў 1890 г. у вадным з мястэчкаў Ашмянскага пав. Паходзіць з беднай пролетарскай сям'і, глыбока рэлігійнай і шчыра адданай Каталіцкаму Касцёлу. В.А. гадаваўся ў горы і недастатку. На самай зары дзяцінства памёр яго бацька. Увесь цяжар узгадавання і ўтрымання лёг на матку і старшую сястру, якія, зарабляючы з працы рук сваіх, атулілі старанна апекай будучага духоўніка і паэта і далі яму ў меру сіл сваіх адпаведнае ўзгадаванне і навукі… Першае школьнае знаёмства з навукай было ў народнай расейскай школе, пасля ў школе меставай у Ашмяне. Скончыўшы гэтую школу ў 1909 г., В.А. аб далейшым кірунку свайго жыцця і навукі доўга не думаў…»[2] А далейшай вельмі важнай вяхой яго жыццёвага шляху была вучоба ў Віленскай духоўнай семінарыі, дзе ён сустрэўся і пасябраваў з аднагодкам і таксама будучым святаром паэтам Казімірам Сваяком (Кастусём Стэповічам). З ім жа пазней будуць зводзіць шляхі і ў душпастырскай працы: напрыклад, у 1919 г., вяртаючыся ў Клюшчаны, К.Сваяк наведаў Лапеніцу — месца тагачаснай службы свайго сябра. Тут, як вядома з яго дзённіка «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», адпраўляючы Імшу, ён «прамаўляў па-беларуску».

Пазней, у сталыя эміграцыйныя гады жыцця Язэпа Германовіча, некалькі падрабязных біяграфічных матэрыялаў аб ім надрукаваў у лонданскім часопісе «Божым шляхам» яго вучань і беларускі святар Часлаў Сіповіч. Ён падаваў дакладнае месца нараджэння Язэпа Германовіча — Гальшаны, згадваў аб тым, што пасля сканчэння пачатковай школы хлопца хацелі аддаць вучыцца канкрэтнаму рамяству – «на шаўца», але жаданне далейшай навукі перамагло, і ён, сапраўды, трапляе ў гарадскую школу ў Ашмяне, дзе адбылася вельмі важная падзея: «Тут першы раз у сваім жыцці спатыкаецца з беларускім друкаваным словам — „Дудкай" Багушэвіча, якую дае яму і ягонай сястрэ Людвіні беларускі каталіцкі святар Гуневіч, — піша Ч.Сіповіч. — Гэтая кніжачка адчыніла ім вочы, што яны Беларусы, з гэтай пазыцыі яны не зыйшлі праз усё жыццё»[3]. Заўважым таксама, што творы Францішка Багушэвіча распаўсюджваў менавіта святар — каталіцкі ксёндз, які выдатна разумеў, якое значэнне мае творчасць Мацея Бурачка для беларускага адраджэння і якой высокай хрысціянскай духоўнасцю яна напоўненая. Гэта было разуменнем таго, што творы Ф. Багушэвіча сапраўды нясуць святло Божай Праўды для беларусаў, навучаюць іх шукаць тую Праўду, каб быць людзьмі паводле Боскіх прыказанняў, а не цацкамі ў гульні чалавечых прыхамацяў і амбіцый, дзе мацнейшы топча слабога.

Менавіта з гэтай прычыны Багушэвічава «Дудка» аказала такі магутны жыватворчы ўплыў на ўсю далейшую беларускую літаратуру, на кожнага пісьменніка пачатку XX ст., і ў тым ліку на Вінцука Адважнага, што таксама надзвычай яскрава бачна з яго зборніка вершаў «Беларускія цымбалы». Не абмінуў гэтую акалічнасць і яго першы крытык А.Станкевіч, які звярнуў увагу найперш на «музычную» пераемнасць тытулаў кніг, што было сімвалічным і азначала «прарочае пракананне Фр.Багушэвіча, што прыйдзе час, калі пасля яго пачатку на беларускім Парнасе паявяцца многія і разнародныя паэты, песняры беларускага народу, што будуць граць хоць кожны сваім складам — як музычныя інструменты ў аркестры — але йграць будуць у згодзе з сабой, іграць будуць гармонійны гімн, пабудку і славу беларускаму народу»[4].

Не толькі знешняе падабенства сімвалічных назваў лучыла творчасць Вінцука Адважнага з традыцыяй Багушэвіча, але і сам дух: «Унікнуўшы ў змест „Цымбалаў", можна лёгка спасцераг-




*Выданні твораў Вінцука Адважнага.*

чы, што дух Фр. Багушэвіча, затаены ў „Дудку“ і „Смык“, у пэўнай меры адбіўся ў „Цымбалах“ В.А. Выглядае нават так, што аўтар „Цымбалаў“ стараўся наследаваць свайго слаўнага папярэдніка», — адзначаў А.Станкевіч[5]. Галоўнымі рысамі ідэйна-мастацкага зместу паэтычных твораў Вінцука Адважнага Адам Станкевіч слушна назваў «жывы патрыятызм» і «глыбокі рэлігійны настрой», якімі прасякаюцца ўсе «разважанні аб жыцці беларускім» аўтара. Падабенства да Ф. Багушэвіча, засцерагаў крытык, ні ў чым не змяншае самастойнасці твораў і сведчыць аб арыгінальнасці таленту «цымбаліста», аб развіцці і паглыбленні «чутых матываў». Высокая ацэнка зборніка «Беларускія цымбалы» Вінцука Адважнага, дадзеная Адамам Станкевічам, і на сённяшні час не састарэла, бо сапраўды гэта творчасць, якая вылучаецца «асаблівым адпячаткам суцэльнасці, супакою, жыццёвай мудрасці»[6].

Плённая літаратурная праца Вінцука Адважнага спалучалася з паўсядзённай святарскай службаю, нялёгкай, адказнай, насычанай турботамі, неспрыяльнымі акалічнасцямі і выпрабаваннямі. У 1913 г. малады ксёндз Язэп Германовіч цэлебраваў сваю прыміцыйную Імшу ў Вільні ў касцёле Святога Духа пры ўдзеле сваіх сяброў Кастуся Стэповіча і Адама Станкевіча. Першым месцам яго душпастырскай службы было Далістова (тагачаснага Беластоцкага пав.), пасля Беласток, ізноў Далістова, іншыя мясціны, а ў 1919 г., як ужо згадвалася, ён быў святаром у в. Вялікая Лапеніца, дзе заснаваў таксама беларускую школу, якая, праўда, праіснавала нядоўга з-за неспрыяльных грамадска-палітычных ўмоваў. Абставіны змусілі яго пакінуць Лапеніцу, і з 1920 г. ён на працягу трох гадоў служыць у в. Луконіцы Слуцкага павета. Там падчас улады бальшавікоў ксёндз Германовіч быў арыштаваны, але неўзабаве выпушчаны. Паэтычным водгукам душпастырскай працы ў Луконіцы пазней стане вядомы верш-дыспут В.Адважнага «Спрэчка пад касцёлам», змешчаны ў зборніку «Беларускія цымбалы».

Як і яго сябры ксяндзы адраджэнцы, Язэп Германовіч у сваёй святарскай дзейнасці стараўся заўсёды паслугоўвацца роднай беларускай мовай, прапагандаваў яе сярод сваіх парафіянаў, знаходзячы заўсёды ўдзячны водгук у іх душах або натыкаючыся на супрацьстаянне непрыяцеляў беларушчыны, якіх таксама хапала. Гэта не расхалоджвала і не адпалохвала ксяндза асветніка, хоць і сцяліла яму цярністы шлях выпрабаванняў. Верш-сцэнка «Спрэчка пад касцёлам», створаны ў стылі калісьці вельмі папулярных на Беларусі інтэрмедый, адлюстроўвае гэтую сітуацыю вельмі яскрава. Яго герой — просты беларус Сымон, чалавек глыбокай веры і свядомы патрыёт бацькаўшчыны, які адстойвае свае права размаўляць на роднай мове, выслаўляць на ёй Бога, шанаваць родную мову як дадзеную Богам «апратку душы». Гэты свядомы «просты беларус» ведае таксама і айчынную гісторыю, нагадваючы пра яе хворым на гістарычную амнезію «панам». На рэпліку «пана Яцэнтага»: «*Ды ваша мова найпрасцейша, // А польска дужа шляхатнейша*», — Сымон адказвае:

*Э, што да шляхты — лепш не рухай,*
*А калі хочаш, дык паслухай;*
*Вось вам гісторыя пакажа,*
*Як раз па-моему дакажа:*
*Што наша мова слова ў слова*
*Была шляхоцка і князёва.*
*У даўнейшы часы, браце мілы,*
*У ёй гаварылі Радзівілы,*
*І князь Сапега, і вяльможы,*
*І шляхта ўся, і народ Божы…*[7]

У 1924 г. Язэп Германовіч уступае ў закон айцоў марыянаў і трапляе ў Друю. Тут у садружнасці з а. Андрэем Цікотам і а. Фабіянам Абрантовічам працягваецца яго актыўнае душпастырскае служэнне на беларускім грунце. Як вядома з успамінаў яго вучня а. Часлава Сіповіча, скончыўшы навіцыят, напачатку ён працуе пробашчам у Друі, затым магістрам навіцыяту, а таксама настаўнікам Закону Божага і лацінскай мовы ў Друйскай гімназіі, якой апекаваліся айцы марыяне. Асветна-выхаваўчая праца а. Язэпа сярод навучэнцаў гімназіі таксама заўсёды палягала на тым, каб у Божай запаведзі Любові ніколі не губляўся матыў любові да роднай мовы. Моладзь гарнулася да свайго настаўніка. Асабліва выразна выявіліся такія цёплыя, шчырыя пачуцці да яго падчас развітання, калі ў 1932 г. Язэп Германовіч быў накіраваны як місіянер на Далёкі Усход, у Манчжурыю, куды крыху раней ужо выехаў Фабіян Абрантовіч. Сіповіч піша: «Усе былі ўсхвалёваныя, пачынаючы ад а. Цікоты, Супэрыёру Друйскага Дому, а канчаючы на наймалодшым хлапчуку з інтэрнату. <…> Шчымела сэрца не толькі таму, што пакідае нас дарагі наш чалавек, які не для аднаго з нас стаўся новым бацькам, але й таму, што наша краіна тра-

ціла яшчэ аднаго святара і дзеяча, якога нельга было заступіць»[8].

Месцам прабывання айца Язэпа стаў Харбін — фактычна на той час ужо кітайскі горад, у якім было таксама шмат расійскіх перасяленцаў і даволі працяглы час працавала каталіцкая духоўная місія. Тут яго чакала тая ж справа ўзгадавання моладзі: ён, як адзначаў Сіповіч, «выконваў абавязкі дырэктара гімназіі, спаведніка жаночых манастыроў, выхаваўцы інтэрнату, настаўніка». Апрача асноўнай душпастырскай і выхаваўчай дзейнасці, якая адбірала практычна ўсе сілы, стараўся знаходзіць час для літаратурнай працы, пісаў і адсылаў на радзіму закончаныя творы. Менавіта там была напісана яго славутая аповесць «Хлапец», што стала ў свой час сапраўдным бестселерам у заходнебеларускай літаратуры — пра яе гаварылі, спрачаліся, пісалі ў друку. Аповесць друкавалася часткамі ў «Беларускай крыніцы» з мая 1934 г. па чэрвень наступнага года і ў тым жа 1935 г. выйшла асобным выданнем. У часопісе «Калоссе» ў 1936 г. з'явіўся крытычны артыкул пра гэты твор за подпісам Ад.Саладух. Гэта быў літаратурны псеўданім вядомага сваёй грамадскай актыўнасцю каталіцкага дзеяча, ксяндза беларуса Уладзіслава Талочкі, які лічыўся вельмі прыдзірлівым крытыкам. Аўтар досыць высока, хоць і не без крытычных закідаў, ацэньваў ідэйныя і мастацкія вартасці твора, падкрэсліваў — у піку іншым крытыкам — абсалютную дарэчнасць у ім «нацыянальнага і рэлігійнага элемэнту», асабліва адзначаў псіхалагізм аповесці, дасканальную праўдзівасць у паказе жыцця: «З пункту псыхолёгічнага повесьць вытрымана і, як на першую пробу, здаваляюча. Папяровых людзей аўтар сусім не паказаў. Усе тыпы — гэта жывыя асобы, добра падгледжаныя і адтвораныя, часамі з дакладнасьцяй люстра. Такой, ня іншай была прадваенная беларуская вёска ў нашым краю», — пісаў Ад.Саладух[9]. Сучасныя беларускія даследчыкі таксама вельмі высока ацэньваюць аповесць Вінцука Адважнага «Хлапец», ідэйны змест якой заснаваны на злучаных паміж сабой патрыятычных і хрысціянскіх ідэалах: «Аповесць уяўляе з сябе тэарэтычна абгрунтаваную, паслядоўную, цэласную праграму беларускага адраджэння», — піша Алена Манкевіч[10]. Аповесць «Хлапец» прасякнута рысамі аўтабіяграфізму, у ёй адчуваецца вопыт святарскай дзейнасці аўтара.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захаваўся ліст Язэпа Германовіча да Адама Станкевіча з Харбіна ад 5 сакавіка 1935 г., у якім ён характарызуе свой тагачасны настрой, літаратурныя памкненні і клопаты. Прывядзем фрагмент з гэтага ліста, дасюль наўрад ці друкаванага: «Туга па Бацькаўшчыне прытупілася, бо й наагул прытупіўся дух ад гэтых абавязкаў. Прыходзяць парывы да вершавання; хочыцца часамі пісаць прозай, паслаць якую-колечы корэспондэнцыю ў газэту, але гдзе ж там! Каб ня выезд залеташні ў Цінг-Тао, дык мой „Хлапец“ не радзіўся б на Божы свет. Я магу пісаць толькі ў поўным скупленні духа, што магчыма пры поўным вонкавым супакою. Тады магу працаваць па нескалькі гадзін без адпачынку, а фантазія проста не вычэрпываецца! Вельмі хацелася б скончыць пачатыя паэмы: прысланую з Вільні значна падагнаў („Казюк“), увайшоў у другую часць і затармазіўся! Чаму? Прычына ўжо апісана, можа як-колечы давяду да канца? Як там друкуецца „Хлапец“? Нешта „Крыніца“ да нас не даходзіць, дык і не ведаю, у якім палажэнні „Хлапец“ знаходзіцца. Ці скора скончыце яго друкаваць? Сколькі будзе страніц? Як выпадае крытыка? … Апішы ўсё дакументна; напішы аб сваіх і грамадскіх падзеях…»[11] Далей а. Германовіч прапануе наладзіць выданне беларускіх кніжак у Кітаі, бо там гэта можна зрабіць даволі танна. Як бачна з ліста, на Далёкім Усходзе, нягледзячы на цяжкія абставіны, ён шмат працаваў на літаратурнай ніве, рупіўся аб выданні сваіх твораў, гарэў жаданнем наладзіць выдавецкую справу дзеля дабра бацькаўшчыны і беларускай асветы. На жаль, многае з напісанага тады, засталося неадасланым і, хутчэй за ўсё, як мяркуюць біёграфы, беззваротна згубілася.

У 1936 г. неабходнасць паправіць здароўе прывяла Язэпа Германовіча зноў на радзіму. Падарожжа з Харбіна было доўгім, па сушы і моры: праехаўшы цягніком ледзь не ўвесь Кітай, ён «параплавам» прыбыў праз Сінгапур, Суэцкі канал, Міжземнае мора ў Францыю — у г. Марсэль. Сярод усіх уражанняў галоўным было наведванне Люрду! Пазней ён успамінаў пра гэта: «А мне Бог пазволіў наведаць Люрд перад веснавым сэзонам пільгрымак, які пачынаецца 11 лютага, а я прыбыў у Люрд 1936 г. 5 лютага. <…> І цяпер горача ўспамінаю тую мілую нагоду і дзякую Багародзіцы, што мне ласкава пазволіла адведаць тое святое месца, якое сама выбрала, дзе я запраўды ўсцешыўся і ўзмоцніўся духова і фізычна»[12].

На радзіме Язэп Германовіч працуе ў Вільні кіраўніком беларускага марыянскага Дому студэнтаў, які, як пісаў Ч. Сіповіч, «быў парасткам Друйскага Дому і меў за мэту прыгатаванне будучых святароў». Аднак неўзабаве а. Германовіч ізноў апынуўся ў Кітаі, бо ў канцы 1930-х гадоў паўсюдна ўзмацніліся рэпрэсіі, і Заходняя Беларусь не была выключэннем. Польская адміністрацыя зачыніла беларускі кляштар у Друі і марыянскі дом у Вільні, які «быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэння». Язэп Германовіч разам з навучэнцамі быў выселены ў цэнтральную Польшчу, а адтуль праз Рым зноў адправіўся на службу ў Харбін.

Самы страшны перыяд у жыцці святара наступае з 1948 г., калі кітайскія ўлады арыштавалі яго разам з іншымі святарамі і навучэнцамі і перадалі

савецкім органам бяспекі. Так а. Германовіч быў асуджаны на 25 гадоў прымусовых работ у сталінскіх лагерах Сібіры. Яго тое жыццё, пакуты і выпрабаванні таленавіта апісаны ім ва ўспамінах «Кітай — Сібір — Масква», якія з'яўляюцца ўнікальнай мемуарнай крыніцай праўды аб трагізме тагачаснага жыцця і выжыванні ў бесчалавечных умовах таталітарызму. Успаміны былі выдадзены ў Мюнхене ў 1962 г., яны перакладаліся і выдаваліся на іншых мовах (польскай, літоўскай, італьянскай). У 1955 г. савецкія ўлады высылаюць вызваленага з лагера Язэпа Германовіча ў Польшчу, адкуль ён праз чатыры гады выязджае спачатку ў Рым, а пазней — у Вялікабрытанію.

На эміграцыі Язэп Германовіч не пакідаў сваіх літаратурных і святарскіх заняткаў. Ён шмат пісаў, рэдагаваў хрысціянскі часопіс «Божым шляхам», друкаваў там уласныя публіцыстычныя артыкулы, успаміны пра сяброў сваёй маладосці — ксяндзоў-адраджэнцаў, якія даўно ўжо спачылі ў вечнасці — пра Кастуся Стэповіча (паэта Казіміра Сваяка), Аляксандра Астрамовіча (паэта Андрэя Зязюлю), Зянона Якуця, Андрэя Цікоту, Віктара Шутовіча, Вячаслава Аношку ды іншых. Шмат творчых сіл ён прысвяціў вершаванай апрацоўцы біблейскіх тэкстаў: зрабіў вершаваны пераклад на беларускую мову «Пакутных псальмоў», а таксама пераказаў вершам «Прыповесьці паводле Эвангелля Матэя — Марка — Лукі — Яна». Цікавымі з'яўляюцца яго публікацыі, прысвечаныя важным падзеям тагачаснага рэлігійнага жыцця і разважанні на духоўныя тэмы (напрыклад, «Ватыканскі Сабор», 1965 г.; «Следам за Хрыстом», 1967 г.; «Слова аб пакуце», 1971 г.). Асаблівую ўвагу айца Язэпа Германовіча прывабіла постаць Тамаша Мэртана, які пакінуў у свой час кар'еру свецкага пісьменніка, уступіў у ордэн трапістаў у Злучаных Штатах Амерыкі і стаў вядомым пісьменнікам-тэолагам, творы якога і ў нашым сённяшнім часе карыстаюцца вялікай папулярнасцю ва ўсім свеце («Тамаш Мэртон», 1966 г.).

Таксама ў гэты перыяд (1960–1970-я гады) Я. Германовіч амаль штонумар друкаваў байкі і вершы (пад сваім даўнім псеўданімам Вінцук Адважны і ўтвораным ад яго крыптанімам В.А.), вершы на біблійныя ды іншыя тэмы пад уласным прозвішчам а. Я[зэп]. Гэрмановіч або крыптанімам а. Я.Г. («Рай — першыя людзі», «Вялікдзень», 1971 г.). Да гэтага ж перыяду належыць і праца над перакладам малітоўных тэкстаў Кірылы Тураўскага. Пра тое сведчыць згадка ў кнізе «Святы Кірыла Тураўскі» айца Аляксандра Надсана: «Пазнаёміўшыся з малітвамі Кірылы, ён (Германовіч. — І.Б.) загарэўся думкай перакласці некаторыя з іх вершам на сучасную беларускую мову. Адной з гэтых малітваў была „Дай, добры Божа…“. Вядомы сябра беларусаў і знаўца беларускай царкоўнай музыкі Гай Пікарда падабраў да яе музыку. Цяпер гэтую малітву спяваюць ва ўсіх каталіцкіх святынях на Беларусі, дзе толькі гучыць беларуская мова»[13]. Трэба дадаць, што вершаваныя тэксты «Малітвы Сьв. Кірыла Тураўскага (Пераклаў на навачасную белар[ускую]. мову а. Я.Г.)» з'явіліся ў № 1 (100) часопіса «Божым шляхам» у 1967 г. і гэта былі тры тэксты: «Малітва да Божае Маці», «Малебны канон» у дзевяці песнях і «Малітва да Сьв. Тройцы», якая і ёсць сучаснай малітоўнай песняй «Дай, добры Божа...».

Пра той лад жыцця — можна сказаць, святога святарскага жыцця, — які вёў напрыканцы жыцця Язэп Германовіч, напісаў сведка тых дзён а. Чеслаў Сіповіч ужо пасля смерці свайго настаўніка. Гэта вельмі важнае сведчанне, якое нельга абмінуць увагай: «Апошнімі гадамі свайго жыцця а. Язэп быў вэгэтар'янцам. Умеў сабе прыгатаўляць мяшаніну розных фруктаў і траваў. Кожнага дня рабіў гімнастычныя цвічэнні і прагулкі. Працаваў безупынна і шмат маліўся. Часта яго можна было ўбачыць сярод ночы ў капліцы перад Святымі Дарамі. Маліўся ён за ўсіх і асабліва за гаротную нашу Беларусь»[14].

Маліўся за Беларусь. Пакінуў для нашчадкаў найбагацейшыя жыццёвым досведам успаміны і шматлікія творы паэзіі і прозы. Сённяшнія беларусы каталікі са шчырым узрушэннем спяваюць «Дай, добры Божа…». Праз мастацкае слова вяртаецца да нас постаць святара-адраджэнца, для якога Слова Божай Праўды было святым і пад пяром, і на амбоне. Творы Вінцука Адважнага чакаюць сучаснага найноўшага і найпаўнейшага перавыдання, каб сапраўды вярнуцца і стаць добрымі дарадчыкамі для сучаснага чытача, які іх з удзячнасцю чакае. Сёлетні 120-гадовы юбілей святара пісьменніка з'яўляецца добрай нагодай для такога выдання, а чытачам «Нашай веры» прапануем некалькі найбольш яркіх вершаваных твораў Вінцука Адважнага, дзе праз любоў да бацькаўшчыны і роднай мовы выяўляецца таямніца Божай Любові, якая напаўняла святарскае сэрца паэта-адраджэнца.

---

[1] Станкевіч А. Аб жыцці і творстве В.А. (Вінцука Адважнага) // В.А. Беларускія цымбалы. – Вільня, 1933. – С. 5.
[2] Тамсама. С. 5–6.
[3] Сіповіч Ч. Айцец Язэп Германовіч – жыццё і творчасць // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. / Уклад. Ю.Гарбінскі. – Мінск–Мюнхэн, 1999. – С. 290.
[4] Станкевіч А. Аб жыцці і творстве В.А. ... – С. 16.
[5] Тамсама.
[6] Тамсама. С. 17.
[7] В.А. Беларускія цымбалы. – Вільня, 1933. – С.41.
[8] Сіповіч Ч. Айцец Язэп Германовіч – жыццё і творчасць... – С. 292.
[9] Саладух Ад. Зацемкі аб повесьці Вінцука Адважнага «Хлапец» // Калосьсе, 1936, 2. – С.103.
[10] Манкевіч А. «Бо людзям прыхіліць неба хоча...»: Паэт і святар Вінцук Адважны // Роднае слова, 2010, 3. – С. 9.
[11] БДАМЛіМ. Ф. 3с. – Воп. 1. – Спр. 279. – Арк. 18.
[12] Германовіч Я. Люрд // Божым шляхам, 1975, 3–4 (145–146). – С. 19.
[13] Надсан А. Сьвяты Кірыла Тураўскі // Спадчына, 1996, 2. – С. 284.
[14] Сіповіч Ч. Святой памяці айцец Язэп Германовіч (1890–1978) // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. / Уклад. Ю.Гарбінскі. – Мінск-Мюнхэн, 1999. – С. 295.

# Вінцук АДВАЖНЫ

## МУДРАСЦЬ САЛАМОНА

**I.**

Усё свой час на свеце мае,
Усё пад сонцам прамінае:
Ёсць час радзіцца, час ўміраці;
Садзіць, расціць і час зрываці;
Ламаць і нішчыць, забіваці,
І час, каб раны папраўляці.
Такія Божыя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час псаваць, час будавацца;
Паплакаць, после пасмяяцца.
І час ламаць ад жалю рукі,
І час на скокі і на штукі.
Так кажа цар найбольш вучоны,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час каменні раскідаці,
І час — рассыпаны збіраці.
Ёсць час да мілай прытуліцца,
І час ў разлуцы засмуціцца...
Такі прыродныя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

Час зарабляць і час губляці;
Час сцерагчы і час кідаці;
А што падзёрта, зашываці;
Час гаварыць і час маўчаці...
Так гаварыў той цар натхнёны,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час любіць, час ненавідзець;
Час ваяваць і іншых крыўдзіць;
Але ёсць так жа час мірыцца:
З людзьмі, як трэба, пагадзіцца...
Такі адвечныя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

**II.**

Я відзеў шмат такой работы,
Як людзі поўныя турботы
Таўкліся, спорылі, спяшылі,
Не працавалі, ды... смяшылі.

На ўсё свой час. Бог свет устроіў
І так яго для нас прыкроіў,
Што жыць разумна лёгка дужа,
Бо чалавеку свет тут служа.

А людзі — проста няпрытомны!
На мудрасць Божую няпомны:
Законаў Божых не пазналі —
На свой капыл перапраўлялі.

Адзін замест быць справядлівым,
Хадзіў слядом крывым, фальшывым;
Другі судзіў — круціў страшэнна:
Рабіў людзям, сабе тож дрэнна.

На іхну глупасць прыглядаўся —
Я вельмі, вельмі дзіваваўся.
І думаў часта: «Моцны Божа!
Тож ім нічога не паможа».

Усё свой час на свеце мае;
Як дым ўся хітрасць прападае;
Стаяць адвечныя законы —
Так кажа мудрасць Саламона.

## СПРЭЧКА ПАД КАСЦЁЛАМ
(Урывак)

**I.**

СЫМОН:
— Скуль вы, паночку?

ПАН ЯЦЭНТЫ:
— Я аж з Велькей Околіцы
Дзесенць вёрст од Луконіцы
Я Плавскі з Плавскіх,
Сын Плавскего. А ты скондыць?

СЫМОН:
— Я, паночку,
Жыву недалёчку —
Тут, у Луконіцы.

ЯЦЭНТЫ *(да сябе)*:
— Ага, хлоп! То трудна рада.
*(Да Сымона):*
— Цо ту чуваць? Нех пан гада.

СЫМОН:
— Жывём, пане мой, спакойна,
Працавіта, багабойна.
Касцёл блізка, дык вясёла:
Ходзім часта да касцёла.
А даўней не так бывала —
З гакам трыццаць вёрст — без мала:
Пакуль у Слонім даскрабешся,
Дык начыста падаб'ешся.
Ды не толькі за дарогу —
За ксяндза тож дзякуй Богу!
І даступны і вясёлы,
І ў касцеле, і да школы
Прыбягае, дзетак вучыць —
Аж залішне часам мучыць.

ЯЦЭНТЫ:
— Хоць вы хлопы, ды палякі.
А тэн ксёндз тут ... нейкі, такі.
Цо он гэта... проста мова
Навет хамске ў ёй слова
Зачол мувіць на амбоні.
А няхай нас Пан Буг броні!

СЫМОН:
— Ах, мой міленькі паночку!
Што ж ты валіш як у бочку?!
То ж вы тут не за гарамі:
Мы вас добра знаем самі —
Ні па-руску, ці французку,
Вы ж папросту, беларуску —
Тож гаворыце ўсюды.
*(Да сябе)*:
— Не люблю такой аблуды!

ЯЦЭНТЫ:
— А ты сконд веш, пане?
Хто так муві, кламе!
Мувім тылько в дому
Часам пакрыёму,
До паробка, дзевкі.
Але нашы дзеткі,
Хлопцы маладыя
І мы ўсе старыя
Далікатну мову –
Польскую размову —
Так мы палюбілі,
Што каб нас забілі,
Яе не пакінем!
Хіба перш загінем.

СЫМОН:
— Ніхто вас не забівае;
Кожны гэта добра знае,
Што наш край для нас як маці:
Мы жывём у сваёй хаце.
Беларуска наша мова,
Хоць і просты у ёй словы,
Але родныя і мілы:
Ад калыскі да магілы
Гэтай мовай мы гаворым,
Ці жартуем, пяём, спорым;
На вяселлі, ці ў патрэбе...

ЯЦЭНТЫ:
— Бракавала яшчэ ў небе! <...>

**II.**
СЫМОН:
*(Паківаўшы галавой у старану Яцэнтага, кажа ў старану публікі):*
— Гавары з кабылай пацеры!...
Што тут памогуць аргумэнты,
Калі дурны сам пан Яцэнты!
*(Задумаўшыся, ходзіць па сцэне.)*
— Але ж, мой моцны, добры Божа!
Чаго ж людская злосць не можа?
А мы з святою справай нашай,
Як тыя скваркі — з'есці з кашай
Даёмся, нават і не спорым —
Вось толькі часам пагаворым,
Ці паклянём, ці пабядуем,
Або і так, як бы не чуем...
А кругом нас ўзяліся за рукі
І сталі нам даваць навукі,
І б'юць па носе, колькі ўлезе,
Як той каваль ды па жалезе.
Ўсе проціў нас, а дзе прычына?..
Ты, Беларусь — мая Айчына!
*(На адным калене; правая рука ўгару, да публікі.)*
— Цябе, цябе у сэрцы маю,
Табе я вернасць прысягаю!
Не марны толькі дам я словы,
Але жыццё аддаць гатовы!
Ты — Беларусь, Айчына, Маці,
Прымі прысягу ад дзіцяці!
*(Устае. Адмахівае рукой.)*
— Далоў, далоў усе спакусы!
Мы людзі тож, мы Беларусы.
Не будзем жа усцяж баяцца:
Пара, пара за дзела брацца! <...>

**IV.**
<...> Айчына дарагая!
Ты для нас святая:
І наша мова родна
І справа тож народна.

*Падрыхтавала да друку*
*Ірына Багдановіч.*

*Паводле выданняў:*
*А. В. Унія на Палессі: Вершаваная дыскусія... – Альбертын, 1932.*
*В. А. Беларускія цымбалы. (Зборнік вершаў). – Вільня, 1933.*



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XLII**

*Пра дзівосныя цуды, здзейсненыя Богам дзеля святых братоў: брата Бенцівольля, брата Пятра з Манцічэла і брата Карадо з Афіды; і пра тое, як брат Бенцівольля пранёс аднаго струплівага пятнаццаць міляў за вельмі кароткі час, а другому гаварыў пра святога Мікеле, а да яшчэ аднаго з'явілася Панна Марыя і паклала яму на рукі свайго Сына*

Правінцыя Анконскай Маркі была ў старажытнасці, быццам неба зоркамі, упрыгожаная святымі і прыкладных паводзінаў братамі, якія, накшталт нябесных свяцілаў, асвяцілі і ўпрыгожылі ордэн святога Францішка і ўвесь свет сваімі прыкладамі і вучэннем. Сярод іншых найперш вядомым быў брат Лучыдо Анціка, які ззяў святлом і палымнеў Боскаю ласкаю і чый слаўны язык, кіраваны Духам Святым, збіраў, прапаведваючы, цудоўныя плады.

Другім быў брат Бенцівольля з Сан-Северына, якога брат Масей з Сан-Северына бачыў узнятым у паветра на вялікую адлегласць, калі той маліўся ў лесе. З-за гэтага цуду памянёны брат Масей, які быў тады вясковым пробашчам, пакінуў службу і стаў братам-мінарытам, і быў такой святасці, што зрабіў шмат цудаў у жыцці і ў смерці; і цела яго было пахавана ў Мурра.

Вышэйзгаданы брат Бенцівольля, калі жыў аднойчы самотна ў Траве Бонанці і хадзіў за адным струплівым, атрымаў загад ад прэлата пакінуць тое месца і пайсці ў іншы кляштар, што знаходзіўся за пятнаццаць міляў. Не жадаючы пакідаць струплівага, з вялікім імпэтам літасці ён падняў яго, пасадзіў сабе на плечы і нёс ад вечаровай зоркі да ўзыходу сонца ўсю дарогу даўжынёй у пятнаццаць міляў да таго кляштара, куды яго адправілі і які называўся Монтэ Санвічына. Нават калі б ён быў арлом, то за такі кароткі час не змог бы туды даляцець: і ўсе людзі гэтага паселішча былі ў вялікім здзіўленні і захапленні ад такога цуду.

Другім быў брат Пётр з Манцічэла, якога брат Сервадыё з Урбіна (на той час яго гвардыян у старым кляштары Анконы) бачыў узнятым цялесна над зямлёю на пяць ці шэсць локцяў аж да самага крыжа таго касцёла, каля якога ён маліўся. Гэты брат Пётр, вытрымліваючы аднойчы з вялікай пабожнасцю пост у гонар святога арханёла Міхала, у апошні дзень посту маліўся ў касцёле, і адзін малады брат,

---

*Працяг. Пачатак у  3 за 2007 г.*

які схаваўся пад вялікім алтаром, каб падгледзець якую-небудзь праяву яго святасці, бачыў, як ён размаўляў з арханёлам Міхалам; і словы, якія яны казалі адзін аднаму былі такія. Казаў святы Міхал: «Брат Пётр, ты так верна стараўся дзеля мяне і розным чынам згінаў сваё цела; дык вось, я прыйшоў, каб суцешыць цябе, і таму прасі любую ласку, якую ты хочаш, а я вымалю яе ў Бога». Адказаў брат Пётр: «Найсвяцейшы Князь нябеснага войска і самы верны вартавы Боскага гонару і жаласлівы абаронца душаў людскіх, я прашу такую ласку, каб ты вымаліў для мяне ў Бога дараванне маіх грахоў». Адказаў святы Міхал: «Прасі другую ласку, бо гэтую я для цябе выпрашу вельмі лёгка». Аднак брат Пётр нічога больш не прасіў, таму арханёл сказаў: «Дзеля веры і пабожнасці, якія ты да мяне маеш, я выпрашу табе ласку, якую ты просіш, і многія іншыя». І пасля завяршэння іх доўгай размовы, святы арханёл Міхал паляцеў, пакінуўшы яго надзвычай суцешаным.

Адначасова са святым Пятром жыў брат Карадо з Афіды. І калі яны былі разам у кляштары Фарана ў ахове Анконы, брат Карадо пайшоў аднойчы ў лес, каб сузіраць Бога, і брат Пётр цішком пайшоў услед за ім, каб паглядзець, што з ім здарыцца. І брат Карадо пачаў маліцца і з моцным плачам прасіць пабожна Панну Марыю, каб Яна сабрала гэтую ласку ад свайго благаслаўлёнага Сына і дала яму адчуць хоць крыху той асалоды, якую адчуў брат Сымон у дзень Ахвяравання, калі нёс на руках благаслаўлёнага Езуса Збавіцеля. І пасля гэтай малітвы міласэрная Панна Марыя выканала яе; і вось узнікла Панна нябесная са сваім благаслаўлёным Сынам на руках, у моцным ясным святле, і, падыходзячы да брата Карадо, паклала яму на рукі свайго благаслаўлёнага Сына, якога брат найпабожнейшым чынам прыняў, абдымаючы, цалуючы і прыціскаючы да сябе, сам мякчэў і ператвараўся ў Боскую любоў і невымоўнае суцяшэнне. І брат Пётр, які са свайго сховішча ўсё гэта бачыў, гэтаксама адчуў у душы сваёй вялікую асалоду і суцяшэнне.

Пасля таго, як знікла Панна Марыя з вачэй брата Карадо, брат Пётр хуценька вярнуўся ў кляштар, каб брат Карадо яго не заўважыў; аднак потым, калі брат Карадо вярнуўся вясёлы і радасны, сказаў яму брат Пётр: «О, нябесны, вялікае суцяшэнне ты атрымаў сёння». Адказаў брат Карадо: «Што ты такое гаворыш, брат Пётр, і адкуль ты ведаеш пра тое, што я бачыў?». «Я добра гэта ведаю, добра ведаю, — казаў брат Пётр, — як Панна Марыя са сваім благаслаўлёным Сынам наведала цябе». Тады брат Карадо, што як сапраўды пакорлівы брат жадаў быць прынятым пад ласку Божую, папрасіў яго, каб не гаварыў ні адной жывой душы. І з таго часу пачалася вялікая любоў паміж імі, такая, што здавалася, быццам яны ва ўсім мелі адну душу і цела.

Аднойчы згаданы брат Карадо ў кляштары Сірола вызваліў ад дэмана сваімі малітвамі адну жанчыну, молячыся ўсю ноч і з'яўляючыся яе маці, а нараніцу ўцёк, каб народ яго не знайшоў і не ўшанаваў.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XLIII**

*Як брат Карадо з Афіды дапамог пераўжыць навяртанне аднаму маладому брату, які нерваваў іншых братоў. І пра тое, як гэты малады брат, паміраючы, з'явіўся згаданаму брату Карадо, просячы за яго памаліцца, і як той сваімі малітвамі вызваліў маладога брата ад вялікіх пакутаў чыстца*

Брат Карадо з Афіды, цудоўны абаронца евангельскай беднасці і закону святога Францішка, прытрымліваўся такога пабожнага жыцця і меў такія вялікія заслугі перад Богам, што Хрыстус, благаслаўлёны ў жыцці і ў смерці, уганараваў яго многімі цудамі.

Сярод якіх і такі: калі ён прыйшоў чужаніцай у кляштар Афіды, браты папрасілі яго дзеля любові да Бога і да літасці навучыць аднаго маладога брата з таго ж кляштара, які паводзіў сябе настолькі па-дзіцячы, настолькі бяспутна і юрліва, што і старых, і маладых турбаваў у гэтым кляштары, а пра богаслужэнне і пра выкананне іншых правілаў мала або зусім не клапаціўся. Таму брат Карадо ад спачування гэтаму юнаку і па просьбе братоў паклікаў убок гэтага юнака і ў імпэце міласэрнасці сказаў яму дзейсныя і пабожныя словы павучэння, што дзякуючы Божай ласцы ён адразу з хлапчука ператварыўся ў сталага паводзінамі чалавека, і стаў такім паслухмяным, паслужлівым і пабожным, і такім спакойным і добразычлівым, што наколькі раней ён турбаваў усіх братоў, настолькі пасля ўсе былі задаволеныя, суцешаныя і моцна яго любілі.

Здарылася па волі Божай так, што праз не-

калькі дзён пасля гэтай размовы юнак памёр, з-за чаго браты моцна засмуціліся; і праз некалькі дзён па смерці душа яго з'явілася да брата Карадо, калі той пабожна маліўся перад алтаром кляштара, і павітала яго пабожна, як бацька; і брат Карадо яе спытаў: «Ты хто?». І пачуў у адказ: «Я душа таго маладога брата, што днямі памёр». А брат Карадо: «О любімы сын, што цяпер з табой?». Адказала душа: «Дарагі айцец, дзякуючы ласцы Божай і вашаму вучэнню мне добра, бо я не асуджаны, але за некаторыя мае грахі, за якія ў мяне не было часу ачысціцца, пакутую ад вялікіх пакутаў чысцца, але я прашу цябе, айцец, каб гэтаксама, як па літасці сваёй дапамог мне, пакуль я быў жывы, каб ты дапамог мне ператрываць мае пакуты, молячыся за мяне калі-нікалі «Ойча наш», бо малітва твая вельмі прыемная Богу». Тады брат Карадо добразычліва паставіўся да яго просьбы і памаліўся адзін раз у яго інтэнцыі «Ойча наш» і *requiem aeternam,* і сказала душа: «О, дарагі айцец, якое дабро і якую палёгку я цяпер адчуў. Я прашу цябе, каб ты памаліўся яшчэ раз». І брат Карадо памаліўся, і пасля яго малітвы сказала душа: «Святы айцец, калі ты молішся за мяне, я адчуваю сябе значна лягчэй, а цяпер я цябе прашу, каб ты болей за мяне не маліўся». Тады брат Карадо, пабачыўшы, што гэтай душы так дапамаглі яго малітвы, расказаў яшчэ сто разоў «Ойча наш», і пасля гэтых малітваў сказала душа: «Я дзякую табе, дарагі айцец, ад імя Бога за літасць, якую ты адчуў да мяне, паколькі дзякуючы тваім малітвам я вызвалілася ад усіх пакутаў і зараз іду ў царства нябеснае». Пасля гэтых словаў душа знікла. Тады брат Карадо, каб прынесці радасць і супакой братам, расказаў ім па парадку пра гэту візію.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XLIV**

*Як брату Пятру з Манцічэла з'явіліся Маці Божая, святы Ян Евангеліст і святы Францішак і сказалі яму, хто з іх насіў у сабе большую пакуту з-за цярпенняў Хрыста*

У той час, калі ў Анконскай кустодыі, у кляштары Фарана, жылі разам дзве самыя яркія зоркі ў правінцыі Маркі, дзве нябесныя душы — згаданыя раней браты Карадо і Пётр, была паміж імі такая любоў і такая літасць, што, здавалася, мелі яны адну душу і адно сэрца. І звязалі яны сябе такой дамовай: любое суцяшэнне, якое ласка Божая ім пашле, яны павінны адкрываць адзін аднаму па любові.

Пасля таго, як палагодзіліся яны ў гэтай дамове, здарылася, што, калі аднойчы брат Пётр маліўся і думаў пабожна пра цярпенні Хрыста і пра тое, што благаслаўлёная Маці Божая з яго любімым вучнем Янам і святым Францішкам былі намаляваныя каля Крыжа, і пакутай сваёй душэўнай былі распятыя разам з Хрыстом, узнікла ў брата Пятра жаданне даведацца, хто з іх траіх меў найвялікшы боль з-за цярпенняў Хрыста: ці Маці, якая Яго нарадзіла, ці вучань, што спаў на Яго грудзях, ці святы Францішак, які ўзняўся да пакутаў Хрыста. І калі ён так пабожна разважаў, з'явіліся яму Панна Марыя са святым Янам Евангелістам і святым Францішкам, апранутыя ў высакародную вопратку благаслаўлёнай славы; але святы Францішак меў вопратку прыгажэйшую, чым у святога Яна.

І пакуль брат Пётр стаяў спалоханы гэтай візіяй, святы Ян супакоіў яго словамі: «Не бойся, дарагі брат, бо мы прыйшлі, каб суцешыць цябе і вызваліць ад сумненняў. Дык ведай, што Маці Хрыста і я больш за любое іншае стварэнне пакутавалі з-за цярпенняў Хрыста; а пасля нас святы Францішак меў боль наймацнейшы за ўсіх іншых; і таму ты бачыш яго ў такой славе». І брат Пётр спытаў у яго: «Святы Апостал Хрыста, але чаму вопратка святога Францішка здаецца прыгажэйшай за тваю?» Адказаў святы Ян: «Прычына такая: калі ён быў у свеце, то насіў горшую за маю вопратку».

І пасля гэтых словаў святы Ян даў брату Пятру слаўную вопратку, якую трымаў у руках, і сказаў яму: «Вазьмі вопратку, што я табе прынёс». І пакуль святы Ян апранаў на яго гэтую вопратку, здзіўлены брат Пётр упаў на зямлю і пачаў крычаць: «Брат Карадо, дарагі брат Карадо, бяжы хутчэй, ідзі, паглядзі на цудоўныя рэчы!» І на гэтых словах святая візія знікла. Потым, калі прыйшоў брат Карадо, брат Пётр расказаў яму ўсё па парадку, і абодва яны падзякавалі Богу. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

## АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

### Разьдзел XLVII

*Усё хоць бы найтруднейшае трэба цярпець дзеля вечнага жыцьця*

**1.** Сыне, ня дайся зламаць сябе трудамі, якія пачаў ты дзеля Мяне, і не ўпадай пад цяжарам турботаў, але ў кожным здарэньні няхай цябе пакрапляе і пацяшае прырачэньне Маё.

Маю Я з чаго даць табе нагароду, вялікшую за ўсё.

Нядоўга працаваць тут будзеш, і не заўсёды будуць мучыць цябе цярпеньні.

Пажджы крышку і ўбачыш, як хутка зьявіцца канец усіх бедаў.

Прыдзе хвіліна, калі спыніцца ўсялякае змаганьне і турботы.

Усё тое маленькае і кароценькае, што мінае з часам.

**2.** Рабі, што робіш: шчыра працуй у вінніцы Маёй, а Я буду нагародаю тваёю.

Пішы, чытай, сьпявай, енч, маўчы, маліся, мужна змагайся з супраціўнасьцямі: жыцьцё вечнае варта ўсіх гэтых дый вялікшых змаганьняў.

Прыдзе супакой у тую хвіліну, якая Пану ведамая, і тады ўжо ня будзе ані дня, ані ночы, а будзе сьвятло заўсёднае, ясната бязмежная, бясьпечны супакой і адпачынак.

Ня будзеш казаць тады: *хто мяне высвабадзіць ад цела гэтае сьмерці* (Рым 7, 24)? Ды ня будзеш галасіць: *гора мне, што прабываньне маё гэтак зацягваецца* (Пс 119, 5), бо сьмерць будзе пераможана і прыдзе вечнае жыцьцё, прападуць тады ўсялякія клопаты, і будзе радасьць бласлаўлёная сярод хвалы ды шчасьця.

**3.** О, калі б ты ўбачыў кароны вечныя сьвятых у небе і ўбачыў, якой хвалай зіхацяць тыя, якімі сьвет пагарджаў ды аб якіх думаў, што яны і жыцьця нявартыя, — дык чым хутчэй, спакарыўшыся, упаў бы на зямлю і жадаў бы лепш усім быць падлеглым, чымся верхаводзіць хоць бы нават над адным.

Не хацеў бы ты дзён шчасьлівых на гэтым сьвеце, але весяліўся б з таго, што церпіш дзеля Бога, і за вялікі скарб уважаў бы пагарду ад людзей.

**4.** О, калі б сьцяміў ты гэныя праўды, ды калі б яны запалі ў самую глыбіню сэрца, як жа тады пасьмеў бы ты хоць адзін раз наракаць на штосьці?

Ці ж дзеля вечнага жыцьця не належыць сьцярпець усенькія турботы?

Гэта ж не малая справа: страціць ці здабыць Валадарства Божае.

Дык падымі воблік свой у неба. Вось тутака Я з усімі маімі сьвятымі, якія цярпелі вялікую барацьбу на гэтым сьвеце, а цяперака цешацца і весяляцца, цяперака бясьпечныя, цяперака адпачываюць і вечна будуць жыць са Мною ў Валадарстве Айца Майго.

### Разьдзел XLVIII

*Аб дню вечнасьці і аб турботах жыцьця дачаснага*

**1.** О бласлаўлёнае жыцьцё нябеснае Сталіцы! О найяснейшы дзянёк вечнасьці, якога ноч не засутуняе і Праўда вечная заўсёды асьвятляе; дзянёк заўсёды радасны, заўсёды бясьпечны ды які ніколі не пераменіцца на нешта іншае!

О, каб жа дзень гэны пачаўся ўжо для мяне, а ўсенькая дачаснасьць ужо кончылася!

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2009 гг. і ў 1–2 за 2010 г.*

Зіхаціць ён сьвятым у прыгожай, вечнай яснаце, але нам, аднак, якія вандруем яшчэ па зямлі, сьвеціць ён толькі здалёк ды быццам праз люстэрка.

**2.** Жыхары неба весяляцца радасьцяй дня вечнага; згннанікі, сыны Эвы, енчаць сярод суму і горычы дня дачаснага.

Дні вандроўкі нашае кароткія і злыя, поўна ў іх болю і турботаў.

Тутака чалавек пляміцца рознымі грахамі, зьвязваецца рознымі дрэннымі нахіламі, шмат чаго ён тут палохаецца ды забіваецца клопатамі, і многія цікавасьці расьцярушваюць яго, марната яго заблытвае, усялякі фальш акружае яго, цяжыцца ён рознаю працаю, пакусы яго прывабліваюць, роскаш аслабляе, недастатак мучыць.

**3.** О, калі ж будзе канчатак гэных бедаў? Калі ж я буду свабодны ад мізэрнай няволі грахоў сваіх? Калі ж я буду памятаваць толькі аб Табе, о Пане? Калі зусім ўзьвесялюся ў Табе?

Калі ж я асягну праўдзівую вольнасьць, бяз ніякай перашкоды, без усяго таго, што абцяжвае душу і цела?

Калі ж прыдзе супакой заўсёдны, супакой без ніякіх пераменаў, супакой бясьпечны, супакой унутры і ўвонку, супакой трывалкі з кожнага боку?

Езу міласэрны, калі ж гэта апынуся я перад Табою ды ўбачу Цябе? Калі ж буду захапляцца славаю Валадарства Твайго? Калі будзеш Ты для мяне ўсім ува ўсім?

О, калі ж ужо буду я з Табой у Валадарстве Тваім, якое спрадвеку прыгатовіў Ты ўлюбёным сваім?

Пакінены я ўбогім і згннанікам на зямлі варожай, дзе вайна штодзень і найвялікшае няшчасьце.

**4.** Пацеш Ты згнанніцтва маё, паменшы боль мой, бо аб Табе лятучу я толькі.

Бо цяжкія мне ўсе пацехі гэтага сьвету.

Прагну я насіць Цябе ў сэрцы маім, ды ня здолею абняць Цябе.

Хацеў бы я прытуліцца да ўсяго нябеснага, аднак жануць мяне адтуль рэчы дачасныя і жадасьці няўсьмерчаныя.

Духам я ахвотна высака паляцеў бы, пакідаючы за сабою ўсё чыста, але няволіць мяне цела служыці яму.

Так вось я няшчасны чалавек змагаюся з сабою, і стаўся сам сабе я цяжарам вялікім, бо калі дух увышкі ляціць, цела глядзіць толькі зямлі.

**5.** О, сколькі ж я цярплю, калі духам разважаю нябеснае ды калі раптоўна сярод малітвы кідаецца на мяне навала спраў цялесных! Божа мой, *не аддаліся ад мяне і не адыходзь у гневе ад слугі свайго* (Пс 26, 9).

Блісьні маланкаю сваёю і расьцярушыш іх, стрэлы свае кінь на іх, і спалохаюцца ўсе зданьні варожыя.

Зьвярні ўсе пачуцьці мае да сябе, каб я забыўся аб усім зямным; дай, каб ня ждучы, а зразу праганяў я ад сябе думкі спакусныя.

Памажы мне, Вечная Праўда, каб ніякая марната мяне не зварухнула.

Прыдзі, Нябесная Салодкасьць, каб прапала перад воблікам Тваім усё благоцьцё.

Выбачай і даруй мне ў міласэрнасьці сваёй, калі ў малітвах уцякае ад Цябе думка мая.

Бо, прызнаюся шчыра, часта надта бываю расьцярушаны.

Часта ня бываю там, дзе сяджу або стаю, але там сапраўды бываю, куды заносяць мяне думкі мае.

Там я, дзе думкі мае, там часта думкі мае, дзе тое, што я люблю.

Найчасьцей з'яўляецца тое перада мною, што ад прыроды ўжо мне да ўспадобы, або ўзноў тое, да чаго прывык я.

**6.** Таму Ты, Вечная Праўда, выразна сказаў: *дзе скарб твой — там і сэрца твае* (Мц 6, 4).

Калі люблю я неба, ахвотна думаю аб нябесным.

Калі сьвет я люблю — вясельлем для мяне тады ягоныя радасьці, а сумам ягоныя беды.

Калі цела люблю — часта яно тады ў думках маіх.

Калі люблю духа — ахвотна разважаю аб духовасьці.

Бо што толькі я люблю — аб тым заўсёды ахвотна гавару і слухаю, і выабражэньні аб тым у думках з сабою дамоў заношу.

Але бласлаўлёны той чалавек, які дзеля Цябе, о Пане, развітаўся з усянюткімі стварэньнямі, які змагаецца з натураю сваёю, а жаданьні цела перамагае палкасьцю духа, каб пагоднае ягонае сумленьне нясло Табе шчырую малітву і каб унутры і ўвонку ачысьціўшыся ад усяго, што дачаснае, быў годны прылучыцца да хору анёлаў.

### Разьдзел XLIX
*Аб імкненьні да вечнага жыцьця*
*і аб вялікім дабры, якое абяцана тым,*
*што мужна змагаюцца*

**1.** Сыне, калі пачуеш, што зьліваецца на цябе пажаданьне вечнае шчасьлівасьці, і калі лятуціш, каб вырвацца з путаў цела свайго, каб мець магчымасьць захапляцца нічым не зацемненаю яснатою Маёю, расчыні сэрца свае ды аддай яго гэнаму сьвятому натхненьню.

Насколькі здоляеш — дзякуй найвышэйшай Дабраце, якая гэтак годна з табою паступае, гэтак ласкава адведывае, горача гэтак заахвочвае, так ма-

гутна падымае, каб сваім цяжарам ня ўпаў узноў ты на зямлю.

Бо натхненьне — гэта ня плод думкі тваe ці працы, але справа дабраты найвышэйшае і Божае ласкі; а гэта на тое, каб ты павялічваўся ў цнотах і ў большай пакорнасьці, каб пагатаваўся да будучых змаганьняў, каб усім сэрцам імкнуўся прыгарнуцца да Мяне і з усенькае магчымасьці служыці Мне.

**2.** Сыне, часта агонь гарыць, аднак бяз дыму полымя ніколі не падымаецца.

Гэтак многія імкнуцца горача да неба, але ня ёсьць яны свабоднымі ад спакусаў пачуцьцёвых.

І таму ня зусім выключна дзеля Бога працуюць, калі чагосьці так горача ад Яго просяць.

Такім ёсьць часта і тваё імкненьне, якое відаць з нецярплівасьці просьбы тваёй.

Ня будзе дасканалым і чыстым, што паплямлена асабістым зацікаўленьнем.

**3.** Прасі не таго, што табе мілае і дагоднае, а таго, што згодна з Маёю воляю ды хвалаю, бо калі разьмяркуеш як трэба, дык свае намеры і ўсё тое, чаго табе хочацца, Маім загадам падпарадкуеш і паводле іх жыць будзеш.

Я ведаю твае імкненьні і чую частыя твае стогны.

Ужо ты хацеў бы карыстацца свабодаю славы сыноў Божых, ужо лятуціш аб доме вечным ды Нябеснай Бацькаўшчыне поўнай радасьці, аднак ня прышла яшчэ тая хвіліна, яшчэ пакуль што іншы час для цябе, час змаганьня, час працы і пробы.

Ужо ты хацеў бы напоўніцца найвялікшым дабром, аднак ня здолееш яшчэ яго дастаць.

Вось Я ёсьць, жджы Мяне, кажа Пан, пакуль прыдзе Валадарства Божае.

**4.** Трэба, каб ты яшчэ быў выпрабаваны на зямлі і шмат у чым дазнаны.

Калі-некалі дасца табе супацеха, поўнага, аднак, здаваленьня не спазнаеш.

Дык змацняйся і будзь дужым ці ў дзеяньні, ці ў тым, што церпіш.

Трэба табе пераінакшыцца ў новага чалавека ды стацца цалкам іншым мужам.

Трэба табе часта рабіць, чаго ня хочацца, а тое, што хочацца, трэба пакінуць.

Гутаркі іншых людзі будуць слухаць, на тваю ж гутарку ня звернуць увагі.

Іншым усё памысна пойдзе, а табе паводле тваёй мысьлі зусім не павядзецца.

Іншыя будуць прасіць і дастануць, ты будзеш прасіць і нічога не дастанеш.

**5.** Іншыя будуць вялікімі ў гутарцы людзей, аб табе ж будуць маўчаць.

Іншым будуць даручаць тое ці іншае, а ты будзеш ні на што нягодным.

Дзеля гэтага будзеш падчас сумаваць, аднак шмат дакажаш, калі моўчкі стрываеш.

Гэткім чынам ды шмат яшчэ чым іншым будуць прабаваць вернага слугу Пана, наколькі ён патрапіць зрачыся ды перамагчы сябе ўва ўсім.

Наўрад ці ёсьць такія здарэньні, калі трэба табе так памерці дзеля самога сябе, як калі прыходзіцца бачыць і цярпець праціўнае волі тваёй, а найбольш, калі загадываюць табе нешта, што паводле тваёй думкі ёсьць нестасоўным і мала карысным.

А дзеля таго, што падпарадкаваны ты волі вышэйшай, яе загадам пярэчыць не сьмееш, аднак надта цяжка табе здаецца йсьці пад прымусам іншага ды пакінуць зусім свае ўласныя намеры.

**6.** Падумай, сыне, на плод гэных трудоў, на іх хуткі канец ды на гэткую вялікую нагароду, а тады ня будзе табе нічога цяжкага і цярплівасьць твая знойдзе вялікую пацеху.

Бо замест гэтай марнай волі, якой зракаешся тут самахоць, вечную волю ў небе мець будзеш.

Там знойдзеш усё, чаго захочаш, усё, чаго толькі надумаў бы жадаць.

Там будзеш мець шмат усялякага дабра, бяз сполаху ўтраты яго.

Там воля твая будзе згодная з Маёю, нічога апрычнага пажадаць яна ня будзе.

Там ніхто ня будзе пярэчыць табе, ніхто ня будзе на цябе наракаць ці перапыняць, ці станавіцца на дарозе, а ўсё, чаго толькі здолееш захацець, будзе перад табою, напоўніць і здаволіць сэрца тваё пад дастаткам.

Там Я славу табе зьвярну за ўсе зьдзекі, якія ператрываў ты, радасьць за сум, сталіцу вечнага валадарства дам табе за апошняе месца на зямлі.

Там выявяцца плады паслухмянасьці, праца пакуты пераменіцца на радасьць, а пакорная ўлегласьць будзе ўкаранавана славаю.

**7.** І таму цяперака схіляйся пакорна пад кожнаю рукою, не глядзі на тое, хто казаў табе ці загадаў.

Дужа старайся, каб ахвотна прымаць за добрае і шчыра спаўняць усё тое, чаго зажадаў ад цябе старшы або малодшы, або і раўня табе.

Няхай шукае гэты таго, а гэны іншага, няхай пахваляецца адзін гэтым, а другі іншым, няхай іх хваляць тысячы тысячамі, а ты не весяліся ані гэтым, ані іншым, але радасьці шукай у пагардзе самога сябе ды ў тым толькі, што паводле волі Маёй і Мне на славу.

Аднаго толькі трэба табе хацець, каб *ці праз жыцьцё, ці праз сьмерць Бог заўсёды бачыў у табе хвалу сваю* (Флп 1, 20).

*Працяг будзе.*



Новыя званы для ракаўскага касцёла.

# НА ВАРЦЕ ВЕРЫ

## Асоба ксяндза Станіслава Жука, непахіснага святара часоў пераследу рэлігіі ў Беларусі

*У 80-ю гадавіну святарскага пасвячэння і 25-ю гадавіну з дня смерці*

### Святарская паслуга ў перадваенныя гады і ў час вайны

*«Дабрыня і міласэрнасць Твая будуць са мною ва ўсе дні жыцця майго»* (Пс 22, 6)

Пасля святарскага пасвячэння ксёндз Станіслаў Жук распачаў душпастырскую працу на тэрыторыі Віленскай архідыяцэзіі, па чарзе працаваў у парафіях Беласток (фарны касцёл), Гродна, Кузніца Беластоцкая, Ашмяны, Ракаў, Будслаў (1938–1946). У лістах за гэты перыяд было няшмат успамінаў, толькі кароткая інфармацыя адносна раней дасланых здымкаў. У Гродне кс. Жук займаўся душпастырствам дзіцячага дома.

У Ракаве кс. Станіслаў пабудаваў філіяльны касцёл. Ён так пісаў пра гэта будаўніцтва: *«Гэты філіяльны касцёл з'яўляецца маёю задумаю (па Божым натхненні) і маёй пабудоваю. Будаваў менавіта Пан праз свайго слугу, бо я распачынаў у чэрвені 1936 г., не маючы ні капейкі, а ў канцы кастрычніка ў ім ужо адбылося першае набажэнства, у касе засталіся грошы на заканчэнне працаў у 1937 годзе. Цудоўны Пан у сваіх справах!»* (Ліст ад 20.12.1964 г.)

Кс. Станіслава Жука — свайго пробашча з Будслава — узгадваюць былыя парафіянкі. Яны развіталіся з ім, калі ім было 12–14 гадоў, калі пасля вайны выязджалі з сем'ямі ў Польшчу. Цяжка пералічыць усіх людзей, што, нягледзячы на адлегласць, ліставаліся з ксяндзом, якога ведалі з дзяцінства. Люцыя Касач, Мацільда Ліброўская, Ганна Пеціў (выехала з Беларусі ў 1957 г.) успамінаюць ксяндза як вельмі патрабавальнага на ўроках па рэлігіі і вельмі вясёлага, калі са сваёю любімаю мандалінаю бавіў з імі вольны час, ладзячы добрыя забавы. Яны згадваюць пра сімпатыю, якую ён выклікаў у іх, калі прыходзіў на рэчку Сэрвеч і граў на мандаліне папулярную «Кацюшу».

Пра многія падзеі ваеннага перыяду апавядала Ганна Пеціў. Першыя трагічныя перажыванні былі звязаныя з уваходам савецкіх войскаў. У 1940 г. распачаўся масавы вываз насельніцтва ў мясцовасць Тагроў у Сібіры. У першую чаргу гэта закранула інтэлігенцыю — настаўнікаў і служачых з Будслава. Ксёндз Станіслаў Жук быў заўсёды гатовы дапамагаць кожнаму, не забываўся пра сваіх парафіянаў. Ён высылаў ім пасылкі, хоць вельмі часта сам пакутаваў ад нястачы. Некаторыя «сібіракі» да сённяшняга дня захоўваюць лісты ад свайго пробашча як дарагую памяць пра яго ду-

*Працяг. Пачатак у 2.*

хоўную і матэрыяльную падтрымку.

Такую чуйнасць да чалавечага гора кс. Станіслаў праяўляў таксама падчас нямецкай акупацыі. Напрыклад, даў сховішча габрэйцы. Спачатку ён хаваў яе на касцёльнай вежы, потым знайшоў для яе бяспечнае месца, але з-за неасцярожнасці яе затрымала паліцыя і высветліла, што хаваў яе ксёндз. Ксяндза папярэдзілі аб прыездзе гестапа, і, дзякуючы дапамозе паліцаяў, яму ўдалося пазбегнуць небяспекі. <...> Дапамог кс. Станіслаў і рускаму салдату, які не паспеў уцячы да ўваходу нямецкіх войскаў.

Варта таксама згадаць аднаго з падапечных кс. Жука, якога ён таксама хаваў на плябаніі падчас акупацыі. Гэта быў айцец Юзаф Марсінгер, езуіт з Вільні, які чакаў заканчэння вайны і марыў пра вяртанне ў родны Кракаў. Аднак пасля заканчэння вайны айцец не выкарыстаў магчымасці, каб вярнуцца на радзіму. Шмат гадоў айцец працаваў у Красным, а потым да канца жыцця — у ваколіцы Вільні.

Кс. Станіслаў апавядаў таксама пра адно трагічнае здарэнне ў яго жыцці, калі ў часе нямецкай акупацыі, уночы, да яго прыйшлі два мужчыны, каб завезці яго да хворага. Яны накінулі яму мяшок на галаву і доўга везлі на санях праз лес. Затрымаліся перад зямлянкаю, дзе ляжаў паранены партызан, які хацеў паяднацца з Богам. Затым адвезлі яго на край лесу і адпусцілі. Ксёндз казаў, што сітуацыя была небяспечная, ён падрыхтаваўся да самага горшага і аддаў сваю душу ў апеку Богу. «Пан Бог у сваёй міласэрнасці дбаў пра мяне», — так заўсёды ксёндз Станіслаў заканчваў аповед пра тыя падзеі.

Калі адыходзілі нямецкія войскі, дзякуючы Божаму Провіду небяспекі ўдалося пазбегнуць таксама ўсёй парафіі. Аддзелы гестапа падпальвалі дамы і касцёлы, якія знаходзіліся на іх шляху. Перш чым немцы наблізіліся да Будслава, ксёндз з Найсвяцейшым Сакрамэнтам і ўсе вернікі пайшлі ў лес і там маліліся ўсю ноч. Парафіяне ўспамінаюць гэта як цудоўнае выратаванне, бо нямецкія войскі абмінулі Будслаў.

Закончылася вайна, надышоў час прымаць нялёгкія рашэнні, час рэпатрыяцыі многіх парафіянаў і ўсёй сям'і ксяндза. Нават сваю сястру, якая вяла яго гаспадарку, кс. Жук намовіў да выезду, бо разумеў, што заставацца небяспечна. Ён прадбачыў, што святароў будуць пераследаваць. З гэтай прычыны Віленскі біскуп даў святарам свабоду выбару, аднак прасіў, каб па магчымасці яны заставаліся ў сваіх парафіях. Так кс. Станіслаў растлумачыў сям'і сваё рашэнне застацца ў парафіі ў Беларусі.



Кс. Станіслаў Жук. 1936 г.

## Місійнае заданне ў новых умовах

«Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле» (Мк 16, 15).

*«Калісьці я марыў пра выезд на місію, але нічога з гэтага не выйшла. Вось Пан у сваёй дабрыні дазволіў мне тут зведаць крыху такога жыцця»* (Ліст ад 07.10.1963 г.).

Гэта ў сваёй парафіі ў Касцяневічах кс. Станіслаў адчуваў сябе, як на місіях. У адным з лістоў вельмі дакладна расказаў пра першы — самы складаны і разам з тым вельмі прыемны — перыяд свайго прабывання тут. У 1946 г. ён стаў дэканам Вілейскага дэканата. Пра свае новыя заданні пісаў: *«Трэба было навесці парадак у дэканаце, бо немцы сур'ёзна зменшылі рады святароў. Трэба было прызначыць каго-небудзь у ваколіцы Вілейкі, бо там не было ніводнага святара. Цэнтрам асірацелых парафій былі Касцяневічы, на жаль, спаленыя. Ад касцёла ацалелі толькі сцены, ад плябаніі не засталося нават попелу. Я нікога не мог прызначыць пробашчам у такое „шыкоўнае“ месца. Мне лёгка ўдалося знайсці кандыдата на маё месца ў Будслаў, а сабе ўзяў Касцяневічы. Маё вышэйшае кіраўніцтва адразу гэтаму супраціўлялася, толькі пасля таго, як я тройчы прадставіў справу, — зацвердзіла. Відаць, такою была Божая воля. Я пазбавіўся ад многіх рэчаў і, маючы толькі самае неабходнае, прыехаў на гэтае папялішча. Знайшоў для сябе пакінутую вясковую хату без вокнаў і*

*дзвярэй і з дзіраваю страхою. Я пасяліўся з Богам пад адным дахам. На маім століку быў алтар і табэрнакулюм Пана, а ў куце за печчу — мой ложак. Прасіў дазволу на гэта, бо адчуваў, што калі пастаянна не будзе побач Найсвяцейшага Сакрамэнту, не будзе адкуль чэрпаць сілы. Так жылі мы разам два месяцы, пакуль не зрабілі для Пана капліцу ў сакрыстыі. Раніцаю я спавядаў, цэлебраваў св. Імшу, а пасля снедання ішоў на рыштаванні кіраваць працаю па адбудове касцёла. Апоўдні мы разам з працаўнікамі чыталі «Анёл Панскі», маліліся перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, потым яны ішлі абедаць, а я маліўся па Брэявіярыі. Пасля абеду зноў была праца, вечарам — малітвы, і людзі разыходзіліся, а я заставаўся з Панам. Па нядзелях у мурах касцёла наладжвалі набажэнства. У першую нядзелю пасля Унебаўшэсця пачаўся лівень, але ніхто не крануўся з месца. Калі навялі парадак, уставілі дзверы і вокны, у сакрыстыі зрабілі капліцу. 1 кастрычніка — штогадовы адпуст Маці Божай Ружанцовай — адбылося пасвячэнне адбудаванай часткі касцёла. Далейшая адбудова працягвалася тры гады. У 1948 г. закончылі атынкоўваць касцёл у сярэдзіне і звонку. Так адбылася адбудова матэрыяльнага касцёла.*

*На жаль, горш і складаней было з адбудоваю духоўнага касцёла. Гэта самы балючы і пастаянны клопат майго жыцця і маёй працы. І толькі час, праведзены перад табэрнакулюмам, засцярог мяне ад роспачы і разахвочання. У парафіі было дастаткова душаў па-сапраўднаму шчырых і верных, але большасць — халодных і абыякавых. І гэта боль з болю»* (Ліст ад 1953 г.).

Вышэйпададзены ліст патрабуе ўдакладнення інфармацыі, бо не пра ўсе прычыны змяншэння радоў святароў можна было пісаць. Самая важная і самая трагічная прычына — гэта рэпрэсіі савецкай улады, высылка ў Сібір і доўгія гады зняволення. Галоўная цяжкасць, звязаная з працаю ў новых умовах, — малая колькасць святароў на тэрыторыі Беларусі або абмежаваная магчымасць дастукацца да сэрцаў вернікаў.

Яшчэ большыя цяжкасці былі звязаныя з абмежаваннямі і забаронамі з боку ўлады. Дзецям і моладзі не дазвалялася хадзіць у касцёл. Першая Камунія адбывалася патаемна. Навучаць рэлігіі маглі толькі бацькі дома, выкарыстоўваючы старыя катэхізісы. З цягам часу узрос моўны бар'ер. Стала больш абыякавых людзей, якія жылі ў страху і рэлігійным няведанні. Нягледзячы на гэта, і ў той час былі адважныя людзі, пра якіх распавядае былая парафіянка з Будслава. Паколькі адкрыта яна не магла прыходзіць на св. Імшу, то рабіла гэта патаемна. Разам з сяброўкаю яны хадзілі ў Касцяневічы і, перапрануўшыся ў вопратку «бабуляў» і падняўшыся на хоры, удзельнічалі ў набажэнствах. Было і так, што кс. Станіслаў спавядаў таксама ўначы і нават цэлебраваў св. Імшу для людзей, якім пагражалі рэпрэсіі.

Пра гэтыя праблемы нельга было пісаць у лістах. Часам з'яўляліся зашыфраваныя навіны, напрыклад, пра дзесяцігадовую бяздзейнасць святара, што часта азначала зняволенне. Здаралася, што святар, якога клікалі да хворага, ужо не вяртаўся. Трэба было захоўваць вялікую асцярожнасць, і ў гэтым дапамагалі парафіяне. Вельмі важнае значэнне мела індывідуальнасць ксяндза Станіслава і яго незвычайнае ўменне аб'ядноўваць людзей.

Ксёндз Станіслаў даў прыклад таго, як можна перамагаць лагоднасцю, дабрынёю, прабачэннем, па-хрысціянску — любоўю да іншага чалавека. Ён рэалізаваў дэвіз св. Паўла: «Зло перамагай дабром». Любоўю адказваў на варожыя напады. Меў такое пачуццё, калі расказваў пра электрыфікацыю Касцяневічаў. Па рашэнні ўладаў касцёл і дом святара электрыфікацыя абмінула, але заступніцтва тых, хто паважаў кс. Станіслава за дабрыню, паўплывала на змену рашэння.

Пра гэта піша Ганна Пеціў (ліст ад 01.01.1975 г.) пасля наведвання родных мясцінаў у Беларусі: *«Нават атэісты, якія па сваёй сутнасці павінны былі варожа ставіцца да святара, паважалі і прызнавалі яго. Адзін настаўнік сказаў ксяндзу: „Няма ў свеце чалавека, якога я шанаваў бы так, як Вас, Станіслаў Вінцэнтавіч, і няма такога чалавека, якога так ненавідзеў бы за тое, што ён святар“».*

Магчыма, кс. Станіслаў Жук імпанаваў ім таксама сціплым ладам жыцця, убоствам і шчодрасцю да бліжніх. Ён ведаў, што не ўсе разумеюць такі лад жыцця. У лісце ад 10.05.1964 г. пісаў: *«За мой стыль жыцця мяне тут лічаць вялікім арыгіналам або дзіваком. Паколькі маё дзівацтва нікому не шкодзіць, нічога не прадпрымаю і нават не крыўдую, што так гавораць».*

Місійныя ўмовы працы і жыцця — гэта пошук людзей праз прыклад, а таксама пастаянная небяспека і вялікія высілкі для захавання хрысціянства ў перыяд барацьбы з Богам.

*Пераклад з польскай мовы Іны Ламакі.*
*Паводле выдання «**Na straży wiary**»,*
*Ломжа, 2006.*

*Заканчэнне будзе.*

# «Свае шляхі ў крылатых...»

## Да 100-годдзя з дня нараджэння паэткі Ларысы Геніюш

Маё зямное жыццё ўпрыгожылі стогадовыя юбілеі з дня нараджэння вялікіх беларускіх паэтаў: Янкі Купалы ў ліпені 1982 года ў Вязынцы, калі тысячы свядомых людзей сабраліся на непакошаных сенажацях; Максіма Багдановіча летам 1991 года ў Ракуцёўшчыне і 7 жніўня 2010 года — стагоддзе вялікай паэткі Ларысы Геніюш, якая была маёй блізкай сяброўкай, маёй духоўнай маці. І такіх дачок, сыноў і ўнукаў у яе было шмат на Беларусі.

У гэты дзень усе і сабраліся ў Зэльве каля таго дома, дзе яна жыла з мужам Янкам, вярнуўшыся з савецкага ГУЛАГу, а потым каля іхніх магілаў на могілках паблізу Зэльвы.



Данута Бічэль і Язэп Янушкевіч каля хаты Ларысы Геніюш.

Ларыса Геніюш не спускалася да прымітыву для таго, каб яе зразумелі ўсе, хто навучыўся чытаць, наадварот — яна спрабавала паэзіяй узняць галовы ўсяго народу да вышыняў Бога. «Свае шляхі ў крылатых!» — сцвярджала яна.

Стагоддзе яе жыцця вылілася ў пілігрымку ў зэльвенскую царкву, у якой яна малілася, але царква не змясціла ўсіх пілігрымаў. Дарэчы, пры царкве ёсць прыгожы абгароджаны дзядзінец, дзе ў пачэсным кутку стаіць помнік паэтцы Ларысе Геніюш.

Пасля літургіі і паніхіды, якія праходзілі каля помніка паэтцы на беларускай мове, Міхась Скобла як духоўны прэзідэнт спадчыны сваёй блізкай зямлячкі Ларысы Геніюш уручаў узнагароды тым, хто дапамагаў яму збіраць, укладаць і выдаваць яе літаратурныя скарбы: было знойдзена шмат не вядомых раней вершаў, апаведаў, але найбольш лістоў. Лісты паэткі — сведкі яе трагічнага паднявольнага, але нязломнага жыцця, змешчаны ў другім томе «Збору твораў» і ў беларускім біяграфічным альманаху «Асоба і час. Ларыса Геніюш». Такую працу па выданні багатай спадчыны выконваюць навуковыя інстытуты, але Міхась Скобла ўзяўся за яе адзін, спяшаўся, пакуль не паўміралі ўсе сведкі, якія ведалі, любілі паэтку, якіх любіла яна, тыя, каму давярала, з кім сустракалася і ліставалася...

Узнагароды — памятны медаль з вобразам паэткі Ларысы Геніюш атрымалі яе ўнук Міхась Геніюш, сын Юркі, які прыехаў на свята з Беластока; Уладзімір Някляеў, які дапамог выдаць тры тамы спадчыны паэткі і дыск з яе голасам... Я таксама атрымала гэты прыгожы медаль...

На свяце былі стрыечная сястра паэткі Ніна Паўлаўна Міклашэвіч, яе сяброўкі, якія дапамагалі ёй насіць ваду са студні, — Ірэна Тукальская і Зося Каліноўская. З далёкай Масквы прыехаў прафесар Аляксей Каўка, з Вільні прыехаў лідэр беларусаў у Літве Фёдар Нюнька. Сабраліся творцы — тыя, хто піша кнігі, складае музыку на яе словы, як Вольга Цярэшчанка з Гомеля, хто стварае спектаклі па яе паэзіі — як акторка Галіна Дзягілева. Было шмат бардаў, журналістаў, паэтаў — яе духоўных дзяцей. Усім было пра што ўспомніць, падзяліцца, падзякаваць паэтцы і Богу за тое, што даў яе нам, каб яна нас вучыла высокай культуры ад продкаў. Дом, дзе жылі Геніюшы, на жаль, перабудавалі на некалькі кватэраў, разбурылі той драўляны ганак, на якім яна нас вітала...

Але дух яе музы, яе паэзіі, яе моцы застаўся ў сценах, у прасторы, у зямлі. І нельга перабудаваць нябёсы над магіламі...

Каля выявы каменнай кнігі з двух вершаў паэткі прадаўжалася ўрачыстае свята, якое вяла паэтка Антаніна Хатэнка.

На беразе зэльвенскага возера барды і паэты наладзілі свой канцэрт у хвалу Ларысы Геніюш — пад спякотным сонцам. Толькі пад самы вечар хмарка пашкадавала сабраных — крыху пабурчэла і пасвянціла іх скупымі слязінамі дажджу...

*Данута Бічэль*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты – гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).

# Данута Бічэль

## УСЕ БЕЛАРУСКІЯ КВЕТКІ НА ЦЯРНОВЫХ ШЛЯХАХ ВЯЛІКАЙ ПАЭТКІ

*Ларысе Геніюш*

Так, як некалі вочы з акенца глядзелі,
пазнавалі людзей па вачах штонядзелі,
так і цяпер яе вочы душы
паглядаюць аднекуль з невідочных вышынь...

праз дрот, які іржою цвіце
у Інце, ў Мардовіі, у Варкуце...

Турма — гэта смерць. Смерць — гэта турма...
Між турмою і смерцю прагалу няма...
І ніякая кветка не ўлагодзіць адчай,
апроч лёзаў двулёзых штылетаў, мяча...

І куды гэты свет у нябыт заляціць,
і куды гэты свет праз акенца глядзіць,
так, як некалі ў Жлобаўцах, як пры жыцці,
як пасля нараджэння, як у ноч на куцці?..

У Жлобаўцах — лотаць, а ў Палаўках
палоняцца плотачкі на паплаўках,
у Зэльве — залеўнік, у Абезі — бэз...
Як ён у няволю праз дрот пералез?..

...а дзе тая праўда —
без надзеі на радасць,
без права на надзею, калі гарката
падкатваецца да перасохлага гарляка
з кожным нявольным крокам —
а вецер і снег, і спёка
з’ядаюць з зямлі насенне,
а тое, якое не з’елі,
якое ўзышло, зелянее,—
ганьбяць, топчуць і гнуць,
заганяюць жыўцом галавой у зямлю,
абы толькі яго павярнуць
ізноў у бясформенны змрок,
адкуль яно вырвалася і прарасло —
па законах жыцця, а нібы незнарок...

Цвілі мазалі ад рыдлёўкі і кельмы,
калолі не церні — наглядчыкаў бельмы...
А толькі задрэмле — душа яе ў Зэльве
з братамі і браткамі, з мроямі ў сне...

У Казахстане маці магіла
яснее крылаткамі, але бяскрыла,
крылаткі містычна дачка пасадзіла...
А бацьку забілі ў Гародні ў турме...

Кажа брат: «На сябе сам зямлю нацягну,
бо пад сэрцам — пясчынка той, якую люблю,
а на сэрцы кашуля, вышывана сястрой,
а ў вачах — неабсяжных нябёсаў сувой...»

Папяровыя кветкі называліся «ксівы»,
а яна іх расаду садзіла з-за крат...
і не слёзы цвілі ў вачах яе сініх,
а крывавыя макі з-пад Монтэ-Касіна,
дзе загінуў Аркадзь, яе брат...
А Расціслава ў Берліне забілі...
Людмілу ў Вроцлаве ў сне атруцілі...
А брат Аляксей пераплыў праз Ла-Манш,
там крыху спакою зазнаў...
Сястра паэткі Аксеня
пражыла жыццё сваё без захаплення...
А сястры яе Ніне
здаралася ў Зэльве бываць у гасціне...

...О, кветкі свабоды і кветкі за дротам,
хто вас палівае крывёю і потам?
Чалавек у няволі ўпадзе і паўстане,
а нячысты ў граху мае вечна трыванне...

Быць вольнай, не здацца і вытрываць неяк,
як рэчка Зальвянка між белых лілеяў...
А кветкі ля прызбы, як Божыя іскры,—
іх водар, як вырай, даляцеў да Сібіры ...

...Цяжка зноў падымацца, на сцябліне ўтрымацца,
да амшэлага каменя ў змрок прытуляцца...
На сцяжынах пясчаных, нібы залатых,
згубіцца між кветак і знямець сярод іх...

Трактарам іх здратуюць саветы...
Ды вясной каля прызбы зноў цвітуць першацветы,
незабудкі, стракоткі, наспеюць ранеты,
іх збіраць будуць летам маладыя паэты...

апяваць несмяротнай зямлі бездарожжы,
паплавы засяваць і касіць мурагі,
дзе на кожным сумежжку каберац прыгожы —
топча люд, да сваёй прыгажосці глухі...

— О, калісьці прачнецца народ-пілігрым
і рассцеле спрадвечнай надзеі кілім!..—
так яна думала не адзін раз на дні —
у хвіліны маўчання, у час цішыні...

І ў канцы жыцця — бы ў пачатку жыцця...
вецер разгорне забаронены сцяг,
узнімецца ўвысь, сарвецца з гары
і агнём невідочным імгненна згарыць...
і пральецца паводкаю на сенажаць,

і завабіць душу памаўчаць, паляжаць
у пялёстках любові да няскоранай мовы...
Незабудкі — як іскры жаданай адновы...
Белы рамонак, сардэчнік барвовы...
Нібы суд канчатковы — штодзённік жыцця...

А знаёмыя сцежкі, нібы ніткі ад шва,
аплятаюць пагоркі навокал жытла...
А крыніца бруіцца з высокай гары —
як і песня, настоена на чабары...

Цвіце ў халоднай Расеі
новая кветка лілея,
якую з Гародні Ірэна назвала «Ларыса Геніюш»,
і гэтага ймя, як і гэтага факту не зменіш...

## ГАРОДЧЫК У ЗЭЛЬВЕ

Гэты рай на зямлі —
паэтычны маленькі гародчык!
Там цыбулькі цвілі
ад халоднай зімы да Гародні.

Я трымалася зводдаль,
на развод не прасіла насенне...
Толькі кветкавы водар
Вашых словаў даваў мне натхненне.

Божа мой, бескарысны і шчодры,
на дарункі святыя!
Ты прыносіш мне кветкавы водар,
светлы боль настальгіі...

па вачах, задуменных і добрых,
па адноўленых словах,
па малітвах, як зоркавы подых,
і па сцежках зямных чабаровых.

Выпраўляла мяне адмыслова
са снапочкам валынкаў,
каб данесці моц роднага слова
да суполкі вялікай...

Я іду чабаровым каберцам,
і ўсё добра выходзіць:
разгарну Вашу кнігу, як сэрца,
перад новым стагоддзем.

## КАМЕННАЯ КНІГА

Хвіліна маўчання, пакуль разглядаем
стракаты дыван, сатканы на золку,
усыпаны бісерам росаў, —
слова нямое, якое паэтка сказаць не паспела,
з цемры святла вырываецца —
без гуку, без вобразу і без выгляду,
прагнучы кроплі неспазнанае ласкі
сухім горлам няўтоленага прызнання
ад жывых, якія грэюцца каля спакойнага каменя...

Скульптар Алесь Шатэрнік шліфаваў гэты помнік...
маўклівае сумаўленне з шэрым каменнем,
вечнай памяццю аб паэтцы,
каменны вобраз яе спрадвечнага слова
пад небам ясным, як яе вочы ...
І мы, асleплыя ў хвіліну прасвятлення,
з вялікай прагай пераменаў, балесных, як рана...
Смуга з тонкіх ніткаў світання,
невыказная туга па добрай Краіне,
у якую паэтка была прыслана
стаць духоўнаю маці народу, а стала
толькі духоўнаю маці некалькіх выкінутых,
ці некалькіх Богам абраных...

А каля каменя над магілай паэткі і яе мужа,
пад сонцам, якое заўсёды ёсць, як і памяць
пра жыццё пакаленняў, іх жаданняў, імкненняў,
іх разлукаў, збліжэнняў, іх драмаў і нараджэнняў —
бязмежнае мора жыцця...

Магілку паэткі вартуюць кветкі.
Сон пад каменнаю кнігай з двух вершаў паэткі...
і Беларусь — старажытная, несмяротная,
з добрай будучыняй у цішы пад крыжам.

...Тут яшчэ жывуць людзі.
Іх самаробныя хаты ўнізе на грудзе.
Адчыню маляваныя веснічкі, якія спяваюць.
Голас з хаты на мове паэткі запытае:
—Хто гэта там?
Кожная хата мае свой голас...
— Свае,— адкажу...
Мяне пазнаюць па гэтым кароткім слове.
Ірэна Тукальская адчыніць дзверы,
мы прытулімся і шчасліва заплачам.
Паміж намі — любоў,
якую паэтка пакінула ў спадчыну.
Свет застыне ў маўчанні...
Мы — жывы запавет, а калі нас тут не стане,
дзяўчаты будуць чытаць мову кветак і кнігу на камені.

## АДНО ПЫТАННЕ

...Час затрымаўся... Стагоддзе мінае...
Ці ўспамінае душа сваё цела,
як неспакойнае сэрца балела?..
музыку мовы ці ўспамінае?

*Чэрвень 2010 года*

МІХАСЬ СКОБЛА

# НЕВАДАМ З ЗЭЛЬВЯНКІ

*З апокрыфаў пра Ларысу Геніюш*

**Як Зэльва хавала Ларысу Геніюш**

Калі нейкую з'яву немагчыма растлумачыць, кажуць, што адбыўся цуд. 10 красавіка 1983 года, у дзень пахавання Ларысы Геніюш, ён адбыўся ў нясхільнай да цудаў Зэльве. Я апытаў дзесяткі відавочцаў, і ніхто мне не змог уцямна растлумачыць, як тады, пры моцнай яшчэ савецкай уладзе, у савецкім запалоханым і дарэшты кантраляваным мястэчку на вуліцу Савецкую прыйшлі тысячы савецкіх людзей, каб правесці ў апошні шлях несавецкую грамадзянку. Ніхто ж нікога з хаты не гнаў, з працы арганізавана не адпускаў. Наадварот, бралі на ўлік тых, хто падпісваў па-беларуску вянкі, хто збіраўся прысутнічаць на адпяванні ў царкве. І ўсё ж людзі прыйшлі. Як на маўклівую маніфестацыю, перамогшы вонкавы і ўнутраны страх, усім сваім выглядам нібы пацвярджаючы словы Ларысы Геніюш: «Мы вам не племя слугаў, мы — народ!»

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Марыс Метэрлінк, які быў яшчэ і выдатным прыродазнаўцам, у сваёй кнізе «Разумныя кветкі» апісаў паводзіны раслінаў у самых розных умовах існавання. Аказваецца, асобная кветка можа памыліцца, зацвісці не ў пару і загінуць, можа несвоечасова высеяць у зямлю насенне, якое не дасць працягу роду. Але ў цэлым кветкавы род ніколі не памыляецца, ён разумны і ведае, як дзейнічаць у надзвычайных сітуацыях.

Магчыма, падобная сістэма паводзінаў характэрная і для людзей. Асобна ўзяты жыхар Зэльвы мог не чытаць кніг Ларысы Геніюш і не ведаць, з кім жыў побач на адной вуліцы. Але настаў момант ісціны, і ён уліўся ў шматлюднае жалобнае шэсце, якое ў той дзень і ў той час уяўляла з сябе менавіта народнае рушанне, над якім не мела сілы ўсемагутная тады савецкая ўлада.

Дарэмна прадстаўнікі гэтай улады запалохвалі святара зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы і настойвалі, каб не было адпявання. Айцец Васіль Чыкіда пры паўнюткай царкве адпяваў рабу Божую Ларысу чатыры гадзіны. А ў сваёй пропаведзі назваў Ларысу Геніюш чалавекам «з крыштальна чыстай душой, чые творы будуць жыць вечна».

Дарэмна афіцыйныя распарадчыкі пахавання, упаўнаважаныя той жа ўладай, падганялі да царквы грузавік з апушчанымі бартамі — труну ад храма да самых могілак людзі неслі на плячах.

Дарэмна пісьменнікаў з Гродна і Мінска па чарзе выклікалі ў райвыканкам і папярэджвалі, каб «никаких речей» тыя не прамаўлялі. На могілках выступілі Адам Мальдзіс і Уладзімір Арлоў, які прачытаў верш Сержука Сокалава-Воюша, напісаны на смерць паэткі.

Дарэмна ў Зэльву панаехала «службоўцаў у цывільным» з Ваўкавыска і Гродна, якія мусілі «кантраляваць сітуацыю». Наўрад ці нехта з іх здабыў чарговую зорку на пагоны за тое сапраўды народнае пахаванне.

*«Дома свечкі даўно пагашаны, / і магілкі пад снегам спяць. / Дык няўжо і мяне, няшчасную, / пад канвоем будуць хаваць?»* — пыталася Ларыса Геніюш у адным з апошніх сваіх вершаў. Спасцярога паэткі не спраўдзілася. Хавалі яе пад аховаю любові ў атмасферы шчырага чалавечага смутку.

Калі я гляджу на здымкі з таго пахавання, мне міжволі хочацца параўнаць развітанне з Ларысай Геніюш з праводзінамі ў апошні шлях Васіля Быкава. І 10 красавіка 1983 года ў Зэльве, і 25 чэрвеня 2003 года ў Мінску, за труной ішоў Народ, дзеля якога гэтыя творцы жылі і пісалі.

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008).

### Як быў уратаваны архіў Ларысы Геніюш

За савецкім часам у Саюзе пісьменнікаў дзейнічала цвёрдае правіла: пасля смерці літаратара стваралася адмысловая камісія па ягонай творчай спадчыне. Сябры тае камісіі пераглядалі архіў калегі, рыхтавалі да публікацыі нявыдадзеныя творы.

Пасля смерці Ларысы Геніюш, якая хоць і не ўваходзіла ў пісьменніцкі саюз, але сябравала з ягоным старшынёй Максімам Танкам, камісію па спадчыне стварыць не паспелі.

Пахавалі паэтку 10 красавіка 1983 года, а ўжо 11 красавіка ў апусцелай хаце Геніюшаў быў учынены — сіламі мясцовых уладаў —ператрус. Пратэсты Юркі Геніюша, які яшчэ не паспеў апрытомнець пасля смерці маці, не спынілі старшыні пасялковага савета і яго памагатых, якіх прыслалі «даследаваць» архіў паэткі і знойдзеную (абавязкова!) антысавеччыну тэрмінова даставіць у спецкабінет на спецпрагляд.

Юрка Геніюш у роспачы патэлефанаваў у Мінск Адаму Мальдзісу — на той час супрацоўніку Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Той — Алесю Адамовічу, які меў сувязі ў ЦК КПБ. Сакратар ЦК па ідэалогіі Аляксандр Кузьмін распарадзіўся: архіў Ларысы Геніюш захаваць у цэласці і вывезці ў больш бяспечнае месца. Імгненна была арганізавана выратавальная экспедыцыя ў Зэльву, дзе Мальдзісу давялося літаральна адваёўваць рукапісы паэткі ў мястэчковых «геніюшазнаўцаў». Тыя не спяшаліся пакідаць захопленую хату, тэлефанавалі райкамаўскаму начальству, тое звязвалася з Менскам... Нарэшце старшыня пассавета быў вымушаны патлумачыць сваім памочнікам: «Товарищ Мальдис — тоже исследователь, но с большими, чем у нас, полномочиями»...



Каля зэльвенскай царквы: Міхась Чарняўскі, Міхась Геніюш (унук Ларысы Геніюш), Язэп Янушкевіч, брат Мікалай (Алег Бембель), Аляксей Каўка.

Надвячоркам таго ж дня ад дома 7 па вуліцы Савецкай у Зэльве ад'ехаў рафік, пад завязку наладаваны пакаўнымі мяхамі. Валюхаючыся на брукаванцы яшчэ польскіх часоў, няспешна прамінуў старыя могілкі, аўтастанцыю і схаваўся, як за брустверам, за высокай насыпной дамбай, што мелася неўзабаве запыніць хуткаплынную Зальвянку.

На слонімскай шашы сталічную экспедыцыю спынілі міліцыянты. Прымусілі з'ехаць з дарогі ў лес, доўга распытвалі пра характар груза, правяралі дакументы. Паспрабавалі зазірнуць у мяхі, але яны нечакана аказаліся апячатанымі. Старшы па званні міліцыянт доўга круціў у руках прад'яўленае яму чырвонае пасведчанне з надпісам «Саюз пісьменнікаў СССР», звязваўся з кімсьці па рацыі. Нарэшце атрымаў каманду адпусціць затрыманых.

Так быў уратаваны архіў Ларысы Геніюш, які яшчэ пры жыцці паэткі не даваў спакою пільнавокім і чуйнавухім таварышам. Сем мяхоў з рукапісамі былі дастаўленыя ў Мінск і здадзеныя ў Акадэмічную бібліятэку. Сёння Геніюшаўскі фонд 31 — адзін з самых багатых пісьменніцкіх архіваў у Беларусі, які па колькасці неапублікаваных тэкстаў, відаць, не мае сабе роўных. У гэтым фондзе, як у залатых капальнях, даследчыкі знаходзяць усё новыя і новыя скарбы, якім канца-краю няма.

Як жа памыляўся Барыс Пастарнак, калі кідаўся ў вершаваную дыдактыку: «Не трэба нам збіраць архівы, над рукапісамі дрыжаць». Архівы заводзіць трэба. І рукапісы зберагаць неабходна. Яны — дакументы часу, ягоныя метрыкі і пашпарты.

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

# «У сэрцы – веры жар праменны...»



* * *

Суровы час. Стаю адна,
а вокал рыскаюць гіены.
Ля ног мнеззяюць прорвы дна,
а ў сэрцы – веры жар праменны!

Світае. Раніца відна.
Сям-там ужо ўстаюць з каленяў.
Ля ног мне ззяюць прорвы дна,
а ў сэрцы — веры жар праменны!

* * *

Арліны ведаю размах
і цяжкасці жыцця зямнога.
Не знаю толькі слова «страх»
і дзякую за гэта Богу!

Цяжар кайданаў на руках,
за сына і за Край трывога...
Не знаю толькі слова «страх»
і дзякую за гэта Богу!

* * *

Прайшлі годы і буры.
Перамена ярма.
Вунь стаіць Дом культуры,
а культуры няма.

Не прадзецца кудзелька,
хлеб не свой на раллі.
Толькі п’ецца гарэлка
на крывіцкай зямлі.

Хлеў стары без жывёлы,
даўно засек пусты.
Дзе быў лес навакола –
хмызнякі і кусты.

Глум і ў святы, і ў будзень,
і прасвету няма.
Выйдуць шэрыя людзі
і працуюць дарма.

Толькі гнуцца бярозы
пад вятрамі далоў,
толькі сыплюцца слёзы
на палоскі дзядоў...

* * *

На полі хлеб расце і зелля шмат у полі,
каб колас не наліўся, не акрэп.
Ды між свірэпы, пырніку, куколю
расце і ў сонцы даспявае хлеб!

Людскія душы слоўным шумавеннем,
гарэлкаю мярзотнай і хлуснёй
вам не заліць, ўстае з калень сумленне,
каб з нелюдзямі весці смертны бой.

* * *

Дабро ў жыцці – як перамога
над чорным апрамеццем зла.
Дык будзем жа часцінкай Бога,
Ягонай праўды і святла!

* * *

Я смела прайшла праз нажы і крыжы,
цвікі забівалі мне ў душу.
Цяпер распінаюць мяне на ілжы –
і гэта я вытрымаць мушу!

* * *

Хрыстос за людзей свае мукі прыняў –
распяццем суровым і смерцю.
Ён храмы не з камня пад неба ўздымаў,
узносіў іх велічна ў сэрцах.

Стаім ля святыняў зачыненых брам,
ды ўсюды ёсць праўды крыніца.
Дзе чуецца Божае слова – там Храм,
там Богу належыць маліцца.

*Публікацыя Міхася Скоблы.*

МІХАСЬ СКОБЛА

# ШЭСЦЬ ЗАЦЕМАК З ЛЕАНІДАМ ГАЛУБОВІЧАМ

* * *

Леаніды — зоркі. Хто ж не памятае, як яны «сыходзілі на зямлю» ў рамане Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць»? А імя, як цвердзяць псіхолагі, нярэдка накладае свой адбітак на характар і паводзіны чалавека. Вось жа і сучасны Сакрат усіх павучае і кідае парады праз мяжу: як мусяць жыць беларусы ў РБ...

Дзякаваць Богу, не заўсёды чалавек ёсць паслухмянцам свайго імя. Леанід Галубовіч не захварэў на зорную хваробу, хоць крытыка пра яго не аднойчы выказвалася ў суперлятывах. І ў большасці выпадкаў — заслужана. Не ведаю, як праз агонь і ваду, а праз медныя трубы паэт прайшоў (і ў звычайна пераносным, і ў дадатковым сэнсах)... Як правіла, пад дажджом хваласпеву творцы бранзавеюць і ходзяць па доме літаратуры няйначай як камандорскім крокам. Альбо залазяць на пастаменты і аглядваюць наваколле звысоку. Прычым ніхто яшчэ не бачыў, каб «помнікі» самі спускаліся долу. Звычайна іх адтуль сцягваюць пад свіст і ўлюлюканне натоўпу.

Леанід Галубовіч падмосткаў сабе не шукаў і на катурны не самаўздымаўся. Цягнуў свой літаратурны воз як мог. І хто толькі на тым возе ні пад'язджаў на Парнас! Дзесяткі паэтаў з глыбінкі мусяць быць удзячныя Леаніду за той падвоз. Асобна ад усіх стаяць Мікола Купрэеў і Васіль Гадулька. Хто і калі ўзгадаў бы пра іх, выдаў бы іх кнігі, каб не Леанід Галубовіч? Тут жывых забываюць, не тое што мёртвых...

Рэдка хто з сучасных творцаў пагодзіцца запрэгчы свайго крылатага каня ў калёсы і пабыць, хоць ненадоўга, літаратурным рамізнікам. Галубовіч рабіў гэта неаднойчы. І вось ужо на нашым прыцьмелым небасхіле пабольшала краплінак святла. І перагукаюцца між светамі *міколы*, *васілі* і *леаніды*. «Зорка зорцы голас падае...»

* * *

Леанід Галубовіч ужо дванаццаць гадоў не піша вершы. Маўчанне любога паэта — тэма складаная, і паглыбляцца ў яе мімаходзь не хочацца. Вершы не пішуцца — і Бог з імі. Паэт піша прозу, крытычныя агляды, рэцэнзіі. Але гэта — як у залатым пацíры вазоны разводзіць... Галубовічу вершы не пішуцца, а мне чамусьці няёмка, адчуваю — віна нейкая і на мне ляжыць. За што за якое? А вось за што. Дванаццаць гадоў таму мы сядзелі з Леанідам у радыёстудыі і гутарылі пра літаратурнае жыццё-быццё. На маё напаўжартоўнае пытанне, ці можа ён не пісаць, мой суразмоўца раптам усур'ёз пакляўся, што пакідае паэзію назаўсёды. Думаючы, што ўсё гэта гульня ў словы, я пажадаў Леаніду адзін раз у жыцці стаць клятваадступнікам. Але ад сваёй клятвы паэт не адступіўся. Больш за тое, ён сваю вусную клятву замацаваў пісьмова, выдаўшы неўзабаве кніжку пад назвай «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча». Я разумею, што маўчанне Галубовіча паэта выклікана не маім пытаннем. «Но всё же, всё же, всё же...» — як пісаў другі паэт, які таксама зведаў выпрабаванне нематой.



Леанід Галубовіч з сябрамі на лецішчы ў пісьменніцы Марыі Вайцяшонак. 2004 г. Фота М. Новікава.



Ксёндз Міхал Сапель удзяляе сакрамэнт сужэнства Веры і Леаніду Галубовічам.
Май 2000 года.

* * *

Паэты — барометры духоўнага клімату ў грамадстве. «Я задыхаюся», — папярэджвае спавуцінены высокімі тэхналогіямі свет літоўскі паэт Томас Венцлава, які ўжо не першы дзесятак гадоў жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. «Духоўны смог вісіць над краінай», — прызнаецца беларускі паэт Леанід Галубовіч, які ніколі не выязджаў за мяжу (Маскву, дзе ён вучыўся літаратурнаму рамяству, у разлік не бярэм). Прычым гэтыя прызнанні два паэты робяць амаль адначасова, незалежна адзін ад аднаго. Прафесар амерыканскага ўніверсітэта і пенсіянер паводле сацыяльнага статусу з вёскі Вароніна Клецкага раёна...

* * *

Яшчэ студэнтам трапляў я на падначоўкі да Леаніда Галубовіча — у яго цесную кватэру на вуліцы Каліноўскага. Спаць мяне клалі ў зацішнай баковачцы за галоўным, прахадным пакоем. Здаецца, падобныя кватэры паўтарачкамі называюцца. Да гэтай пары і гасціннасць паэтавай жонкі Веры, і гутаркі за поўнач помняцца. Але найбольш чамусьці запомніўся той прахадны пакой, у якім фактычна і жыла сям'я з трох чалавек. Малая проза Леаніда Галубовіча — таксама прахадная, столькі праз яе людзей праходзіць...

* * *

Сапраўдны паэт часам міжволі *дагаворвае* да ўжо сказанага — ужо прамоўленымі словамі. І тое *дагаворанае* ўспрымаецца як істотны дадатак, хоць і ўтрымліваецца незаўважна ў асноўным тэксце. Бывае, такі дадатак і схіляе чытача на бок аўтара, змушае паверыць канчаткова ў напісанае. Прывяду два прыклады. Украінская паэтка Ліна Кастэнка ў гістарычнай баладзе пра полацкую князёўну Рагнеду і кіеўскага князя Уладзіміра называе колькасць ягоных жонак: «У нього *сто* таких на Берес*то*ві, і кожна з їх заходіться плачем». У радку двойчы гучыць лічба *сто*. А сто і сто — дзвесце. Нібы выпадкова, а — дасягаецца патрэбны эфект падвойнага мноства. А Леанід Галубовіч, пішучы пра Восіпа Мандэльштама, ускліквае: «Ня*ма* *ма*гілы *М*андэльштам*а*!». І гэтае двойчы прамоўленае, па-дзіцячы роспачнае *ма-ма*, *ма-ма* пільнавокаму і чуйнавухаму чытачу пра мандэльштамаўскую трагедыю гаворыць больш, чым усе астатнія словы.

* * *

Даўней літаратурных злодзеяў называлі плагіятарамі. За прысвоеныя радкі ў турму не саджалі, але з рэпутацыяй плагіятара жыць у літаратуры было вельмі няўтульна. Сёння непрыхаваны крадзёж, то бок здольнасць уплесці чужы радок у свой твор, сталі называць майстэрствам і постмадэрнісцкім мастацтвам. І вось ужо сучасныя постмадэрністы пішуць вершы, амаль цалкам складзеныя з чужых радкоў. Адчуванне такое, як быццам яны адшчыкваюць па лісточку з лаўравых вянкоў класікаў і прышываюць тыя лісточкі да сваіх вянкоў. Ці складана гэта рабіць? Зусім не. Дэманструю, як можна складаць вершы з чужых радкоў, не дадаючы сваіх. Бярэм два радкі ў Мікалая Някрасава, два — у Канстанцыі Буйло, і атрымліваецца «новы твор»:

*Зимой крестьянин,*
*торжествуя,*
*На дровнях обновляет путь.*
*І песню родную люблю я,*
*Што дзеўкі ў полі запяюць.*

Начытаешся падобных твораў — нібы ідзеш ляснымі гушчарамі па компасе са збітым азімутам. Хочацца тупкай сцежкі пад нагамі, працярэбленай прасекі, у якую неба заглядвае. У такія хвіліны я люблю перачытваць Леаніда Галубовіча, яго першую кнігу «Таемнасць агню». Цытаваць з яе не амелюся. Баюся, давядзецца ўсю перапісаць — ад першага верша «Шукаю чытача — хаўрусніка душы...» да верша апошняга «Я — раб паэзіі...». Такіх цэльных і самадастатковых кніг у айчыннай паэзіі — адзінкі.

У наш сурагатны век вытворцы почасту змушаныя пісаць на сваёй прадукцыі: *натуральны мёд, натуральнае малако, натуральная вада*. Што азначае — без дамешкаў, у дадзеным матухнай-прыродай выглядзе. На кнізе «Таемнасць агню» мне хочацца напісаць: *натуральная паэзія*.



# HOMO HOMINI, *альбо* СЛОВА ПРА ЧАЛАВЕКА

Леанід Галубовіч — гэта майстар, у якім увасобленыя свабода і слова. Даволі толькі згадаць паўсталыя трыццаць гадоў назад яго радкі з кнігі «Таемнасць агню» (1984):

*каб святлела ў свеце,*
*калі светла ў хаце...*

Святло ідзе з чалавека — з аднаго чалавека, і толькі з Чалавека. Таму шукаць чагосьці ў свеце, прынамсі, у свеце літаратурным ці нават за светам, — не мае сэнсу.

Святло было ў чалавеку. Святлом было слова. Словам была свабода. Так піша і жыве майстар.

Час быў такі... У тым 1984 годзе. Мы ж абодва аднаго пакалення, а дзесяць гадоў ва ўзросце — то зусім ніякая розніца, асабліва цяпер, калі адно жыццё заўчасна прайшло, а вось другое так і не прыходзіць...

Той наш познесавецкі час быў не такі ўжо змрочны, калі глядзець яшчэ глыбей у мінулае, але ўвесь нейкі шэры звонку і сярэдні ў сярэдзіне — сярэдняя школа, сярэдні заробак, сярэднія паказнікі, сярэдняя тэмпература ў шпіталі, сярэднія пісьменнікі ў СП БССР, сярэдні ўзровень жыцця... Не такі ўжо і кепскі, калі параўноўваць з іншымі, але ўвесь нейкі сярэдні. Шэры. Ніякі. Нябачны і нячутны — хоць і паўсюдны.

Але слова не памірае ні ў якім шэрым часе, а свабода не можа быць ніякай і сярэдняй — і таму заўсёды бываюць майстры, і кожны з іх сам сабе майстар.

У нашым беларускім тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» Леанід Галубовіч вядзе своеасаблівы аддзел, ці нават напрамак, які так і называецца ЛеГал — вось не хоча быць чалавек падпольнікам, што ты з ім зробіш! — або так у яго заўсёды было: чым «пісаць у шуфляду», няхай лепш будуць зацемкі з левай кішэні, памятныя мне па нейкім спакоі аўтара ў любых абставінах, без істэрыі ці эйфарыі:

*у адзінокіх вечнасці няма,*
*свой час у чалавека*
*не праходзіць...*

Безумоўна, у кожнага з нас свая доля, а «Бог дзеліць няроўна, каб падзяліць справядліва», але вось цікава, што многія з нашага пакалення — ці здавалася, ці сапраўды больш таленавітыя і адораныя — аказаліся за дваццаць апошніх гадоў калі нават не «па-за Краем і па-за домам», а калі нават не «пайшлі на лепшы свет», то засталіся па-за літаратурай, а Леанід Галубовіч з тых не так многіх сучаснікаў, хто не проста выжыў у тым гістарычным пераломе, але і нічога не страціў як майстар. Нічога не мяняў ні ў сваім пісьме, ні ў сваім літаратурным жыцці — іншыя не мяняліся і гінулі, бо нічога не ўмелі ці ўпарта не хацелі, а яму такія «перамены» проста не спатрэбіліся. Чарговы раз спрацавала цудоўнае правіла — *майстар* вышэй за час, *a propos*, сфармуляванае яшчэ Максімам Багдановічам...

Быць сабой і заставацца сабой. Жыць і пісаць самому, і даваць жыць і пісаць іншым. Вось і ўвесь сэнс нашага існавання на нашым і не нашым, літаратурным і не толькі літаратурным свеце. Так проста гэта зразумець, што яшчэ менш тых, хто здольны гэта зрабіць.

Не хацелася б, каб гэтыя словы хтосьці па звычцы зразумеў як «юбілейныя» ці, яшчэ горш, як падробкі пад «зацемкі з левай кішэні» — то не маё. Я хацеў бы нагадаць толькі, што быў у нашай літаратуры і такі напрамак як «Ліст да Галубовіча». А чаму б і не быць стараму добраму пісьму ад рукі пры ўсіх сённяшніх інтэрнэтах, тэлефонах і камп'ютарах... Вось я і паспрабаваў прыгадаць, «як тое было раней», і напісаў гэты свой ліст ад рукі, ад чалавека да чалавека, *homo homini*.

*Алесь Чобат*

**Алесь ЧОБАТ** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Скідзелі. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. Працаваў канструктарам, журналістам, навуковым супрацоўнікам. Аўтар кніг «Год», «Новая Галілея», «Ты не самотны...», «Крэсы» і шматлікіх гісторыка-псіхалагічных эсэ, апавяданняў, хронік і біяграфій. Сябра Саюза пісьменнікаў і Міжнароднага ПЭН-клуба. Жыве ў Скідзелі.




Адкрыццё выставы.

# «ГРУНВАЛЬД ЗА СМУГОЮ ЧАСУ»

***Пра выставу суполкі «Пагоня», прысвечаную 660-годдзю Вітаўта Вялікага і 600-годдзю перамогі пад Грунвальдам***

Апошнім часам сталі з'яўляцца публікацыі з крытычным падыходам і ацэнкай удзелу Вялікага Княства Літоўскага ў вайне супраць Тэўтонскага ордэну ў 1409–1911 гадах і нават шкадаваннем з прычыны нашай агульнай перамогі над крыжакамі пад Грунвальдам 15 ліпеня 1410 года. Думкі арыгінальныя, але вельмі далёкія ад рэальнасці. У выніку пераключэння вайсковай палітыкі ВКЛ з Нямеччыны на Польшчу, проста кажучы, калі б мы шукалі сяброўства ў немцаў, а выступілі супраць Польшчы як рэальнага, найбліжэйшага і большага ворага, мы маглі б рэальна займець двух ворагаў — у асобе Нямеччыны і Польшчы. У выніку такой палітыкі нам пагражаў бы лёс Прусіі. Ва ўсялякім разе ўтварыліся б рэальныя шанцы аб'яднання прынамсі часткі Польшчы і крыжацкага ордэну. Дарэчы, на грунвальдскім полі крыжацкі ордэн здолеў аб'яднаць супраць усходнеславянскай кааліцыі рыцараў з многіх краінаў Заходняй Еўропы, і не толькі. Пад сцягамі тэўтонцаў змагаліся рыцары і з Чэхіі, і з польскіх земляў. Наогул гэтыя разважанні здаюцца мне зусім бясплоднымі і нецікавымі. Такім чынам апаненты перамогі пад Грунвальдам аб'ядналіся з кіраўніцтвам Беларусі ў гэтай канкрэтнай справе і праігнаравалі свята: яны нават не прынялі ўдзелу ў святочных мерапрыемствах на грунвальдскім полі. І як вынік гэткіх адносінаў ні ў Мінску, ні ва ўсёй краіне як не было ні плошчаў, ні праспектаў, ні вуліцаў імя Вітаўта Вялікага і грунвальдскай перамогі, так і сёння няма. А між тым грамадскасць Беларусі не раз звярталася ва ўрад краіны з прапановамі надаць гарадской урбаніміцы Беларусі імёны герояў вялікай перамогі, з аналагічнымі прапановамі звярталіся і ў Мінгарвыканкам.

За гэтаю перамогаю стаяць веліч народа, моц яго духу, прыгожая гісторыя і гонар за нашых продкаў, якія здзейснілі сапраўды гераічны чын.

Вялікае Княства Літоўскае выставіла на вайну 40 харугваўпалкоў войска. З іх каля 30 харугваў былі прадстаўлены з тэрыторыі Беларусі — Літвы, 8 — з Украіны — Русі, астатнія — з Жамойці. І гэтая «арыфметыка» вельмі красамоўна падказвае, што ганарыцца нам ёсць чым.

Але толькі ганарыцца мала! Мы ў даўгу перад нашай гісторыяй, хоць нашы творцы розных кірункаў распрацоўвалі тэму Грунвальда з даўніх часоў. Напэў-

на, самымі раннімі праявамі гэтай творчасці трэба лічыць летапісы XV–XVI стагоддзяў, а таксама мастацкія творы Яна Вісліцкага і Мікалая Гусоўскага. Ужо ў 1418 г. беларускія мастакі ўвасобілі вобраз караля Ягайлы ў насценным малярстве ў капліцы Святой Тройцы ў Любліне. Вобраз Вітаўта Вялікага стаў неад'емным атрыбутам беларускіх каталіцкіх святыняў і важкай тэмай у беларускай (літоўскай) графіцы і жывапісе XVI–XIX стагоддзяў. Але самага значнага развіцця тэма Вітаўта і Грунвальда дасягнула ў 1980–1990 гг., і гэты працэс паспяхова працягвае сваё развіццё да цяперашняга часу.



Мікола Купава.
«Грунвальд. Рубон!».

Да гэтай тэмы звярталіся нашыя старэйшыя мастакі: Г. Вашчанка, У. Стальмашонак, А. Мара, Э. Агуновіч — у жывапісе, А. Шатэрнік — у скульптуры, М. Басалыга, Я. Кулік, П. Драчоў — у графіцы, У. Крукоўскі — у плакаце. І цяпер многія маладыя мастакі ў сваёй творчасці актыўна распрацоўваюць гэтую тэму.

Менавіта 600-гадовы юбілей славутай перамогі падштурхнуў беларускіх мастакоў да адмысловай працы ў гэтай тэматыцы, хаця многія з іх узнімаюць гістарычную тэму, у тым ліку і мілітарную, незалежна ад юбілеяў, паводле клічу сэрца.

Да вялікага юбілею мастацкая суполка «Пагоня» падрыхтавала выставу «Грунвальд за смугою часу», якая адбылася ў Музеі Максіма Багдановіча. На ёй былі прадстаўлены жывапіс, акварэль, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Перад адкрыццём выставы на пляцоўцы каля музея адбыўся фэст беларускай старажытнай музыкі з удзелам беларускіх рыцарскіх клубаў. Цэнтрам гэтай часткі праграмы стала выступленне вядомага актора Валерыя Шушкевіча, які выканаў ролю вялікага князя Вітаўта. Танцавальны калектыў «Фламея» выступіў з танцамі XV стагоддзя, выступілі таксама ансамбль «Тутэйшая шляхта» і гурт «Корнакопія». Адбылася вельмі запамінальная, яркая музычная імпрэза, якая папярэднічала сустрэчы з творамі мастакоў. Дарэчы, ужо ў экспазіцыі выставы маладая пяснярка Ярына Лецка, студэнтка БДУКМ, праспявала ўласную песню «Сонца над Грунвальдам».




Лукаш Левандоўскі.
«Дубок Вітаўта Вялікага».

Пры ўсім дэмакратызме і пашане да іншых твораў, «хітом» на выставе была каляровая аўталітаграфія Міхася Басалыгі «Бітва пад Грунвальдам». Створаны ў 1989 годзе, гэты эстамп стаў сапраўднай мастацкай класікай. Ён добра вядомы, шмат выстаўляўся і друкаваўся.

Вядомы графік Эдуард Агуновіч на гэты раз увасобіў сваю творчую ідэю ў жывапісным палатне «За годнасць», героем якога з'яўляецца Вітаўт Вялікі — рыцар і змагар.

Прыемна было бачыць у экспазіцыі выставы новы твор на гістарычную тэму мастака-жывапісца і кераміста Анатоля Концуба пад назваю «Час Вітаўта». Звярнуўшыся да грунвальдскай (і наогул, да гістарычнай) тэмы, аўтар выдатна вырашыў многія яе задачы. Кампазіцыя яго твора вельмі напружаная, завершаная, моцна завязаная сваім зместам і формаю. У творы паказаны многія папярэднікі Вітаўта, вялікія князі з мячамі і пікамі ў наступе (усе яны былі рыцарамі і на працягу свайго жыцця адважна змага-



Анатоль Концуб. «Час Вітаўта».

ліся), а цэнтральнай фігурай кампазіцыі з’яўляецца сам Вітаўт Вялікі.

У гістарычнай тэме мастак паказаў сябе прафесійна, упэўнена, маштабна. На выставе быў змешчаны і іншы яго твор пад назваю «1410 год». На ім адлюстраваны профіль галавы белага каня, які з трывогаю ўглядаецца ўдалячынь, і тут жа — пікі, якія канкрэтызуюць вобраз і ствараюць тэму кампазіцыі.

Складаная кампазіцыя палатна Юрыя Каралевіча «Вялікія князі ВКЛ» — ад Міндоўга да Жыгімонта Аўгуста. У цэнтры яе — зборны вобраз рыцара, змагара за краіну. Тут жа ўвасоблены вобразы Ягайлы і Вітаўта — адважных герояў Грунвальда.

Іншы твор мастака — «Курган» — больш сімвалічны. У ім паказаны атрыбуты вайны і рыштунак ваяра: узбраенне, шлемы, ядры, шчыты, пікі, мячы... Усё ўжо пабітае і зламанае. Па сутнасці, гэта апафеоз вайны, страшны вынік чалавечых высілкаў у ваенным змаганні. Можа, нават пратэст супраць вайны...

Пяць працаў паказаў на выставе Мікола Купава, усе ў тэхніцы акварэлі. Дзве з іх — складаныя фігуратыўныя кампазіцыі. Першая мае назву «Вітаўт Вялікі. На Грунвальд». Вітаўт з групай рыцараў на фоне Гарадзенскага замка, які атрымаў ягонае імя. Злева ад рыцараў узвышаецца магутны Віленскі замак, а за ім мы бачым Наваградскі ды Полацкі замкі. Так паказаны вобраз Вялікага Княства Літоўскага. Справа ўнізе імчыць наперад група коннікаў. Уверсе кампазіцыі — Багародзіца, Апякунка Беларусі — Літвы.

Другая кампазіцыя больш складаная — «Грунвальд. Рубон!». Гэты твор збудаваны на дынаміцы і руху. З правага боку наступаюць войскі ВКЛ, і ў цэнтры іх — вялікі князь Вітаўт з мячом у руцэ, на белым кані. У гэтай частцы кампазіцыі пераважаюць традыцыйныя белы і чырвоны колеры. З левага боку ідуць у наступ крыжакі. Тут пераважаюць белы і чорны колеры.

І яшчэ тры акварэлі паказаў мастак: «Наваградскі замак», «Гарадзенская харугва» і «Віленскі замак XV стагоддзя».

«Вестка Архістраціга Міхала» — так называецца твор Паўла Та-




Міхась Басалыга. «Грунвальдская бітва».

тарнікава, выкананы ў аўтарскай тэхніцы. Гэта страшная і сумная вестка пра вайну, якая апанавала часткай чалавецтва. Кампазіцыя выдатна выканана. Удала абраная каляровая гама, добра выпісаны вобразы.

Алесь Мара сярод іншых сваіх твораў дэманстраваў графічны партрэт Вітаўта Вялікага і важнае для экспазіцыі палатно «Карона Вітаўта».

Вядома, што Вітаўт Вялікі неаднойчы спрабаваў каранавацца на пасад караля Літвы, але гэтаму жаданню, на жаль, не суджана было збыцца. У творы Алеся Мары мы бачым карону, якая знікае, адлятае ад нас уверсе палатна. Многія праблемы беларуска-літоўскай гісторыі тлумачацца гэтым нявдзейсненым фактам. Карціна напісана ў цёмных, халодных колерах.

Жывапісны раздзел выставы заканчваецца двума палотнамі з аўтарскім поглядам Г. Драздова.

У графічным раздзеле экспазіцыі годнае месца займае малюнак Рыгора Сітніцы «Рубон!». На аркушы ўдала закампанаваны пікі і мячы двух варагуючых бакоў, якія сышліся ў лютай сечы. Просты аловак, якім выканана кампазіцыя, удала перадае дынаміку задумы і напружанне варожых сілаў. Вельмі стрымана акцэнтаваны чырвоным колерам адметныя элементы беларускіх сцягоў, што яскрава сведчыць пра беларускі ўдзел у падзеі.

На выставе была прадстаўлена таксама надзвычай прыгожая і цікавая гравюра «Дубок Вітаўта Вялікага», якая належыць госцю з Польшчы — трыццацігадоваму графіку Лукашу Левандоўскаму. Стаіць у Белавежскай пушчы дуб-патрыярх, які, паводле мясцовай легенды, бачыў Вітаўта ў 1409 годзе, у час яго знаходжання ў Белавежскай пушчы. Мастак выразаў гэты дубок такім, якім яго мог бачыць беларуска-літоўскі манарх. Лукаш Левандоўскі рэжа свае гравюры на шліфаваных гіпсавых плітках і друкуе белай ці срэбнай фарбай на чорнай паперы. Вынік — проста бліскучы.

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва на выставе прадстаўлялі Святлана Баранкоўская (габелен ручнога ткацтва «Берагіня»), Наталля Стальмашонак (кампазіцыя «Успамін аб мінулым» — збруя для каня) і Генадзь Лойка, які зрабіў медаль да юбілейнай даты.

Такім чынам, праз выставу «Грунвальд за смугою часу» гэтая далёкая, прыцягальная і ў многім загадкавая падзея нашай гісторыі стала для нас яшчэ больш значнай і больш блізкай.

*Мар'ян Базылевіч*

# Пагоркі Грунвальда

## Пра выставу ў Гародні, прысвечаную 600-годдзю бітвы пад Грунвальдам

Бываюць стагоддзі — як адзін дзень, бывае адзін дзень — як стагоддзе...

Гэтую евангельскую праўду добра адчуваюць людзі, якія ведаюць, што Езус Хрыстус у адзін дзень узышоў на крыж, укрыжаваны, адкупіў людзей ад грахоў, падараваў ім несмяротныя душы і надзею на змёртвыхпаўстанне.

Грунвальдская бітва вымяраецца не адным стагоддзем, а стагоддзямі, якія былі да яе, і ўжо шасцю стагоддзямі пасля яе.

«...*Значэнне перамогі пад Грунвальдам можна акрэсліць так: пасля яе на працягу пяці стагоддзяў, да 1914 года, на землі Беларусі і Літвы не ступаў узброены немец...*»

Гэта пачатак апавядання Кастуся Тарасава «Пагоркі Грунвальда» ў кнізе «Памяць пра легенды» (рускае выданне — 1990 г., беларускае — 1994 г.).

Кастусь Тарасаў у сваім апавяданні-даследаванні прыводзіць урыўкі з «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», з «Хронікі Быхаўца», тлумачыць «памылкі» Яна Длугаша, абапіраецца на кнігу С. Кучынскага «Вялікая вайна з крыжацкім законам у гадах 1409–1411» (Варшава, 1960, 2-е выданне).

Усе гісторыкі старажытнасці рэстаўруюць падзеі вайны, прыпісваючы асаблівае геройства на карысць «сваіх»: аўтары літоўскіх і беларускіх хронікаў — на карысць Вітаўта, аўтары польскіх гістарычных кніг — на карысць Ягайлы.

Калі я працавала ў музеі Максіма Багдановіча, да нас часта заходзіў сын ваяўнічага роду беларускіх татараў Юсуф Крыніцкі. Ён ведаў пра Грунвальд з татарскіх хронікаў і з успамінаў, якія перадаваліся ад дзядоў і ўнукаў, бо воіны з роду Крыніцкіх удзельнічалі ў Грунвальдскай бітве. Юсуф казаў, што ў паходзе супраць немцаў удзельнічалі не дзве, а тры арміі. Татарская армія хана Джэлаладдзіна налічвала 15 тысяч.

Коні ў татараў былі малыя, вынослівыя. Татарскія воіны мелі браню і гнуткія шаблі.

З аповеда Кастуся вынікае тое самае, калі ён піша пра паход на Мальбарк пасля разгрому войскаў вялікага комтура:

«...*Вітаўт настойваў неадкладна пасласць наймені стомленыя харугвы да ордэнскай сталіцы і, карыстаючыся адсутнасцю ў ёй абаронцаў, захапіць. Прапанаваў выправіць туды татараў Джэлаладдзіна, якія ставерставы паход здзейсняць хутчэй за іншых. Але пасыльцы татарскай конніцы Ягайла запярэчыў: накіро-*



У залах выставы.

*ўваць на Мальбарк язычнікаў хрысціянскаму каралю не да твару...*

*...Рухаліся вельмі марудна — сто вёрст ішлі тыдзень, і гэтая павольнасць падкасіла незвычайную ўдачу бітвы...»*

(Усе цытаты і далей я бяру з апавядання Кастуся Тарасава «Пагоркі Грунвальда».)

Не палякі з літоўцамі адабралі ў нас гісторыю перамогі над немцамі каля Грунвальда. Мы самі адракліся ад яе, аддалі нашым суседзям.

Але Грунвальдская бітва адбылася, і гэты факт не адменіш маўчаннем. Нашы продкі там ваявалі.

Некалькі пакаленняў выхоўвалі дужых, мужных, смелых, вынослівых воінаў, вучылі любіць родную зямлю, быць аддамымі камандзіру і вялікаму князю. Вучылі ваяваць.

40 харугваў сабраліся ў Гародні з усіх закуткаў княства, якое сапраўды было Вялікім: акрамя беларускіх, выступалі віленскія, смаленскія і ўкраінскія палкі.

Як іх праводзілі і як чакалі мамы і сёстры, і большасць з іх палегла на тых пагорках каля дубоў!

Як яны выглядалі?

Мастакі спрабуюць намаляваць іх вобразы, карыстаючыся сваім талентам.

У маі — якраз у гэткі час выводзіў Вітаўт з Гародні сваё войска — у навукова-метадычным цэнтры ў Гародні адбывалася выстава мастака-самавука Дзмітрыя Іваноўскага. Сярод пейзажаў першароднага ў тумане бору было некалькі карцінаў пра паход на Грунвальд. Дзмітрый Іваноўскі як патрыёт сваёй краіны выйшаў за рамкі традыцыйнага пейзажу — і добра ў яго атрымалася!

Адкрыццё выставы ў Новым замку, у сенатарскай зале, 15 ліпеня ператварылася ў прыгожае свята інтэлігенцыі. Рыхтавала выставу «Іканаграфія Грунвальдскай бітвы» загадчыца мастацкага аддзела, кандыдат філасофскіх навук Святлана Янчалоўская. Была важкая падстава для такой выставы — у музеі ёсць сапраўдны меч з пачатку XV стагоддзя! Гэты меч і заняў сваё пачэснае месца ў зале.



Ян Матэйка.
«Ягайла і Вітаўт перад бітвай пад Грунвальдам».

У аддзеле старажытнай кнігі ў добрым стане захаваліся рарытэты: «Хроніка Еўрапейскай сарматыі» (Кракаў, 1611), «Гісторыя крыжакоў» Леана Рагоўскага (Варшава, 1846), «Песні з паданняў Літвы» (Вільня, 1845 і 1846), «Польскія хронікі» Марціна Бельскага (Кракаў, 1591), «Крыжацкія харугвы» Яна Длугаша (Кракаў, 1851) і «Крыжакі і Польшча» Яна Длугаша (1845). Гравюры, якімі ўпрыгожвалі старажытныя аўтары свае гістарычныя кнігі, дэманструюць праўду гісторыі як дакументы. Яны і выконвалі функцыю дакументаў. І экспанаваліся як творы мастацтва.

На выставе яны змяшчаліся на галоўнай сцяне вакол мяча.

...Насталі часы, калі Польшча страціла сваю незалежнасць. І тады польская культура, асабліва выяўленчае мастацтва, узяло на сябе патрыятычна-выхаваўчую функцыю. Карціны гэтага плану займалі правую сцяну залы.

...Святлана Янчалоўская старанна шукала тэму Грунвальда ў Інтэрнэце і пісала лісты ў музеі Літвы, Польшчы, Украіны, Чэхіі. У лістах яна прызнавалася, што сродкаў на выставу не мае. «Пазычыць» у Гародню арыгінальныя творы музейшчыкі адмаўляліся, але ўсе дазволілі зрабіць копіі ў гродзенскім фотацэнтры «Мега» — вялікія каляровыя фатаграфіі на палатне, у прыгожых багетных рамах маюць пераканаўчы выгляд.

Вось знакамітая праца Яна Матэйкі «Бітва пад Грунвальдам» (1875–1878 гг.) з Нацыянальнага музея ў Варшаве.

У цэнтры бою — кароль Ягайла ў чырвоным плашчы, ён і яго конь як бы ўзвышаюцца над сечаю. Над яго галавой у нябёсах ззяе абраз святога кракаўскага біскупа пакутніка Станіслава. Злева ад Ягайлы таксама ўзвышаецца над сечаю фігура вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена. Тут пераважае цёмна-сіні каларыт, а перад ім з чырвоным мяшком на галаве — палач з сякерай, але і татарскі хан тут:

«*Нечакана Юнгінген убачыў перад сабой смуглы твар пад пазалочаным шлемам, раскосыя вочы глядзелі на яго з халоднай цікаўнасцю ката, які вырашае, як лепш нанесці ўдар. І гэты прысудны позірк апаліў магістра. Ён ускінуў насустрач баявому тапару хана Багарадзіна свой меч, але здрыганулася сэрца, не паслухалася рука, і Юнгінген спазніўся — бліскучая стальная пласціна хутка наблізілася да вачэй і аказалася пякельна халоднай, ён адчуў ледзяны дотык і ўсё, што трымала памяць з дзяцінства, пачало разбурацца, драбніцца і знікаць*», — гэтак піша Кастусь Тарасаў.

Экспанавалася і яшчэ адна карціна Яна Матэйкі — «Ягайла і Вітаўт перад бітвай пад Грунвальдам» (Кракаў, 1855 г., Нацыянальны музей у Варшаве). На ёй Ягайла моліцца ў глыбокай задуме. Вітаўт над ім разводзіць рукамі, поўны рашучасці і прыкрасці: не час маліцца, калі немцы заступілі дарогу, каб біцца... Ягайла просіць у супольнікі сілы нябёсаў супраць ордэна, які ў прагненні заваёваў страціў святасць.

(Святлана Міхайлаўна з захапленнем апавядала, як яна ў Інтэрнэце знайшла творы мастацтва, пра якія не ведала...) Вось праца Зыгмунта Развадоўскага і Тадэвуша Попела «Бітва пад Грунвальдам» (1910 г., Кракаў). Да 500-годдзя Грунвальдскай бітвы была створана гэтая карціна, тады ж быў пастаўлены помнік Грунвальдскай бітве ў Кракаве. Цяпер карціна знаходзіцца ў Львоўскім гістарычным музеі, а галоўны захавальнік фондаў прыехала ў Гародню на адкрыццё выставы.

Зыгмунт Развадоўскі і Тадэвуш Попел былі вучнямі і паслядоўнікамі Яна Матэйкі. Яны намалявалі прыгожы вобраз вайны — прыгожыя дрэвы, жоўтыя, чырвоныя нябёсы, цемра ў цэнтры, дзе адбываецца бойня...

На пярэднім плане — выразныя постаці: пешага ваяра, які замахнуўся мячом на вялікага магістра. Некалькі забітых, адзін — на белай падсцілцы, замаляванай крывёю. Злева, мусіць, дзе ваююць польскія харугвы, вялікая прастора карціны зачырвоненая, нібы там пачынаецца захад сонца. На даляглядзе не лес, а коп'і, дзіды, мячы, постаці бітвы. Пейзаж, на якім яснымі колерамі буйна красуецца смерць, жахлівая ў сваёй прыгажосці.

Кастусь Тарасаў апісвае гэтую карціну так:

«*На Грунвальдскіх пагорках крыжакоў заганялі ў два вялізныя „катлы“, сценкі якіх таўсцелі, абрасталі татарамі, польскай, літвінскай пяхотай,*





Павел Татарнікаў.
Ілюстрацыя да кнігі Алеся Краўцэвіча «Рыцары і дойліды Гародні».

*коннымі атрадамі і сталі непрабіўнымі. Войска ордэна танула ў гэтых „катлах“, і ўжо ніякая сіла не здолела б яго выратаваць... Пятля зацягвалася, як сілок...*

*...Немцаў сціскалі, заганялі ў гурт і секлі. Ад усіх ордэнскіх зямель, якімі яны прагнулі валодаць, застаўся ім у гэты час насычаны крывёй пятачок, дзе нястомна працавала смерць...»*

«Уся гісторыя — міфалагізаваная інтэрпрэтацыя праўды. А мастацтва — гэта інтэрпрэтацыя інтэрпрэтацыі», — кажа Святлана Міхайлаўна мне ў прыватнай размове.

У XX стагоддзі рамантызм саступае месца постмадэрнізму, мастацтва выконвае функцыі экзістэнцыяльнага паглыблення ў асобу, пошукі індывідуальных магчымасцяў творцы, праяўлення яго думкі, пачуцця, бачання і веры — не цялеснымі вачыма, але вачыма душы. Розум падпарадкоўваецца ўяўленню і чуе тое, што нечуванае, і бачыць тое, што незаўважнае. Як у сне ці ў час любоўнага спаткання...

На выставе было некалькі такіх каляровых копіяў карцін з Польшчы, Літвы і Чэхіі.

Уражвае карціна Шарунаса Саўкі — «Бітва пад Таненбергам» (1987 г.). Усё палатно займаюць галовы, галовы, галовы, шчыльна прыціснутыя адна да адной...

На карціне Войцеха Коссака «Бітва пад Грунвальдам» (1931 г., Музей войска польскага ў Варшаве) — чэравы коней, воіны, якія абчапілі дрэвы. Вецер, змрок, жах, адчай. У смерці няма хараства...

Карціна Альфонса Мухі «Пасля Грунвальдскай бітвы» (1924 г., Прага, Музей замка Мараўскі Крумлоў). Вялікі князь Вітаўт у цэнтры стаіць, як дуб. Ззаду за ім б'юцца жывыя, іх ужо няшмат. Спераду перад ім — пасечаныя, гара нежывых. Змрок на зямлі і ў небе. Вузкая паласа святла паміж мёртвай зямлёй і закураным небам.

Альфонс Муха жыў у Парыжы, быў тыповым прадстаўніком мадэрнізму. Вярнуўшыся ў Прагу, стварыў музей банкнотаў. Намаляваў герб Чэхіі. Напісаў цыкл карцінаў «Славянская галерэя», сярод якіх і палатно «Пасля Грунвальдскай бітвы».

*«Вялікі князь увесь бой знаходзіўся сярод палкоў. Ужо даўно мінуў апоўдзень, ужо зямля, насычаная крывёй, пачала зыбацца пад нагамі, ужо ад бясконцай працы сякерамі і мячамі абсыхаў на ваярах дзесяты пот, ужо многія, стаміўшыся трымаць зброю адной рукой, кідалі шчыты і секліся двуручна, — Вітаўт стомленасць не адчуваў. Толькі голас надарваўся, але хрыплыя воклічы князя дзейнічалі на харугвы падобна сігналу трубы. Вакол яго грымела сеча — крыкі, стогны, хрыпы, маленне, віск, лямант — і смерць... нацэльвала дзіды, стрэлы, тапары на тых, каго жадала ўзяць сёння да сябе»*.

Гісторыкі ўвесь час даследавалі гэтую тэму, у тым ліку і беларускія гісторыкі — У. Пашута, А. і М. Каяловічы...

Увесь мінулы век простыя беларусы не ведалі пра такую падзею. Мы раслі без Грунвальда...

Гаўрыла Вашчанка ў 1985 годзе напісаў вялікую карціну «Грунвальдская бітва». Цяпер гэты твор знаходзіцца ў Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Карціна больш спакойная ў колерах. Мастак пастроіў палкі перад сечай на невялікай адлегласці, лоб у лоб, пакінуўшы паміж імі лапік зямлі. На пярэднім плане ён стварыў некалькі постацяў воінаў — параненых,

забітых. Адзін у лёгкай кальчузе з узнятым мечам... Сеча адбываецца на дальнім плане, у глыбіні, аж да нябёсаў.

Каляровая літаграфія Міхася Басалыгі «Грунвальдская бітва» (1989 г.) захоўваецца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. На цэнтральнай частцы трыпціха ідзе бой. Справа і злева — конныя харугвы. Прыгожы лагічны твор...

Абодва мастакі — і Гаўрыла Вашчанка, і Міхась Басалыга — прысутнічалі на адкрыцці выставы. Музей ветліва запрасіў, па іх паслалі машыну, прывезлі і адвезлі. Вядома, гарадзенцы ўдзячныя ім за іх грамадзянскую пазіцыю і за прыезд у Гародню.

...Нядаўна з'явілася кніга Алеся Краўцэвіча «Рыцары і дойліды Гародні» (2009 г., Гародня–Вроцлаў), ілюстрацыі да якой выканаў мастак Павел Татарнікаў, — ён стварыў панараму войскаў перад пачаткам бітвы і вобраз вялікага князя Вітаўта.

Гродзенскія мастакі таксама адгукнуліся на запрашэнне музея прыняць удзел у выставе.

Палатно Валянціны Шобы «Белыя плямы гісторыі» (2009 г.).

На ім — рыцар на белым кані, але без галавы. Контуры карты Беларусі, белай плямы, а ў самым сэрцы яе — каляровая шчыліна; Беларусь чакае, што белыя плямы з мінулага будуць запоўненыя...

Мастачка Вікторыя Ільіна стварыла дзве карціны — «Гродзенскі замак» і «Пагоня». На іх — змрочны замак, які пакінула войска, постаці вершнікаў сярод буйнай расліннасці, дрэваў і кустоў...

Алесь Сільвановіч у сваім міфалагічным стылі стварыў «Штурм Магдэбурга»...

Кампазітар Ганна Кароткіна выканала на фартэпіяна з літаўрамі фантазію «Грунвальд». Пасля ўрачыстасцяў у Новым замку арганны канцэрт Ганны Кароткінай адбыўся ў катэдры Францішка Ксавэрыя — гэта была своеасаблівая малітва музыкі.

Выстава ў сенатарскай зале будзе працаваць да восені.

Перад адкрыццём выставы ў замку аматары гісторыі і культуры сабраліся ва ўнутраным дворыку перад прыватнай галерэяй Марысі Мацко «Крыга» на адкрыццё выставы «Грунвальд».

Паслухалі «Багародзіцу» на старой беларускай мове, канцэрт для дудкі з бубнам старажытных беларускіх музычных твораў. Юнак стаяў на сонцы ў рыцарскіх даспехах, і ўсе разумелі, якімі магутнымі былі нашы продкі, — яны ў такі ж летні дзень у такой брані ваявалі...

Выстава «Грунвальд» атрымалася стракатая, але яна прыцягвае гледачоў, якія цікавяцца гісторыяй.

Валерый Страповіч стварыў партрэты ў поўны рост, у даспехах, вялікага князя Вітаўта і вялікага магістра Юнгінгена. Яны нагадваюць казачных вясёлых герояў.

Цікавыя творы Пятра Янушкевіча і Станіслава Кічка. Запамінальны абстрактны вобраз князя ў цэнтры бітвы на карціне В. Руткоўскага. Сярод мастакоў Польшчы, звязаных з Гродзеншчынай, працуе Яніна Бажэна Алекса, якая замужам за сваяком Марысі Мацко. Яна вучылася маляваць прыватна — у Рыме, у старога мастака польскага паходжання. Піша копіі цудоўных абразоў Маці Божай Чэнстахоўскай.

На выставе дзве работы Бажэны ў стылі прымітывізму: «Сведка гісторыі» — дуб, і «Бітва»: некалькі вершнікаў ваююць каля дуба, і кожны мае свайго ворага. Кожны двубой адбываецца на асобнай прасторы. Усе пары змагароў адрозніваюцца колерамі — зялёны вершнік і конь, чырвоны, жоўты, руды...

Графік Тамаш Аўдзейчык — віцэ-старшыня Таварыства польскіх пластыкаў у Варшаве, яго дзяды паходзяць з-пад Свіслачы. У «Крызе» экспанаваліся дзве яго працы — «Святыя» і «Пакута»; светла-змрочны дыптых, у якім перададзены стан душы мастака і душаў ваяроў той далёкай бітвы. Яны ўсе адпакутавалі ў той бойцы, павінны быць апраўданыя Богам і занесеныя ў шарэнгі магутных заступнікаў айчыны. Жывыя за іх нясуць пакуту. Жывыя моляцца да іх як да святых...

Наведвальнікі найбольш цікавіліся творамі мастака Аўдзейчыка.

У завяршэнне тэмы можна назваць пейзаж Вацлава Спорскага «Грунвальд — рэха вялікай перамогі». На ім — ясны, сонечны, спакойны краявід пагоркаў, акаймаваны даляглядам дрэваў. Камяні на тым месцы, дзе мастакі-баталісты малююць паміраючых ваяроў. І ў цэнтры карціны — помнік бітве, пастаўлены ў 1960 годзе.

Вось так адзначалі ў Гародні 600-годдзе перамогі ў Грунвальдскай бітве...

Хвала і пашана ўсім удзельнікам выставы, аўтарам, якія ў сілу сваіх магчымасцяў далучыліся да гэтага вялікага свята, выйшлі наперад у будучыню, вярнуўшыся ў мінулае, калі беларусы, літоўцы, палякі, украінцы і тутэйшыя татары, аб'яднаныя ў змаганні за незалежнасць, здабылі перамогу.

Дзякуй Святлане Янчалоўскай і Марысі Мацко.

*Данута Бічэль.*

# ПРАБЛЕМАТЫКА ТВОРЧАСЦІ І СВЕТАПОГЛЯДУ АЛЯКСАНДРА РЫПІНСКАГА




Творчая дзейнасць пісьменнікаў эпохі маладога беларускага рамантызму і да сёння не знікае з працаў даследчыкаў літаратуры XIX стагоддзя. Зразумела, польскамоўнае культурнае асяроддзе і дзяржаўная палітыка, скіраваная супраць паасобных народнасцяў Расійскай імперыі, не спрыялі абуджэнню пранацыянальных думак, аднак творчасць перыяду паўстання 1830—1831 гадоў сведчыць пра нараджэнне новага пакалення людзей, для якіх усё, што сваё, мела вялікае значэнне.

Захапленне народнай творчасцю асаблівым чынам выявілася ў аўтараў-рамантыкаў, сярод якіх найбольш адметныя паэт і фалькларыст Ян Чачот, пісьменнік Ян Баршчэўскі, а перадусім этнограф і паэт Аляксандр Рыпінскі.

Праз прызму творчасці і светапогляду А. Рыпінскага можна назіраць нараджэнне нацыянальных ідэяў, шчырую прыхільнасць да народнай творчасці, жаданне пісьмова зафіксаваць асаблівасці беларускай мовы, але разам з тым і супярэчлівае ўспрыманне Беларусі як адной з польскіх правінцыяў, жаданне пісаць па-польску, звязанае з разуменнем беларускай мовы як неапрацаванага дыялекту. Дык на колькі можна лічыць А. Рыпінскага *беларускім* паэтам і этнографам?

Аляксандр Рыпінскі гербу Радван нарадзіўся каля 1811 года на Віцебшчыне. Сярод магчымых месцаў нараджэння даследчыкі называюць Бялосцу пад Віцебскам, Кукавячына або Стайкі. Пісьменнік паходзіў са старадаўняга беларускага шляхецкага роду, які вядзе свой пачатак з XVI стагоддзя. Продкі А. Рыпінскага былі вядомымі палітычнымі, рэлігійнымі і вайсковымі дзеячамі. Адным з найбольш значных з'яўляецца полацкі арцыбіскуп Багдан-Тэафан Рыпінскі (*Рпіньскі*, як пісалі раней), вядомы духоўнік Сярэднявечча, які памёр у 1588 годзе. І хоць некаторыя гісторыкі лічаць продка паэта праваслаўным, сам ён паказваў сябе як руплівы католік. Выхоўваўся А. Рыпінскі ў дзедаўскім маёнтку Стайкі, што каля Віцебска, дзе яго бацька Фелікс служыў мясцовым старастам.

Ужо ў раннім юнацкім узросце будучы паэт пачаў рабіць фальклорныя запісы, захапіўся вершаскладаннем і перакладамі. Атмасфера Віцебскай гімназіі, дзе ён вучыўся як найбольш спрыяла гэтаму. Агульнае захапленне краязнаўствам, народнымі абрадамі, спевамі, а таксама сустрэча з Янам Ходзькам і Тамашом Занам спрыялі ўзрастанню зацікаўлення юнака-гімназіста народнай творчасцю. У гэты час А. Рыпінскі піша свае першыя вершы. На жаль, юнацкія спробы пяра былі згубленыя падчас падзеяў 1830—1831 гадоў. Першым вершам паэта лічыцца запіс на тытульным лісце рукапіснага зборніка яго школьнага прыяцеля Гайкі з Пнёва. Першы пераклад аўтар зрабіў у 1827 годзе («Русалка» А. Пушкіна).

Пасля заканчэння гімназіі ў Віцебску ў 1829—1830 гадах А. Рыпінскі вучыўся ў вайсковай школе падхарунжых у Дынабургу (сёння Даўгаўпілс, Латвія), але ён не захацеў стаць кадравым афіцэрам.

У Дынабургу лёс звёў будучага паэта і паўстанца з Вільгельмам Кюхельбекерам, вядомым паэтам-дзекабрыстам, які адбываў пакаранне ў мурах мясцовай крэпасці. А. Рыпінскі разам са сваімі калегамі па школе А. Пангоўскім і Т. Скрыдлеўскім дапамагаў знакамітаму вязню ў перапісванні ягоных твораў (напрыклад, згубленай сёння трагедыі «Шуйскія»), а таксама прыносіў яму розныя літаратурныя выданні. Уплыў быў двухбаковы. Часта паміж Кюхельбекерам і юнакамі адбываліся размовы пра літаратуру і культуру роднай зямлі. Нездарма ў сваім дзённіку вядомы дзекабрыст згадвае Францыска Скарыну, які пераклаў «*усю Біблію на беларускі дыялект з Вульгаты*» (запіс з 1 лістапада 1832 года).

Знакамітая постаць дзекабрыста назаўсёды застанецца ў памяці А. Рыпінскага. Падчас выбуху паўстання ў лістападзе 1830 года дваццацігадовы афіцэр А. Рыпінскі, як і частка прапаршчыкаў, атрымаў загад выступіць супраць паўстанцаў, аднак замест гэтага ён далучыўся да вызваленчага руху.

Пасля трагічнага задушэння паўстання А. Рыпінскі, жадаючы пазбегнуць рэпрэсіяў, разам з

іншымі змагарамі перабіраецца ў Прусію. У 1832 годзе ён піша верш-развітанне «*Да Польшчы на апошняй мяжы княства Пазнанскага каля Мальбурга (у дарозе да Францыі)*».

Спачатку А. Рыпінскі кіруецца ў Авіньён у Францыі, а з 1832 па 1846 гады жыве ў Парыжы.

У парыжскі перыяд дзейнасці Аляксандр Рыпінскі сустракаецца з Адамам Міцкевічам. Знаёмства перараджаецца ў сяброўства, у грунце якога ляжыць любоў да сваёй зямлі. А. Рыпінскі апынаецца ў Парыжы сярод такіх знакамітых прадстаўнікоў грамадска-культурнага жыцця эміграцыі, як Ю. Нямцэвіч, С. Канарскі, А. Плятар, І. Лялевель. А. Рыпінскі плённа працуе і ў 1836 годзе выдае фрагменты ўспамінаў аб паўстанні 1831 года пад назвай «*Паўстанне Вілейскага, Завілейскага і Дзісенскага паветаў*». Ён праводзіць таксама навуковыя даследаванні ў галіне этнаграфіі, у выніку якіх з'яўляюцца «Выпісы польскіх гарадоў і вёсак, запісаных у творы Нарбута „Гісторыя старажытнай Літвы“».

У гэты перыяд жыцця А. Рыпінскі супрацоўнічае з Таварыствам земляў літоўскіх і рускіх (беларуска-ўкраінскіх), якое ўзнікла ў Парыжы пасля паразы паўстання. Літоўскім Таварыствам кіравалі ў большасці нашыя землякі — Л. Ходзька, А. Плятар, А. Міцкевіч, І. Лялевель. Побач з развіццём рэчпаспалітаўскага дэмакратызму, звязанага з новай эміграцыйнай хваляй 30-х гадоў у культурным асяроддзі Парыжа нараджаюцца роздумы аб нацыянальнай самасвядомасці. Адзін са сшыткаў А. Рыпінскага падпісаны так: «*Аляксандр Рыпінскі. Беларус*». Вядомы літаратуразнаўца Я. Янушкевіч называе гэты факт «*беспрэцэдэнтным фактам у гісторыі самаакрэслення нацыянальнасці*».

Аляксандр Рыпінскі дзейнічае таксама як член французскай Акадэміі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. Разам з Ф. Ходзькам ён адкрыў сваю мастацкую краму. Знакавым для яго быў 1839 год, калі 21 лістапада на пасяджэнні Польскага таварыства літаратуры паэт прачытаў свой першы даклад па беларускай этнаграфіі і фальклоры. У наступным годзе на падставе ўласных лекцый ён апрацаваў і выдаў асобнай кнігай фальклорныя даследаванні, у якіх упершыню была прааналізавана і сістэматызавана вусная творчасць беларускага народа. Кніга атрымала назву «*Беларусь. Некалькі словаў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі, аб яго музыке, спевах, танцах і г. д.*». Даследчык, выкарыстоўваючы шмат жывога фальклорнага матэрыялу (абрадавыя, народныя, рэлігійныя творы), даў сваю характарыстыку творчасці простага люду.

Паўстанне 1848 года ў Францыі, якое прывяло да стварэння Другой Рэспублікі, і змена палітыкі адносна выгнанцаў з іншых краінаў змусіла шматлікіх эмігрантаў шукаць новае месца жыхарства, і ў 1849 годзе Аляксандр Рыпінскі апынуўся ў Лондане, а дакладней, у Тотэнгаме, маленькім горадзе на паўночнай ускраіне Лондана, сённяшнім прыгарадзе. Там А. Рыпінскі займаецца творчай, выдавецкай і педагагічнай дзейнасцю. Ён выкладае матэматыку, мовы і маляванне. У сувязі з вялікай колькасцю эмігрантаў узнікла вялікая патрэба ў настаўніках, асабліва замежных моваў. А. Рыпінскі знайшоў працу ў *Eagle House School*, недалёка ад West Green. Сярод яго вучняў было шмат іншаземцаў, якія часта прыходзілі ў школу, не ведаючы ні слова па-англійску. Кіраўнік школы Эндрю Прайс наняў А. Рыпінскага як выкладчыка французскай мовы і малявання.

У 1851 г. паэт жыў у невялікім доміку на *3 Chances Row* разам з іншым выгнанцам, сваім прыяцелем С. Руткоўскім. У гэты час А. Рыпінскі знаёміцца з Ю. Пшыемскім, таксама паэтам, некаторыя вершы якога этнограф змяшчае ў прадмове да адной са сваіх польскамоўных паэмаў.

У 1852 годзе А. Рыпінскі жыве ў доме на *5 Grove Place*, за некалькі крокаў ад школы, дзе працуе. У гэтым доме ён разам з І. Яцкоўскім робіць невялікую вольную друкарню.

З кастрычніка 1852 года ў друкарні А. Рыпінскага выходзіць польская эміграцкая газета «Demokrata Polski» («Польскі дэмакрат»). Зборнік «Сяржант-філосаф...» выходзіць у 1854 годзе, як і кніга І. Яцкоўскага «Аповесць майго часу, або Літоўскія прыгоды», дзе быў змешчаны вядомы верш П. Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Лічыцца, што ў эміграцыі было выдадзена некалькі дзесяткаў кніг А. Рыпінскага. У Лондане выходзяць таксама тры выданні яго беларускамоўнай рамантычнай балады «Нячысцік». Трэцяе выданне аўтар узбагаціў сістэмай націскаў для правільнага вымаўлення беларускіх словаў.

Літаратура не была адзіным захапленнем Аляксандра Рыпінскага. Паэт пачынае займацца дагэтуль не распаўсюджанай мастацкай фатаграфіяй. У 1867 г. ён нават рэкламуе сябе як прафесійнага фатографа. Акрамя гэтага, ён стане нядрэнным мастаком.

Дарэчы, на месцы школы, дзе ён працаваў, знаходзіцца тэхнічны каледж. Дом Рыпінскага на *5 Grove Place* яшчэ існуе. У Тотэнгамскім музеі захоўваецца некалькі гравюраў А. Рыпінскага, а таксама пасведчанне, якое ён даў аднаму з вучняў.

Амністыя 1856 года дазволіла А. Рыпінскаму вярнуцца на Радзіму. Пад наглядам паліцыі з 1859 года ён жыў у в. Кукавячына на Віцебшчыне ў свайго брата Віктара, а потым пераехаў да сваячкі ў маёнтак Страганы. У гэты час А. Рыпінскі працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры і біяграфіямі пісьменнікаў беларусаў. Гэтыя працы таксама, на жаль, не захаваліся. Пад ягоным пяром ажылі вобразы Я. Баршчэўскага, Г. Марцінкевіча, Ф. Рысінскага, В. Рэўта, Т. Заблоцкага. У гэты перыяд А. Рыпінскі вядзе актыўную перапіску з А. Плугам, пісьменнікам і публіцыстам, а таксама робіць свае запісы ў «Альбоме» А. Вярыгі-Дарэўскага. Паэт падтрымлівае маладых мастакоў і літаратараў Беларусі

і Літвы. За гады працы А. Рыпінскі стварыў багаты архіў твораў беларускай культуры XVIII—XIX стст., якія, на жаль, цалкам не захаваўся. Ацалелыя рукапісы данеслі да нас цікавыя звесткі аб асобах айчыннага пісьменства.

Дажыўшы амаль да дзевяностагадовага веку, А. Рыпінскі памірае на Віцебшчыне каля 1900 года.

Балада «Нячысцік» упершыню была надрукаваная ў 1853 г. у Лондане ў зборніку «Вершаваныя творы». У тым самым годзе з намерам выдаць баладу на землях Расійскай імперыі А. Рыпінскі даслаў яе тэкст у Санкт-Пецярбургскі цэнзурны камітэт, але ў выданні твора яму было адмоўлена. Балада яшчэ двойчы перавыдавалася за мяжой з невялікімі зменамі, але пытанне наконт месца выдання гэтых варыянтаў застаецца адкрытым, хоць матывацыя літаратуразнаўцы М. Хаўстовіча, што балада «Нячысцік» выходзіла толькі ў Лондане, здаецца пераканаўчай. Дакладна вядома, што да 1971 г. твор не выходзіў на старонках айчынных выданняў.

Балада надрукаваная па-беларуску лацінскім шрыфтам. Яе мова — «*узор таго звонкага, напалову польскага дыялекту, які калісь быў дзяржаўнаю моваю амаль усяе Літвы, дзе і сёння яшчэ значная частка польскага люду на ім гаворыць*». Гэтыя словы змешчаныя на пачатку твора ў першым яго выданні ў зборніку «Вершаваныя творы». Сам аўтар «Нячысціка» ў сваёй прадмове да балады казаў: «*Просты люд тае даўняе нашае польскае правінцыі, якога на няшчасце Айчыны нашай уладальнікі, маючы ўсё дзеля гэтага, не хацелі нават навучыць польскай мове, спявае на сваім уласным дыялекце нейкую песеньку пра дзіўнага хлуса Мікіту*». Вобраз Мікіты А. Рыпінскі пазычыў з народных спеваў, аднак не перапісаў іх сюжэт, а надаў вобразу больш глыбокі сэнс.

У творы адчуваюцца пэўныя рысы рамантычнай балады. У жанравым плане ён набліжаецца да народнай гутаркі, але некаторыя даследчыкі, як Э. Урублеўская, далучаюць яго да жанру сатыры і лічаць, што баладны стыль выкарыстаны аўтарам з мэтаю пэўнай парадыйнасці.

Балада распачынаецца ўступам, пасля чаго даецца само апавяданне пра Мікіту, Мікіціху і чорта. Мікіта з жонкаю жылі ўдваіх, дзяцей не мелі, багатымі не былі: з усяе маёмасці быў у іх адзін толькі парсюк. Калі ўсе людзі забівалі сваіх парсюкоў на каўбасы, Мікіта вырашыў яшчэ крыху падгадаваць свінню, каб потым лепш яе прадаць.

Калі пачаўся пост, нячысцік падбіў Мікіціху забіць свінню, каб нарабіць каўбасаў ды смачна наесціся. Жанчына змусіла Мікіту, і той згадзіўся. Парсюка забілі, каўбасаў нарабілі. Не хапала толькі выпіць. Мікіціха пасылае мужыка ў карчму, каб купіць пляшку гарэлкі, а сама пачынае нечым займацца. У гэты час нячысцік крадзе і мяса, і каўбасы. Мікіціха пачынае праклінаць Мікіту, жадаючы яму смерці, і па яе словах усё спаўняецца. Аднак і сама Мікіціха разам з хатаю правальваецца скрозь зямлю і трапляе ў пекла.

На заканчэнне твора аўтар робіць выснову: «*Я запісаў ту штуку // Тым жоначкам на навуку, // Што скаромнае так любяць // А такіх у нас нямала...*

Літаратурная вартасць балады ацэньваецца па-рознаму. Частка літаратуразнаўцаў не заўважае ў «Нячысціку» ні мастацкага, ні ідэйнага багацця. Сярод іх варта згадаць словы М. Гарэцкага: «*Баляда «Нячысцік» не мае літаратурнай вартасці з боку ідэйнага, бо аўтар яе зусім няўдала, наіўна карыстае з народных забабонаў, яна і па спосабу напісання стаіць... даволі нізка*». Савецкія крытыкі дадавалі да аналізу твора ідэі класавай барацьбы: «*устоі прыгонніцтва былі для Рыпінскага вечнымі і непарушнымі*», а галоўную думку твора абмяжоўвалі жаданнем аўтара «*не ўзнімацца вышэй міфалагічнага светаразумення*» (С. Майхровіч). Іншыя даследчыкі лічаць, што ідэя твора зводзіцца да «*прымітыўнага павучэння, як трэба жыць простаму чалавеку*». П. Кошман звяртае ўвагу на тое, што твор напісаны «*жывой вобразнай мовай*», але дыдактычны сэнс «Нячысціка» бачыць вельмі проста: «*Тым жонкам на навуку, // Што скаромнае так любяць, // За кілбасу душу губяць*».

У артыкуле Я. Янушкевіча даецца іншы погляд на твор А. Рыпінскага: «*яго паэзіі характэрна дыдактычная накіраванасць, апісальна-апавядальны стыль*». Мараль балады крытык вызначае паводле радкоў: «*Нішто ўжо ім не грэх, // Бог і цэркаў пайшлі ў смех!*». Эміграцкія даследчыкі, як, напрыклад, Г. Пікарда, хоць не бачаць у «Нячысціку» маралі, аднак пагаджаюцца, што «*мова твора добрая і досыць чыстая, а змест поўны сімпатыі да сялянства*».

Даследчык літаратуры XIX ст. М. Хаўстовіч звяртае ўвагу на недакладнасць публікацый твора ў хрэстаматыях, што «*збядняе наша ўспрыняцце і балады, і А. Рыпінскага як творчае асобы*». Даследчык аналізуе эпіграфы, а таксама некаторыя радкі, якія не ўвайшлі ў «афіцыйныя» тэксты балады. Гэта дапамагае адкрыць сапраўдны, як піша М. Хаўстовіч, «патаемны» сэнс твора. На значэнне эпіграфаў у баладзе А. Рыпінскага звяртае ўвагу і даследчыца А. Кавальчыкова.

На думку М. Хаўстовіча, гэта твор «пра „мікітаў“, якія адно могуць хлусіць, ашукваць, перакладваць сваю віну на іншых, <...> пра паралізаванага чалавека, беларуса», які не можа быць «гаспадаром на сваёй зямлі».

Твор А. Рыпінскага «Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewach, tancach etc.» («Беларусь. Некалькі словаў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі, аб яго музыцы, спевах, танцах і г. д.») выйшаў у свет у Парыжы, у польскай друкарні Я. Марыльскага ў 1840 годзе.

Выданню кнігі папярэднічала, папершае, праца юнака А. Рыпінска-

га па зборы беларускага фальклору падчас вучобы ў Віцебскай гімназіі, па-другое, сустрэча з В. Кюхельбекерам падчас навучання ў Дынабургу, дзе А. Рыпінскі пранікся патрыятычным духам.

«Беларусь...» твор двухмоўны. Аналіз і разважанні А. Рыпінскага напісаны па-польску, як і некаторыя спевы, а фальклорны матэрыял запісаны па-беларуску лацінскім шрыфтам з дакладным пазначэннем беларускага гучання (нескладовае «у», мяккасць).

Сваё этнаграфічнае даследаванне аўтар распачынае эмацыянальным уступам, дзе выказвае пашану да А. Міцкевіча і Я. Залескага як пачынальнікаў рамантычнага напрамку ў літаратуры.

На пачатку сваёй працы А. Рыпінскі прапануе чытачам разважанні з галіны тапаграфіі, гісторыі, рэлігіязнаўства і мовазнаўства. Найбольш цікавымі для нас з'яўляюцца думкі пра адметнасць беларускай мовы.

Раздзел «Спевы» аўтар прысвячае самім даследаванням. Пасля ўводзінаў у «спеўнасць» беларусаў А. Рыпінскі размяшчае чатыры блокі спеваў рознай тэматыкі. Першы блок называецца «Рэлігійныя» (спевы). Аўтар побач з вядомымі польскімі тэкстамі змяшчае беларускія. Этнограф зазначае вартасць і змястоўнасць спеву «*О! мой Божэ, веру табе...*». Далей А. Рыпінскі разглядае калядныя спевы, параўноўваючы пры гэтым польскі і беларускі варыянты. Не пакідае без увагі і валачобныя спевы, дзе падкрэслівае ролю «пачынальніка», які сольна пачынае народны велікодны абрад, а таксама ролю «механошы», які збірае і носіць валачобнае «свянцонае».

Блок «Вясельныя» (спевы) распачынаецца ўступам аб ролі сям'і як фундаменту функцыянавання гаспадаркі. Аўтар даводзіць да чытача парадак вяселля, дадаючы да кожнай яго часткі спевы. Для прыкладу, пасля заручынаў спявалі: «*Чаму ты Аўдотка ня плакала, // Як цябе маладу заручалі: // Залатыя пярсцёнкі перамянялі, // Горкою гарэлкай запівалі, // Салодкім пернічком закусывалі?*»

Наступны блок спеваў мае назву «Жалобныя» (спевы). Аўтар размясціў у ім народныя творы, звязаныя з пахавальным абрадам. А. Рыпінскі падкрэслівае асаблівасці беларускага «галашэння». Цікавай адметнасцю гэтага блоку з'яўляецца жаданне аўтара параўнаць беларускія спевы з творамі старажытнай Грэцыі: «*жаль Брызейды над целам Патрокла; плач і галашэнне Элеўкуры ў Сафоклесе над труной яе брата Арэста: гэта той самы жаль небаракаў нашых над трунамі іх сем'яў*».

Апошні блок спеваў, запісаных А. Рыпінскім, — «Гістарычныя». Гэта спеў пра Саву, аповесць пра рыцара Байду і іншыя. Аўтар аналізуе іх паходжанне і пераказвае сюжэт, параўноўваючы з ужо вядомымі творамі на польскай мове. Гэтая частка «Беларусі...» завяршаецца подпісам «Рыпінскі, 21 лістапада 1839 г. ».

Да напісанага аўтар далучае «Дадатак», змяшчаючы ў якасці эпіграфа вядомую беларускую прымаўку*: «Узяўшыся за гуж, не кажы, што нядуж!»* У «Дадатку» змяшчае іншыя блокі спеваў: вясельныя, калядныя, працоўныя, а таксама розныя, дзе ён сабраў вялікую колькасць розных прынагодных спеваў.

Варта звярнуць увагу на спевы, якія звычайна не адзначаліся навукоўцамі: А. Рыпінскі запісаў «Спевы нянек», дзе занатаваў тое, што спявалася падчас калыхання малых дзетак.

Трэці раздзел «Беларусі...» прысвечаны танцам. Аўтар падае вялікую колькасць розных невялікіх спеваў, звязаных з танцамі, цікава параўноўвае беларускую танцавальную традыцыю з французскай і польскай.

Чацвёрты раздзел задуманы А. Рыпінскім як аповед пра народныя гульні. У пятым раздзеле даследчык запісаў песні, звязаныя з Дажынкамі, і розныя абрады. Шосты раздзел мае назву «Макаранізм», у ім змешчаны кароткія творы-пажаданні.

У наступных раздзелах А. Рыпінскі аналізуе народныя паэмы, прымаўкі і музычныя інструменты. Побач з апавядальнымі часткамі змешчаны прыклады твораў.

Увесь зборнік завяршаецца патрыятычным «Маршам», які заклікае да барацьбы «*пад Касцюшкі знакам*».

Погляды даследчыкаў на зборнік «Беларусь...» можна падзяліць на дзве катэгорыі. Да першай належаць аўтары, якія негатыўна ацэньваюць гэтую працу, а таксама амаль усё, што зрабіў А. Рыпінскі, ці нават зводзяць зборнік толькі да палітычных ідэяў. Сярод такіх навукоўцаў вызначаецца М. Гарэцкі, які адводзіць «Беларусі...» мала месца ў сваім вядомым даследаванні і выдзяляе толькі погляды А. Рыпінскага, які «*лічыў беларусаў за польскае племя, а Беларусь за польскую правінцыю*». С. Майхровіч лічыў, што А. Рыпінскі, «*пачаўшы з чыста эстэцкага любавання вуснай творчасцю беларускага народа.., дайшоў да адмаўлення яго як нацыі... Да беларусаў стаіўся як яры паланізатар, чужы і варожы...*». У. Ігнатоўскі, разважаючы над зборнікам, таксама бачыў толькі «прапольскія» погляды А. Рыпінскага, якія зводзяцца да выказвання, што «*сялянства Беларусі павінна палітычна і культурна зліцца з палякамі*».

Вучоныя гэтай групы часта падкрэсліваюць, што аўтар «*з уласцівым пісьменнікам-рамантыкам захапленнем расказвае пра вусную народную творчасць беларусаў*», але «*магчымасці развіцця беларускай культуры як самастойнай не бачыць*» (Гісторыя беларускай літаратуры, 1998, 35—36]. М. Хаўстовіч таксама заўважае гэтую супярэчлівасць пазіцыі А. Рыпінскага ў «Беларусі...», які, «*паказваючы вялікую мастацкую вартасць твораў фальклору, цураецца гэтае мовы*».

Да другой групы належаць літаратуразнаўцы, якія адзначаюць вартасць зборніка для развіцця беларускай літаратуры і каштоўнасць этнаграфічных пошукаў А. Рыпінскага. Звернем увагу на кнігу канца XIX стагоддзя, напісаную

А. Пыпіным. Глыбокі аналіз поглядаў А. Рыпінскага, ягонай працы і высновы, якія робіць даследчык, здзіўляюць сваёй незалежнасцю і рознабаковасцю. Доктар філалагічных навук І. Штэйнер таксама падкрэслівае значнасць працы этнографа, становўча аналізуе змест яго зборніка «Беларусь...»

А. Русецкі і Ю. Русецкі мяркуюць, што «*книга „Беларусь...“ является ценным достоянием национальной художественной культуры*», лічаць яе помнікам перыяду нараджэння беларускай літаратуры.

Я. Янушкевіч піша, што галоўная ідэя кнігі дасведчанымі чытачамі ці то Францыі, ці Беларусі, ці эміграцыі чыталася паміж радкоў: «*толькі з гэтага пласта* (народнай культуры. — А. З. ), *толькі з такога грунту магчыма адраджэнне Бацькаўшчыны. Спачатку культурнае. Потым — палітычнае*».

П. Кошман, аналізуючы погляды сваіх папярэднікаў, лічыць, што, нягледзячы на польскі патрыятызм беларускай шляхты, А. Рыпінскі «*душой палюбіў песні і мову беларускага народа*».

На заканчэнне згадаем таксама думку Г. Пікарды аб тым, што «*несправядліва судзіць Рыпінскага... паводле нормаў нашага часу... Рыпінскі, жывучы ў Парыжы і Лёндане, першы пачаў распаўсюджваць на Захадзе весткі аб Беларусі, яе мове і культуры*».

Дык што ж можна сказаць аб нацыянальнай самасвядомасці А. Рыпінскага? Кім ён сябе лічыў? Палякам ці беларусам? Мы гаварылі пра этнографа, які ўпершыню ў гісторыі беларускай літаратуры абсалютна выразна падпісаў свой сшытак: «А. Рыпінскі. Беларус»... Тым не менш частка вучоных, прычым большая, лічыць, што А. Рыпінскі лічыў сябе палякам, Беларусь — польскай правінцыяй, а мову беларускую — дыялектам.

Сцвярджаць нешта адназначна даволі складана, але ў творчасці А. Рыпінскага выразна назіраецца развіццё поглядаў, скіраванае ў бок прызнання сябе беларусам.

Побач з адмаўленнем А. Рыпінскаму ў «беларускасці» адной групай вучоных іншыя вучоныя выказвалі захапленне этнографам у яго карыстанні беларускай мовай. Цікавая спроба А. Рыпінскага запісаць творы лацінскімі літарамі пры дапамозе новых знакаў, якія дапамагалі дакладней перадаць беларускае гучанне словаў. Выкарыстоўваючы беларускую мову ў сваёй творчасці, А. Рыпінскі, здаецца, сам пазначыў сваю пазіцыю да беларускасці.

Праблематыка, змест і літаратурная вартасць твораў А. Рыпінскага таксама ацэненыя неадназначна. З аднаго боку, гаворыцца пра бязвартаснасць яго твораў, адсутнасць ідэі і маралі, з іншага боку, навукоўцы звяртаюць увагу на значны ўнёсак А. Рыпінскага ў аналіз народнай творчасці беларусаў, патрыятычную адвагу і глыбокі сэнс твораў.

Праблемнымі могуць быць толькі жывыя і актуальныя пытанні. Выказванне розных поглядаў на творчасць А. Рыпінскага і жывая дыскусія вакол яго спадчыны працягваюцца і сёння. Яны адкрываюць перад наступнымі пакаленнямі літаратуразнаўцаў вялікае поле для больш глыбокага аналізу, пошуку ідэйнага зместу і той вартасці, якую унёс у беларускую літаратуру Аляксандр Рыпінскі.

## Выкарыстаная літаратура


1. Januszkiewicz Jazep. Дынабург — Парыж — Лондан — Кукавячын, або яшчэ адзін жыццяпіс змагарнага XIX стагоддзя // Acta Polono-Ruthenica. — Olsztyn: Wydawnictwo Uniwersytetu Warmińsko-Mazurskiego, 2001. — VI. — S. 235–248.
2. Kowalczykowa Alina. Motto // Słownik literatury polskiej XIX wieku / Red.: Józef Bachorz, Alina Kowalczykowa. — 3 wyd. — Wrocław: Ossolineum, 2002. — S. 575–579.
3. Wróblewska Elwira. // Słownik literatury polskiej XIX wieku / Red. : Józef Bachorz, Alina Kowalczykowa. — 3 wyd. — Wrocław: Ossolineum, 2002. — S. 863–867.
4. Выпісы з беларускае літаратуры. Ч. 2. Новы і найноўшы кругабегі. — 1923. — 284 с.
5. Гарэцкі М. І. Гісторыя беларускае літаратуры. — 3-е выд. , перараб. і дап. разглядам вуснае народнае паэзіі. — Масква–Ленінград: Дзяржвыд; Мінск: 1-я друк., 1924.
6. Гісторыя беларускай літаратуры, XIX — пачатак XX ст.: Падруч. для філал. спецыяльнасцей выш. пед. навуч. устаноў / І. Э. Багдановіч, У. В. Гніламёдаў, Л. С. Голубева і інш.; Пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. — 2-е выд. , дапрац. — Мінск: Выш. шк., 1998. — 559 с.
7. Ігнатоўскі У. М. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя: лекцыі, чыт. студэнтам Бел. дзярж. ун-та. — 3-е выд., стэрэатып. — Мінск: Белдзяржвыд, 1928.
8. Кошман П. Р. Гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя: практычны дапаможнік для студэнтаў філалагічнага факультэта. — Мазыр: МДПУ, 2006. — 63 с.
9. Майхровіч С. К. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. — Выданне 2-е, папраўленае. — Мінск: Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва асветы БССР, 1959.
10. Пікарда Г. Аляксандар Рыпінскі ў Лёндане (1849–1859) // Крыніца: штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс / Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз беларускіх пісьменнікаў. — 1994. — 9. — С. 109–111.
11. Пыпин А. Н. История русской этнографии: У 4 т. — Т. 4. Белоруссия и Сибирь. — Спб. : Тип. М. М. Стасюлевича, 1892. — 488 с.
12. Русецкі А. В., Русецкі Ю. А. Александр Рыпинский: долгий путь к родным истокам // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта / ВДУ. — Віцебск: ВДУ. — 2006. — 4(42). — С. 90–101.
13. Тарэлкіна Н. В. Рыпінскі (Радван) Аляксандр Феліксавіч // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. / Беларус. Энцыкл.; Мінск, 1995. — С. 536–538.
14. Тарэлкіна Н. В. Рыпінскі Аляксандр // Беларускія пісьменнікі: У 6 т. / Рэд. А. В. Мальдзіс. — Т. 5. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі. — 1995. — С. 190–191.
15. Хаўстовіч М. В. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. XIX ст. / М. В. Хаўстовіч. — Мінск: Бел. дзярж. ун-т, 2001. — 171 с.
16. Хаўстовіч М. В. Лонданскія выданні «Нячысціка» Аляксандра Рыпінскага // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік / Пад агульн. рэд. М. Хаўстовіча. Выпуск сёмы. — Мінск: Права і эканоміка, 2006. — 204 с.
17. Хаўстовіч М. В. Паэтыка зборніка А. Рыпінскага «Вершаваныя творы» // Нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах / Ч. 2. — 2007. — 189 с.
18. Штэйнер І. Ф. Польскамоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя: вучэб. дапам. для студэнтаў філал. спецыяльнасцей, якія забяспечваюць атрыманне выш. адукацыі. — Гомель: ГДУ, 2004. — 183 с.



**Ксёндз Андрэй Зайчык** нарадзіўся 14 лістапада 1976 года ў Брэсце. У 1999 г. скончыў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 2001 г., працаваў у Бярозе, Камянцы і Баранавічах. У 2004 г. абараніў магістэрскую працу па тэалогіі ў Каталіцкім універсітэце ў Любліне (Польшча), у 2005 г. — ступень ліцэнзіята біблейскай тэалогіі ў тым жа універсітэце. Выкладчык біблейскай тэалогіі ў Вышэйшай міждыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску, дырэктар семінарыйнай бібліятэкі.



Антоні Пільх — польскі лютніст і бандурыст. Выпускнік Каралеўскага каледжа ў Лондане, прафесар Кракаўскай акадэміі музыкі, кіраўнік музычнага таварыства «Lutnia Staropolska», з 2007 г. — арганізатар міжнароднага фестывалю «Lutnia świata» ў Кракаве.

# Лютня — ключ да разумення Рэнесанса

Сэнс культурных здабыткаў старажытнасці хаваецца ад нас за сцяною загадкавых кодаў і метафарычных сімвалаў. Яны атачаюць нас у сярэднявечнай архітэктуры, прымушаюць засяродзіцца перад жывапісам, але музычныя табулатуры застаюцца для нас маўклівымі. На іх пажоўклых старонках мы бачым нагрувашчванне дзіўных знакаў, аднак не можам іх разгадаць, пачуць і, галоўнае, адчуць чароўную музыку эпохаў Адраджэння, Барока. Можа, таму і карціна «Лютніст», напісаная Мікеланджэло Караваджо, застаецца для многіх маўклівай, хоць паводле сюжэта яна прасякнутая асаблівым музычным духам... Напэўна, сярод нас няшмат людзей, якія зведалі гэтыя таямніцы і чуюць гукі ў бязгучным мінулым. У іх асобах мы бачым летуценнікаў, вольналюбівых мысляроў, не падуладных рэнегацтву і вакхалічным забавам. Польскі лютніст Антоні Пільх прыцягнуў маю ўвагу яшчэ тры гады таму. Тады ён прымаў удзел у фестывалі старажытнай музыкі «Залатагорская ліра». Задумлівы, сціпла апрануты музыкант больш нагадваў падарожніка з адзінай рэччу ў валізе — лютняй. З яе дапамогай лютніст шчыра размаўляў са слухачамі на музычнай мове ўлюбёнага Рэнесанса. Падчас чарговага візіту ў Беларусь пан Антоні ізноў граў перад жыхарамі сталіцы, а напярэдадні канцэрта, які ладзіў ў Чырвоным касцёле Польскі інстытут і музычнае аб'яднанне «Ліра», распавёў нашаму часопісу пра выдатнага Войцеха Длугарая, лютністаў у касцёльных працэсіях і агульную спадчыну.

— Ведаеце, нашыя краіны, як і Украіна, і нават заходняя Расія, валодаюць вялікаю спадчынай, — пачынае гутарку мой суразмоўца. — Я бачу сучасную Еўропу ў яе старажытных, гістарычных межах, таму і ўкраінскія, і беларускія каштоўнасці адношу да еўрапейскіх здабыткаў культуры. У XVI–XVII стагоддзях Рэч Паспалітая з'яўлялася буйным палітычным і культурным цэнтрам кантынента. Дарэчы, з гэтага вынікае, што сённяшняя Еўропа нарадзілася і на Усходзе, і на Поўдні, і на Захадзе. Мы не толькі захоўвалі асаблівы культурны вобраз, супрацьстаялі Усходу, але і пазычалі ў яго адпаведныя культурныя рысы. Напрыклад, я нарадзіўся на ўсходзе Польшчы, у Пшэмыслі. Ён, як і многія беларускія гарады, быў шматнацыянальным мястэчкам. Акрамя палякаў, у ім жылі габрэі, аўстрыйцы, украінцы, рускія. Але атмасфера мястэчка была сяброўскай, і, як мне здаецца, я здолеў увабраць у сябе яго шматкультурныя традыцыі. Я ганаруся тым, што з'яўляюся нашчадкам носьбітаў польскіх, беларускіх і ўкраінскіх каштоўнасцяў. Дзякуючы гэтай агульнасці традыцый мы адчуваем жывую крыніцу, якая пульсуе з душы нашых этнасаў, узбагачае і ўдасканальвае нас. Спадчына — важная частка сучаснага жыцця, да якой мы заўжды павінны звяртацца па натхненне.

Калі грамадства ўсведамляе важкасць спадчыны, яно больш актыўна пачынае цікавіцца гісторыяй. Менавіта гісторыя дае нам шмат карыснага ў спазнаванні мінулага. Мяне даўно пачаў цікавіць Рэнесанс. І, як мне здаецца, своеасаблівым ключом да гэтай эпохі з'яўляецца лютня. Спачатку я граў на класічнай гітары, але ўжо тады зацікавіўся сярэднявечным рэпертуарам і паступова наблізіўся да сваёй мары — магчымасці пачуць гучанне лютні. Калі я граю на лютні, лепш разумею жывапіс, філасофію і ўсё мастацтва Адраджэння, якое ўвесь час гаворыць пра вялікую любоў да чалавека, а менавіта чалавек культуры быў тады цэнтрам культуры. І гэты чалавек здаецца мне вельмі блізкім, мудрым, удумлівым. Я зразумеў, што Адраджэнне дапамагае нам знайсці ўнутраную гармонію.

*— Паводле адной з версіяў, лютню — інструмент, які стаў досыць папулярным у сярэднявечнай Еўропе, як ні дзіўна, змайстравалі на Бліжнім Усходзе...*

— Так і ёсць. У Еўропу лютня трапіла падчас крыжовых паходаў альбо падчас акупацыі маўрамі Пірэнейскага паўвострава. Лютня «прыйшла» на кантынет і сустрэлася з зусім іншай ментальнасцю. У выніку гэтага музычны інструмент змяняў форму, колькасць струнаў. Быць лютністам лічылася прэстыжна, гэта значыла граць перад каралём, багатымі і заможнымі ўладарамі. Адметна, што аўтарамі песняў, якія выконвалі лютністы, былі і манархі, напрыклад кароль Кастыліі і Леона (сучасная Іспанія. – Т. Ш.), Альфонс X Мудры...

*— А калі лютністы з'явіліся на абсягах Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага?*

— Дзесьці ў XV стагоддзі лютністы пачалі выступаць у нашых краінах. У той час, а нават і пазней, калі мы былі падпарадкаваныя Аўстра-Венгрыі ці Расійскай імперыі, таленавітыя асобы мелі вельмі добрыя магчымасці ўдасканальвацца. Людзі маглі вольна ездзіць на вучобу ў Рым і ў Парыж, пераймаць вопыт і працаваць, вандраваць, выступаць на радзіме.

*— А ці склаліся на тэрыторыі Усходняй Еўропы школы лютністаў?*

— Не, фактычна ў той час жылі адзінкавыя майстры, якія збіралі моладзь і вучылі граць на лютні. У Кракаве выраблялі вельмі шмат лютняў. Інструмент быў ледзь не ў кожнай сям'і. Найбольш вядомымі лютністамі былі Длугарай, Полак, Віката, Бакфарк, Даўленд. Песні гэтых майстроў ёсць ва ўсіх табулатурах Еўропы. Я гляджу ў галоўную табулатуру XVI стагоддзя «Thezaurus harmonicus» і бачу творы Войцеха Длугарая, майго суайчынніка, якога ведалі ва ўсёй Еўропе. Мяркую, што свае лютністы былі і ў Вялікім Княстве, аднак іх прозвішчы я не ведаю. Затое ў вас нядаўна стварылі Беларускі клуб лютністаў. Спадзяюся, што дзякуючы намаганням гэтага клуба лютня стане больш папулярным інструментам у вашай краіне. Дарэчы, у Пінску жыве і працуе майстар Юры Дубнавіцкі, які сам вырабляе лютні.

*— Ці была лютня ў Сярэднявечны літургічным інструментам?*

— Хутчэй за ўсё, не. Гэта найперш свецкі інструмент, аднак існуе шмат вакальных апрацовак рэлігійнай музыкі для лютні, вызначаных для хатняга выканання. Адметна, што калі ў касцёле лютня не выкарыстоўвалася, то падчас вялікіх рэлігійных працэсій яе можна было пачуць. У венецыянскім жывапісе ёсць сюжэты, дзе ў працэсіі флейтыст і лютніст рушаць каля святароў.

*— Пан Антоні, Вы пачалі займацца музыкай у 60—70-я гады мінулага стагоддзя, у час, калі людзі сталі актыўна цікавіцца новай, далёка не сярэднявечнай культурай. Чым тады Вас прывабіла лютня?*

— На фоне ўсяго авангарду, які я слухаў у той час, музыка Рэнесанса вызначалася вялікай гармоніяй і адбівалася ў маім сэрцы адчуваннем моцнай тугі. Мне вельмі цяжка растлумачыць гэтае пачуцце, пачуццё чалавека, які сумуе па раўнавазе ў нашым свеце...

Я ўвесь час жыў ідэяй правесці вялікі музычны фэст у горадзе, пабудаваным у форме лютні. Дарэчы, у сярэднявечных хроніках гаворыцца, што Кракаў з вышыні Вавеля нагадвае менавіта лютню. Добра, што фестываль праводзіцца ўжо не першы год. «Лютня свету» — гэта форум усіх культураў, музычныя інструменты якіх увасабляюць гармонію нябёсаў. На нашым фестывалі можна пачуць не толькі ўжо добра вядомую барочную лютню, але і досыць экзатычны індыйскі сітар...

— Я праводжу шмат часу, імправізуючы на лютні. Гэты працэс вельмі важны для музыканта, бо яшчэ ў Сярэднявеччы імправізацыя была адным з галоўных прынцыпаў лютніста. У імправізацыі я імкнуся дасягнуць рэнесансных каранёў, але не хачу, каб яны сталі перашкодай для майго ўспрымання сучаснай культуры. Што да эксперымента, то, каб выконваць творы сучасных кампазітараў, трэба іх чуць і ведаць. На жаль, я не знаёмы з творчасцю сучаснікаў. Я граю музыку Рэнесанса, а сучаснасці мне хапае ва ўласных маіх вольных мелодыях.

*Гутарку запісаў*
*Тарас ШЧЫРЫ.*

## CONTENTS

Article by Valery Buival *Jan Matejko. Battle of Grunwald* opens this issue of *Our Faith*. The author tells readers about one of the masterpieces of Polish art (p. 2-3).

In this issue we publish series of various articles, dedicated to the 300th anniversary of the consecration of Minsk Archcathedral of the Name of the Blessed Virgin Mary. Address of Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz to readers and introductory word by editor Kristina Lalko begin this series. We offer to readers document of the early 90s *Open Letter* of the famous cultural figures of Belarus to the government of the Republic of Belarus with request to return Minsk Archcathedral to the believers (p. 4-7).

Old and modern history of the Archcathedral is covered in articles *In the Rays of Another Sky* by Arkadz Shpunt and *The Queen, Reborn from the Ashes* by Wiktor Wilk. Artistic interpretation of the Archcathedral history is offered in verse *Minsk Archcathedral* by Marian Duksa, *In the Cathedral* by Iryna Bagdanovich, *A Drawing* by Danuta Bichel, and in prosaic impression *Where there is no Darkness* by Yulia Shedzko (p. 8-17).

The Editorial board also introduces readers to new album *In Nomine Domini*, dedicated to the Archcathedral (p. 18).

Researcher Yury Lauryk reveals one more page in the history of this sanctuary in his article *The Famous Preacher* and in the sermon of father Mihal Karpowicz, delivered in the Archcathedral in March 1779 (p. 19-24).

*"I Pray Every Day..."* is the title of interview of Chief Editor Kristina Lalko with Ambassador Extraordinary and Plenipotentiary of the French Republic to the Republic of Belarus Michel Raineri (p. 25-30).

Article by literary critic Iryna Bagdanovich *I Prayed for Belarus* is dedicated to the 120th anniversary of the birth of priest and writer Yazep Germanovich (Vintsuk the Brave), as well as the publication of certain works of this priest (p. 31-37).

In column *Translations* the continuation of *The Flowers of St. Francis* is printed in translation by Aksana Danilchyk (p. 38-40).

In column *Ad fontes* we place the continuation of the famous work by Thomas à Kempis *The Imitation of Christ* translated in the Belarusian language by Dr. Stanislaw Grynkevich in the 30s of the last century (p. 41-43).

We continue to publish translation of book *Defending Faith* from the Polish language, devoted to father Stanislau Zhuk (p. 44-46).

Several materials in our magazine is dedicated to the 100th anniversary of the birth of poetess Larysa Geniusz such as reportage *Their Ways in the Winged...* marked the celebration of this anniversary in Zelva, a number of poems by Danuta Bichel, and article *By Seine from Zalvianka* by Mihas Skobla and prepared by him for printing, unpublished before, verse by Larysa Geniusz (p. 47-52).

On the occasion of the 60th anniversary of poet and prose writer Leanid Galubovich we print articles *Six Remarks about Leanid Galubovich* by Mihas Skobla and *Homo Homini, or the Word about a Man* by Ales Chobat (p. 53-55).

Articles *Grunwald beyond the Haze of Time* by Mikola Kupava and *Hills of Grunwald* by Danuta Bichel tell readers of the art exhibitions that took place in Grodno and Minsk on the occasion of the 600th anniversary of the victory at Grunwald (p. 56-64).

Article by father Andrey Zajchyk is dedicated to the person of poet Alaksandr Rypinski and his works (p. 65-69).

*Lute is the Key to Understanding the Renaissance* is the title of interview of Taras Shchyry with Polish lutenist and bandura player Antoni Pilch (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel von Walery Bujwal „Jan Matejko. Die Schlacht bei Tannenberg", wo der Autor über eines der Meisterwerke der polnischen Kunst erzählt (S. 2-3).

Dem 300. Jubiläum der Einweihung der Minsker Erzkathedrale des Namens der Heiligsten Jungfrau Maria ist der Zyklus von verschiedenen Materialien gewidmet, der mit der Rede des Erzbischofs Kondrusiewicz und mit dem Vorwort der Zeitschriftenredakteurin Kristina Lialko beginnt. Den Lesern wird die Publikation des Dokumentes der frühen 90er Jahre angeboten. Das ist der „Offene Brief" der belarussischen schöpferischen Intellektuellen an die Regierung der Republik Belarus mit der Bitte um die Rückgabe der Erzkathedrale an die Gläubigen (S. 4-7).

Um die alte und die gegenwärtige Geschichte des Heiligtums handelt es sich im Artikel von Arkadzj Schpunt und Viktar Wiljka „Die Königin, die von den Ruinen wiederaufgebaut wurde". Das künstliche Erfassen dieser Geschichte wird den Lesern in den Gedichten von Marjan Duksa „Die Minsker Erzkathedrale", Iryna Bagdanowitsch „In der Erzkathedrale", Danuta Bitschel „Das Bild" und im Essay von Julija Schedzko „Dort, wo es keine Dunkelheit gibt" angeboten (S. 8-17).

Die Redaktion macht die Leser auch mit dem neuen Album „In nomine Domini" bekannt, das der Erzkathedrale gewidmet ist (S. 18).

Eine besondere Seite der Geschichte dieses Heiligtums zeigt der Forscher Jury Lauruk im Artikel „Der bekannte Prediger" und die Publikationen der Predigt des Priesters Michal Karpowitsch, die im März 1779 in der Erzkathedrale gehalten wurde (S. 19-24).

„Ich bete jeden Tag…" heißt das Interview der Chefredakteurin der Zeitschrift Kristina Lialko mit dem Außerordentlichen und Bevollmächtigten Botschafter der Französischen Republik in der Republik Belarus Michel Raineri (S. 25-30).

Dem 120. Geburtstag des Priesters und Schriftstellers Jasep Germanowitsch (Winzuk Adwashny) ist der Artikel der Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch „Gebete für Belarus" und die Publikation einiger seiner Werke gewidmet (S. 31-37).

In der Rubrik „Übersetzungen" befindet sich die Fortsetzung der „Blümchen des heiligen Franziskus" in der Übersetzung von Aksana Daniltschyk (S. 38-40).

In der Rubrik „Ad fontes" ist die Fortsetzung des berühmten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" in der belarussischen Übersetzung, die Dr. Stanislau Grynkewitsch in den dreißiger Jahren des vorigen Jahrhunderts gemacht hat (S. 41-43).

Die Publikation der Übersetzung des Buches „Auf Glaubenswacht" aus dem Polnischen wird fortgesetzt. Das Buch ist der Person des Priesters Stanislau Shuk gewidmet (S. 44-46).

Einige Materialien der Zeitschrift sind dem 100. Geburtstag der Lyrikerin Laryssa Genijusch gewidmet: die Reportage „Geflügelte haben eigene Wege…" über das Feiern dieses Jubiläums in Selwa und eine Reihe der Gedichte von Danuta Bitschel sowie der Artikel von Michasj Skobla „Mit dem Fischnetz aus der Sjalwjanka" und die von ihm zum Druck vorbereiteten bisher unveröffentlichten Gedichte von Laryssa Genijusch (S. 47-52).

Anlässlich des 60. Jubiläums des Poeten und Prosaikers Leanid Galubowitsch sind die Materialien von Michasj Skobla „Sechs Abende mit Leanid Galubowitsch" und von Alesj Tschobat „Homo homini, oder die Worte über den Menschen" veröffentlicht (S. 53-55).

Über die Kunstausstellungen, die in Grodno und Minsk anlässlich des 600. Jahrestages des Sieges bei Tannenberg veranstaltet wurden, erzählen Mikola Kupawa im Artikel „Tannenberg im Nebel der Zeit" und Danuta Bitschel „Die Hügel von Tannenberg" (S. 56-64).

Der Person und dem Schaffen des Poeten Alexandr Rypinski ist der Artikel des Priesters Andrej Sajtschyk gewidmet (S. 65-69).

„Die Laute ist der Schlüssel zu der Renaissance" heißt das Interview von Taras Schtschyry mit dem Polnischen Lautenisten und Banduraspieler Antoni Pilch (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma otwiera artykuł Waleryja Bujwała pt. „Jan Matejko. Bitwa pod Grunwaldem", w którym autor opowiada o znanym arcydziele sztuki polskiej (s. 2-3).

Z okazji 300. rocznicy konsekracji obecnej archikatedry mińskiej p.w. Imienia NMP została poświęcona seria artykułów, którą rozpoczyna Słowo do Czytelników arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza i przedmowa redaktora naczelnego czasopisma pani Krystyny Lalko. Czytelnikom proponuje się publikacja dokumentu z początku lat 90-tych — „List otwarty" białoruskiej inteligencji twórczej do Rządu Republiki Białoruś z prośbą o zwrot wiernym archikatedry (s. 4-7).

Dawna i współczesna historia kościoła przedstawiona jest w artykułach Arkadzia Szpunta „W promieniach nieba innego" i Wiktora Wilka „Królowa odrodzona z ruin". Artystyczne spójrzenie na tę historię ukazuje się w wierszach Mariana Duksy „Archikatedra mińska", Iryny Bahdanowicz „W katedrze", Danuty Biczel „Obraz" oraz impresji prozaicznej Julii Szedźko „Tam, gdzie nie ma zmroku" (s. 8-17).

Redakcja zapoznaje Czytelników z nowym albumem o archikatedrze „In nomine Domini" (s. 18).

Odrębną kartę historii tego kościoła ukazuje badacz Jury Lauryk w artykule „Sławny kaznodzieja" i w publikacji kazania księdza Michała Karpowicza wygłoszonego w archikatedrze w marcu 1779 roku (s. 19-24).

„Modlę się codziennie... " — taki tytuł nosi wywiad redaktorki „NW" Krystyny Lalko z Nadzwyczajnym i Pełnomocnym Ambasadorem Francji w Republice Białoruś Michelem Raineri (s. 25-30).

120-leciu rocznicy urodzenia księdza i pisarza Jazepa Hermanowicza (Wincuka Adważnaha) poświęcony jest artykuł znawcy literatury Iryny Bahdanowicz „Modliłem się za Białoruś", oraz publikacja niektórych utworów jubilata (s. 31-37).

W rubryce *„Tłumaczenia"* drukuje się ciąg dalszy „Kwiatków św. Franciszka" w tłumaczeniu Aksany Danilczyk (s. 38-40).

W rubryce *„Ad fontes"* Czytelnicy znajdą ciąg dalszy słynnej pracy Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", która została przetłumaczona na język białoruski przez dra Stanisława Hrynkiewicza w latach 30-tych minionego stulecia (s. 41-43).

Kontynuuje się publikacja tłumaczenia z języka polskiego książki „Na straży wiary" poświęconej osobie księdza Stanisława Żuka (s. 44-46).

Kilka materiałów czasopisma poswięcone zostały 100. rocznicy z dnia urodzenia poetki Larysy Geniusz: reportaż „Skrzydłate mają własne drogi..." o świętowaniu tego jubileuszu w Zelwie, wiersze Danuty Biczel, artykuł Michasia Skobły „Niewodem z Zalwianki" oraz przygotowane przez niego do druku niepublikowane wiersze Larysy Geniusz (s. 47-54).

Z okazji 60. rocznicy jubileuszu poety Leanida Hałubowicza drukują się teksty Michasia Skobły „Sześć notatek z Leanidam Hałubowiczem" i Alesia Czobata *„Homo homini*, albo słowo o człowieku" (s. 53-55).

O wystawach artystycznych, które odbyły się w Grodnie i Mińsku z okazji 600-lecia zwycięztwa pod Grunwaldem rozpowiada się w tekstach Mikoły Kupawy „Grunwald pod powłoką czasu" i Danuty Biczel „Pagórki Grunwalda" (s. 56-64).

O osobie i twórczości poety Alaksandra Rypińskiego jest artykuł autorstwa ks. Andrzeja Zajczyka (s. 65-69).

„Lutnia kluczem do zrozumienia Renesansu" — taki tytuł nosi wywiad Tarasa Szczyraha ze znanym polskim lutnistą i bandurzystą Antonim Pilchem (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero della rivista inizia con la pubblicazione dell'articolo del critico d'arte Valery Bujval "Jan Mateiko. La battaglia di Grunvald", nel quale l'autore racconta di questo capolavoro della pittura polacca (p. 2-3).

Una serie di mariali che inizia con i discorsi ai lettori dell'arcivescovo Tadeusz Kondrusiewicz e della Direttrice della nostra rivista Krystyna Lalko è dedicata al 300° anniversario della consacrazione dell'Arcicattedrale di Santa Vergine Maria. All'attenzione dei lettori si sottopone la pubblicazione del documento degli inizi degli anni novanta „La lettera aperta" degli intellettuali bielorussi al Governo della Repubblica di Belarus con la richiesta di restituire l'Arcicattedrale ai credenti (p. 4-7).

Gli articoli di Arkadz Špunt „Nei raggi di un cielo diverso" e di Viktor Wilk „La regina rinata dalle rovine" sono dedicati alla storia antica e contemporanea del santuario. Le poesie „La Cattedrale di Minsk" di Marian Duksa, „Nella Cattedrale" di Iryna Bagdanovič, „Il disegno" di Danuta Bicel e l'opera in prosa di Julia Šedzko „Dove non c'è buio" sono una riflessione artistica sulla storia della Cattedrale (p. 8-17).

La Direzione della rivista presenta ai lettori il nuovo album „In nomine Domini" dedicato alla Cattedrale (p. 18).

Il ricercatore Jury Lauryk nell'articolo "Il famoso predicatore" e nella pubblicazione della predica del parroco Mikhal Karpovič tenuta presso la Cattedrale nel marzo del 1779 apre una pagina particolare della storia del santuario (p. 19-24).

L'intervista fatta dalla Direttrice della rivista Krystyna Lialko all'Ambsaciatore Straordinario e Plenipotenziario della Repubblica Francese nella Repubblica di Belarus Michel Raineri si chiama "Prego ogni giorno..." (p. 25-30).

L'articolo di Iryna Bagdanovič "Pregava per la Bielorussia" è dedicato al 120° anniversario della nascita del sacerdote e dello scrittore Jazep Ghermanovič (Vinzuk Advažny). Si pubblicano anche alcune opere del celebrato (p. 31-37).

Continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco eseguita da Aksana Danilchyk (p. 38-40).

Nella rubrica *Ad fontes* all'attenzione dei lettori si sottopone la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, la cui traduzione è stata effettuata negli anni trenta del secolo scorso dal Dottore Stanislau Grynkevič (p. 41-43).

Continua anche la pubblicazione del brano del libro "Alla guardia della fede" dedicato alla persona del sacerdote Stanislau Žuk tradotto dal polacco (p. 44-46).

Alcuni materiali della rivista sono dedicati al 100° anniversario della nascita della poetessa Larysa Gheniuš come il servizio "Le strade proprie hanno gli alati...", che racconta ai festeggiamenti dell'anniversario a Zelva, le poesie di Danuta Bicel, l'articolo di Mikhas Skobla "Con la rete di aggiramento dalla Zelvianka" e le poesie di Larysa Gheniuš mai pubblicate finora e preparate alla pubblicazione da M.Skobla (p. 47-52).

In occasione del 60° anniversario del poeta e prosatore Leanid Galubovič si pubblicano gli articoli di Mikhas Skobla "Sei appunti con Leanid Galubovič" e di Ales Čobat "Homo homini, oppure la parola sull'uomo" (p. 53-55).

Negli articoli di Mikola Kupava "Grunvald dietro la nebbia del tempo" e di Danuta Bicel "Le colline di Grunvald" si racconta delle esposizioni che hanno avuto luogo a Grodno e a Minsk in occasione del 600° anniversario della vittoria di Grunvald (p. 56-64).

L'articolo del parroco Andrei Zajčyk è dedicato alla personalitŕ e all'opera di Aliaksandr Rypinski (p. 65-69).

L'intervista fatta da Taras Ščyry al liutista e suonatore di bandura polacco Antoni Pilkh si chiama "Il liuto come chiave per capire il Rinascimento" (p. 70-71).

---

На 1-й старонцы вокладкі — выява анёла. Фрэска на скляпенні прэзбітэрыя мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Фота М. Новікава.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 3 (53)/2010.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 28.09.2010 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №  .*

*Надрукавана ў друкарні ТАА «Прамкомплекс» ЛП № 02330/0494121 ад 25.02.2009.*

*вул. Бехцерава, 10-402, 220021 г. Мінск.*

